ISSN 0320-7544

# БЕЛАРУСЬ

9 1991





## БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ...

Гэты нумар ім прысвячаецца

# СУСТРЭЧА З ЧАЛАВЕКАМ, ЛЁС ЯКОГА ЗАСТАЕЦЦА І ПА СЁННЯ ЗАГАДКАЮ



*Хто стаіць тварам да мінулага, а не да будучага, той не рэвалюцыянер. Пакінуўшы Расію ў 1875 годзе, я працягваў абараняць свае пазіцыі і адначасова ратаваць сваю душу ад засілля драпежнікаў у розных кутках зямнога шара.*

Руссель

СПРОБА НЕЗВЫЧАЙНАГА БЛІЦІНТЭРВ'Ю ПА АСАБІСТЫХ ПЫТАННЯХ З ДОКТАРАМ МІКАЛАЕМ СУДЗІЛОЎСКІМ-РУСЕЛЕМ ЧЫТАЙЦЕ НА 34-Й СТАРОНЦЫ.

# У нумары

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Як вядома, у краіне дэфіцыт паперы. Зараз яна выдзяляецца нам толькі на тыраж па падпісцы. Таму ў кіёскі «Саюздруку» часопіс можа і не трапіць. Толькі падпіска гарантуе вам, паважаныя чытачы, поўны гадавы камплект «Беларусі».**

ПЕРШАЯ СТАРОНКА ВОКЛАДКІ: САФІЙСКІ САБОР У ПОЛАЦКУ.

**Здымак Юрыя ІВАНОВА.**



Якія дарогі вялі да Жыровіцкага манастыра Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II?

Роздум над этнаграфічнымі картамі беларускага племені. (Год 1903-ці і год 1917-ты).



**«Я — Станіслаў Скарына, нашчадак Францыска...»** Дыялог, распачаты ў Манрэалі і завершаны ў Полацку.

**«...— Я не займаюся беларусістыкай, але працую на Беларусь, а менавіта — на Ватыканскім радыё... ...— Першую «Біблію» нам дала беларуская эміграцыя...»** (Фрагмент гаворкі за «круглым сталом» па тэме «Беларуская дыяспара»).



Увесь свет павінен ведаць: **кожны чацвёрты жыхар Беларусі загінуў на вайне: кожнага трэцяга — крануў чорным крылом Чарнобыль.**

### *АДКАЗЫ НА ФОТАВІКТАРЫНУ, НАДРУКАВАНУЮ У № 5 НАШАГА ЧАСОПІСА:*

*1. На здымку — вядомы беларускі пісьменнік Аляксей Дудараў, які дэбютаваў у друку ў 1979 г. кнігай «Святая птушка».*

*2. Беларускаму гледачу добра знаёмы кароткаметражныя фільмы «Кола», «Дэбют», «Буслянё» і мастацкія «Суседзі», «Белыя росы», «Восеньскія сны», знятыя па яго сцэнарыях.*

*3. Аўтар такіх вядомых п'ес, як «Радавыя», «Вечар», «Парог», А. Дудараў сумесна з А. Жуком напісаў п'есу «Паляванне на апошняга жураўля» і разам з У. Някляевым — п'есу «Вежа».*

*Правільныя адказы прыслалі* **Г. Радзівонаў** *з Сыктыўкара,* **Л. Рымша** *з Бешанковіцкага раёна,* **П. Пруднік** *з Івацэвіч,* **Р. Сілівончык** *з Гомеля.*

**Індзіра Гандзі: «Ён адзіны, хто спасцігнуў душу Індыі». Хто ж ён!**





Беластоцкая «Белая вежа» туліцца да пушчы Белавежскай, і творчыя пошукі паэтаў і празаікаў лучацца з нацыянальнымі традыцыямі. (Пераклады з польскай мовы).



Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,
публіцыст

# КАМУ ВЕРЫЦЬ: ГІМНУ ЦІ ЛЮДЗЯМ?

Раніцою прачынаюся пад урачыстую мелодыю Дзяржаўнага гімна Беларускай ССР. Слухаю з дзяцінства знаёмыя словы: «Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход. Партыі слава!..» і г. д.

Упоўдзень прыязджаю на плошчу імя Леніна і чую дыяметральна процілеглыя заклікі: «Няхай жыве КПСС на Чарнобыльскай АЭС!», «КПБ — за прахадную!», «Аддайце партыйныя палацы хворым дзецям!».

Міжволі думаю: хто ж мае рацыю? Каму верыць? Гімну ці людзям, якія пакінулі заводскія цэхі і прыйшлі сюды, каб выказаць свой пратэст супраць жабрацкага існавання? Больш як 70 гадоў вяла нас партыя да шчасця, а што маем? Эканамічнае і духоўнае банкруцтва. Дык ці варта славіць яе за гэта тройчы кожную раніцу?

Слухаючы гімн, хочацца падысці да акна, каб убачыць «сцяг камунізму — радасці сцяг». Але як ні ўглядайся — не відно яго. Няма ні сцяга, ні камунізму. Ды і, наогул, ці наступіць ён калі-небудзь? Бо ніхто і нідзе на Зямлі яго не будаваў дый будаваць не збіраецца. Хаця, магчыма, камунізм і быў бы пабудаваны — ідэал сапраўды цудоўны (хто адмовіцца жыць у грамадстве, адлюстраваным у «Туманнасці Андрамеды» І. Яфрэмава), калі б чалавецтва цалкам складалася з мудрых Скарынаў, далікатных Багдановічаў, сумленных Караткевічаў. Аднак «новага чалавека» нам вывесці не ўдалося, хоць і звялі ў Курапаты тысячы звычайных людзей. Камунізм на справе аказаўся не чым іншым, як утопіяй. Пакуль мы трубілі ў трубы і знішчалі, знішчалі і зноў трубілі, у іншых краінах нашчадкі «рэнегата Каўцкага» дбалі аб лёсе сваіх суайчыннікаў. І пенсіі, сацыяльнае страхаванне там дасягнулі такога ўзроўню, які нам і не сніўся ў нашым «рэальным сацыялізме» —

Мікола ЕРМАЛОВІЧ,
гісторык, пісьменнік.



# ШАНУЙМА ДАЎНІНУ

Няўдзячнымі могуць быць толькі людзі. Гісторык кожнаму аддае належнае, становячыся на бок тых, хто здзяйсняў вялікія справы на карысць Бацькаўшчыны. Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Клімецій Смаляціч... Заслугі іх перад народам, сілу іх духу не сцерлі стагоддзі, не пахіснулі бяспамяцтва і людская няўдзячнасць. Ад іх з гераічнага мінулага зямлі нашае прамяніцца той агонь, які асвятляе шлях у цемры і саграе душы. Наша паветра насычана гарачым дыханнем гісторыі, і нельга не прыгадаць, што кожны вялікі чалавек заўсёды з'яўляўся вынікам і адлюстраваннем нейкай глыбокай сацыяльнай з'явы.

XII стагоддзе, якое падарыла нам вышэй названых мною славутых асветнікаў, характарызавалася высокім развіццём першых дзяржаўных утварэнняў на Беларусі: Полацкага, Смаленскага і Тураўскага княстваў. У XV — XVI стагоддзях, калі грамадска-палітычнае жыццё набывае небывалую сілу, з'яўляецца не толькі аб'яднаная дзяржава — Вялікае княства Літоўскае, але і цэлая кагорта выдатных культурных і грамадскіх дзеячаў, якія вылучаліся глыбінёй інтэлекту, сілай уяўлення і актыўнасцю душы, натхнёна служылі праўдзе і прагрэсу. Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, Сімяон Полацкі... Імёны кажуць самі за сябе!

І так было скрозь, праз усе стагоддзі. Паўстанне 1863-64 гадоў, калі Беларусь перажывала высокі грамадскі ўздым, «на-

Аляксандр ШАБАЛІН,
публіцыст



# ЧЭСНАЕ СЛОВА

«Трымаецца на чэсным слове»... Колькі разоў кожны з нас чуў гэты выраз з вуснаў іншых, дый сам, напэўна, ужываў, нават не задумваючыся над тым, які абразлівы сэнс ён у сабе тоіць,ператвараючы чэснае слова ў сінонім ненадзейнасці і неабавязковасці.

Горка. І найперш ад усведамлення таго, што ў вышэйпамянёным выразе — не выпадковая гульня слоў, а пэўнае выяўленне тых духоўных дэфармацый, той ціхай контррэвалюцыі духу, што адбыліся ў нашай свядомасці за апошнія дзесяцігоддзі, калі чорнае мы прызывычаіліся называць белым, а белае — чорным.

А здаецца ж, яшчэ нядаўна за вернасць чэснаму слову сапраўдныя мужчыны ішлі на дуэль; а сімпатычны хлопчык з вядомага апавядання Леаніда Панцялеева да знямогі стаяў на варце, пакуль маёр ў кавалерыйскай фуражцы не зняў яго з паста.

Яшчэ нядаўна лепшых людзей грамадства называлі «невольн камі чести».

Яшчэ нядаўна панацце «гонар мундзіра» межавала з вышэйшай адзнакай асобы, а сёння яно стала падставай для фельетоннага загалоўка.

Таму што сёння слова нашага суайчынніка, падобна айчыннаму рублю, жахліва дэвальвавалася. Катастрафічна збядней залаты запас, што яго забяспечваў,— людская інтэлігентнасць, высакароднасць, звычайныя шчырасць і сумленнасць.

Мы ўжо не здзіўляемся і не абураемся, калі без падстаў адмяняецца абяцаны візіт да сябра, зрываюцца пастаўкі аднаго прадпрыемства другому, не пагашаецца ў вызначаны тэрмін дзяржаўная пазыка.

Хлусня, набыўшы характар эпідэміі на побытавым узроўні, вырасла, на вялікі жаль, да ашуканства ў дзяржаўным маштабе.

Калі і чаму ўсё гэта адбылося — разбірацца філосафам, гісторыкам, сацыёлагам. Але

«першай фазе камунізму».

Пішу гэтыя радкі і бачу свайго ўяўнага апанента, чую рэзка незадаволены вокліч: «Не падабаецца гімн — вушы ватай заткні!». Згодны, у 6.05 можна выключыць рэпрадуктар. Але як быць з дзецьмі — нашай будучыняй і надзеяй? З першага класа іх прымушаюць завучваць тэкст гімна, завучваць, мякка кажучы, догмы, выконваць песню, словы якой далёкія ад рэалій жыцця. Выходзіць, са школьнай парты мы іх афіцыйна прывучваем крывадушнічаць, гаварыць няпраўду, двурушнічаць?

У тэксце нашага гімна можна «спатыкнуцца» не толькі на сцвярджэннях аб ролі партыі, камунізму, дружбы народаў. Возьмем хаця б першыя радкі: «Мы — беларусы з братняю Руссю разам шукалі к шчасцю дарог...» Дазвольце спытаць: а чаму менавіта з рускімі мы ішлі на пошукі таго ілюзорнага шчасця? А дзе былі украінцы, літоўцы, узбекі, татары, карачаеўцы?.. Баставалі ці на Салаўках лес пляжылі? Альбо звернемся да другога куплета: «Вечна мы будзем, вольныя людзі, жыць на шчаслівай вольнай зямлі». Хто гэта — вольныя людзі? Беларусы? Заяўляць так — здзекавацца з людзей. Якія ж мы вольныя, калі не можам набыць нават тое, чаго хочацца? Калі родная мова залічана ледзь не ў ранг замежных. І якая гэта вольная зямля, калі яе не аддаюць селяніну, нягледзячы на «гістарычныя» рашэнні парламента.

Як ні круці — састарэў наш гімн. Ды ці можна назваць яго гімнам? Як вядома, словы яго Міхась Клімковіч (дарэчы, член ЦК ВКП(б)Б) напісаў у 1944 годзе. Там яшчэ радок быў: «Партыі слава! Сталіну слава!». Хутчэй за ўсё, паэт выконваў сацыяльна-класавы заказ. Неўзабаве Несцер Сакалоўскі паклаў словы на музыку. Праўда, абодва так і не даведаліся, што сталі аўтарамі Дзяржаўнага гімна БССР, пайшлі з жыцця. Толькі праз 11 гадоў пасля з'яўлення верша, 1 кастрычніка 1955 года, у Беларускім акадэмічным тэатры оперы і балета прагучаў твор, які мы зараз чуем кожную раніцу.

Карацей кажучы, увабраў гімн усе нашы супярэчнасці і памылкі, адлюстраваў нас саміх. Але ж мы мяняемся, іншымі робяцца нашы свядомасць і пачуцці. Мы звяртаемся да сваіх светлых крыніц, пачынаем усё пільней шанаваць агульначалавечыя, ды і свае, нацыянальныя, вартасці, а наш гімн усё славіць адно партыю ды камунізм. Ага, яшчэ беларускі народ. Так мы прывыклі, так зручней: паславіць народ у афіцыйным гімне, на святочнай трыбуне, увекавечыць гэтыя словы ў мёртвым граніце, на адозвах і — забыцца на той народ. Няхай выжывае, калі здолее, без чыстых рэчак і чыстай сваёй гаворкі, без веры ў сябе і ў добрыя пачаткі сусвету! Без той песні, што здольная аб'яднаць, запаліць надзеяй, стаць раднёю ў гэтым свеце?

Мяркую, нам патрэбен новы Дзяржаўны гімн. Дапускаю, што мелодыя можа застацца, але тэкст просіцца зусім іншы. Гімн — сімвал і душа нацыі. І ён павінен увабраць у сябе боль і надзеі шматпакутнай Беларусі, яе мужнасць і працавітасць. Магчыма, такія вершы ўжо напісаны — адшукаць іх! А можа, лепей аб'явіць конкурс на лепшы тэкст, а заадно і мелодыю? Гэта павінен быць твор, які б служыў стагоддзі, нягледзячы на змены эканамічных фармацый, раскладку палітычных сіл і дзяржаўную структуру.

Сапраўднае, вылітае з душ народных — вечнае. Інакш так і будзем спяваць паэтапна.

---

радзіла» Кастуся Каліноўскага. Народніцкі дух вылучыў «гоманаўцаў», якія практычна першымі абвясцілі праграму нацыянальнага адраджэння Беларусі. Здавалася б, і імёнаў іхніх не засталося: тагачасныя студэнты Пецярбургскага універсітэта, яны выдавалі часопіс «Гоман», два нумары якога за 1884 год — усё, што дайшло да нас, але ў самым канцы стагоддзя, пасля рэакцыі, выкліканай забойствам Аляксандра II, заяўляе аб сабе Францішак Багушэвіч, чалавек, які сваімі вершамі, прадмовамі да зборнікаў, асабліва да «Дудкі беларускай», прадаўжае іх справу.

А рэвалюцыя 1905 года! Яна ўскалыхнула літаральна ўвесь край,— і, бадай, нідзе ў свеце не было прыкладаў, каб за такі кароткі час грамада дамаглася права на нацыянальны друк, яго, хоць і абмежаваную, свабоду. А якія волаты думкі і слова выраслі ў барацьбе за гэта права! Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Цётка, Міхась Зарэцкі, Цішка Гартны, Алесь Гарун... І гэта ж не ўсе імёны, далёка не ўсе!

Беларускі народ скрозь меў вялікі духоўны, інтэлектуальны патэнцыял. Вядома, напрыклад, што ў Рэчы Паспалітай хадзіла пагаворка: палякі едуць на Украіну па багацце, а ў Беларусь — па розум. І ў гэтым была доля праўды: беларусы, безумоўна, унеслі важкі ўклад у развіццё польскай літаратуры. Менавіта ў нас ішло творчае і грамадзянскае станаўленне А. Міцкевіча, Э. Ажэшкі, У. Сыракомлі, С. Манюшкі.

Каго з сучаснікаў хочацца вылучыць? Таго, каго вылучыў сам час,— Васіля Быкава. Колькі шальмавалі пісьменніка ў прэсе і на ўсемагчымых ідэалагічных форумах за тое, што «скажае праўду аб вайне», а яго творы разыходзіліся па ўсім свеце, яго хвалюючыя выступленні на старонках часопісаў і газет, у тэлестудыях і на дэпутацкай трыбуне абуджаюць у душах патрыятызм і пачуццё годнасці. Шмат новых, яшчэ нядаўна не вядомых дзеячаў выявілі парламенцкія дэбаты. Але, назіраючы за палітычнай барацьбою, хочацца папярэдзіць некаторых з іх: палітыка павінна тварыцца не толькі гарачымі сэрцамі, але і чыстымі рукамі. А то, выходзіць, адчулі, што няма на спіну бізуна — і давай ламаць усё, што трапляецца пад руку... Не, не! Хочацца нагадаць словы Герцэна, які ў свой час гаварыў пра так званых дэмакратаў, што выйшлі з трэцяга саслоўя: «Гэта людзі, якія не забыліся пра сваё рабства».

Упэўнены, што працэс дэмакратызацыі і далей будзе развівацца, што ў нас з'явяцца палітычныя і грамадскія дзеячы, якія шмат зробяць, каб добрыя народныя традыцыі не паміралі, каб нашы ўнукі ведалі, адкуль яны родам, і ганарыліся гэтым. Менавіта гэты гонар навучыць іх любіць сваю зямлю, упрыгожваць яе, клапаціцца аб ёй. І тады для ўсіх жыццё стане сонечным і заможным.

---

...раканананы, што адным з пер...ых удараў па грамадскай маралі стаў прынцып: для дасягнення вышэйшых рэвалюцыйных мэт усе сродкі прыдатныя. Класавы інтарэс, якім былі падменены агульначалавечыя каштоўнасці, апраўдваў усё: масавы тэрор, татальны прымус, забойствы і, як бы найменшае з зол,— падман, хлусню.

Не дзіва, што на такой глебе паступова пачалі вынішчацца лепшыя рысы народнай духоўнасці. А там, дзе слабее сіла ўнутранага духа, набіраюць моц сілы цемрашальства, а чалавек пад уладай палітыкаў і палітыканаў робіцца марыянеткай.

Людзям не давалі права сумнявацца ва ўсім тым, што абвяшчалася ўладамі. Таго ж, хто сумняваўся, аб'яўлялі іншадумцам...

Нас вучылі толькі верыць. У краіне ўтварылася цэлая папуляцыя, так бы мовіць, радыёкіруемых людзей: што скажуць па афіцыйным радыё — тое, значыць, і ёсць ісціна. У выніку «наша сіла і зброя» ператварылася ў зброю супраць нас саміх.

«Рэлігія — опіум для народа».

«Усё — у імя чалавека».

«Народ і партыя — адзіныя».

«Дружба савецкіх народаў — вечная і непарушная».

Лозунгі, дарэчы, настолькі унікальныя, што іх можна рэгістраваць у Міжнародным бюро інтэлектуальнай уласнасці са штампам: «Аўтарскае права сацыялізму».

Страшна тое, што нам хлусяць. Яшчэ больш страшна, што мы гэтай хлусні верым.

«Ужо цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме».

«Да 2000 года кожная савецкая сям'я, уключаючы сем'і маладажонаў, будзе забяспечана асобнай кватэрай».

Чэснае слова... Яно ніколі не бывае карыслівым. Таму што праўда — права дужага, прывілея свабоднага. Хлусня ж карыслівая заўсёды, бо яна — сродак уратавання слабога.

Пагадзіцеся: сказаць горкую праўду нават аднаму чалавеку — няпроста. А сказаць яе народу — яшчэ і небяспечна.

І вось 26 лістапада 1990 года міністр фінансаў краіны на сесіі Вярхоўнага Савета СССР сцвярджае: «Калі эканоміка падае, то любая грашовая рэформа загоніць яе яшчэ глыбей. Таму пакуль мы не выправім становішча спраў у вытворчасці, аб грашовай рэформе гаварыць не даводзіцца».

Слова джэнтльмена? Дзяржаўнага мужа? Хацелася б верыць... Але менш чым праз два месяцы, 22 студзеня 1991 года, гэты ж чалавек, толькі ўжо ў рангу прэм'ер-міністра краіны, падпісвае пастанову аб частковай грашовай рэформе — аб абмене 50- і 100-рублёвых купюр.

Яшчэ больш здзеклівым сацыяльным двурушніцтвам («Цэны на асноўныя тавары ўзрастуць не болей як у 1,5—2 разы пры поўнай кампенсацыі людзям панесеных страт») стала красавіцкае павышэнне цэн.

«Разрыў паміж словам і справай» — гэта самы суровы прысуд, які ставяць адзін аднаму нашы кіраўнікі з высокіх трыбун. А між іншым, хацелася б прыгадаць, што ў Злучаных Штатах Амерыкі выпадкі службовай хлусні разглядаюцца ў сенаце або ў Вярхоўным судзе, нават калі гаворка ідзе пра прэзідэнта і яго «каманду».

Да чаго наша фарысейства — палітычнае, ідэалагічнае, сацыяльнае — прывяло, цяпер вядома. І не толькі нам, а ўсяму свету, які апошнім часам таксама перастае нам верыць. Бо неканвертуемым прызнаецца многімі замежнымі палітыкамі і бізнесменамі ўжо не толькі наш рубель, але і наша слова.

І пакуль мы не ўзрушымся, не ўстрасянёмся, як след, марнымі будуць нашы надзеі на прагрэс, на аднаўленне грамадства.

А ў прынцыпе я за тое, каб панятцце «чэснае слова» ўвогуле выпала з нашага лексікону.

Кожнае слова павінна быць чэсным.

# «НАБЛІЖАЕЦЦА ЧАС, КАЛІ БЕЛАРУСЬ СТАНЕ САПРАЎДЫ СУВЕРЭННАЙ ДЗЯРЖАВАЙ...»

## ДЫЯЛОГ СА СТАРШЫНЁЙ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНЫХ СУВЯЗЕЙ УЛАДЗІМІРАМ ВАЛЯР'ЯНАВІЧАМ РАДКЕВІЧАМ



**— Уладзімір Валяр'янавіч, нашу рэспубліку лічаць беднай і звычайна ўспамінаюць дарэвалюцыйныя часы, калі з Беларусі вывозілі сала, пяньку ды лес. Сёння ж гэта прамыслова развітая рэспубліка. Але і цяпер, калі ўзнікла пытанне пра суверэнітэт, на ўсіх узроўнях мовілі: без Расіі і іншых рэспублік нам не пражыць. Ці так гэта?**

— Я б сказаў, што пытанне пастаўлена не вельмі карэктна. Ну, па-першае, наша рэспубліка па свайму эканамічнаму патэнцыялу нароўні з сярэдняй еўрапейскай краінай. Імкненне ж да эканамічнага суверэнітэту — рэакцыя на непамерна цэнтралізаваныя ўладарныя функцыі саюзных органаў, калі рэспубліка практычна не мела права распараджацца асабістай прадукцыяй.

Трэба, аднак, сказаць, што важныя сыр'явыя тавары — газ, вугаль, пракат завозяцца на тэрыторыю рэспублікі, і рытм работы прамысловасці цалкам залежыць ад узроўню выканання дагаворных абавязацельстваў: ва ўмовах доўгага перыяду развіцця, размяшчэння вытворчых сіл, спецыялізацыі гаспадаркі рэспубліка стала інтэгрыраванай часткай эканомікі Саюза. Калі прыгадаць сусветныя інтэграцыйныя працэсы, дык мы ўжо сёння практычна маем «Злучаныя Штаты Еўропы». Так што, спадзяюся, вяртацца ў феадальнае мінулае рэспубліка не збіраецца.

**— А наогул, што і куды мы вывозім, а што завозім?**

— Галоўнае месца ў вывазе займае прадукцыя, што мае шматкратную ступень апрацоўкі. Гэта прадукцыя такіх галін як машынабудаванне, металаапрацоўка, прыборабудаванне, хімічная, нафтахімічная і лёгкая прамысловасць. Завозім жа ў большасці сваёй сыравіну, паліва, паўфабрыкаты.

З БССР вывозіцца болей за 90 працэнтаў трактароў і грузавых аўтамабіляў, сіласаўборачных і кормаўборачных камбайнаў, матацыклаў, электрарухавікоў пераменнага току, 80—90 працэнтаў тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў, бытавых халадзільнікаў, веласіпедаў, калійных угнаенняў, болей за 70 працэнтаў хімічных валокнаў і нітак, шаўковых тканін. У іншыя раёны краіны пастаўляецца звыш 60 працэнтаў металарэжучых станкоў, фанеры. А яшчэ ільняныя тканіны, картон, будаўнічае шкло, шарсцяныя тканіны, панчошныя вырабы, шкарпэткі. Абмен прадукцыяй паміж рэспублікамі і рэгіёнамі ажыццяўляецца на дагаворнай падставе, хоць не абыходзіцца без цяжкасцей.

**— Ведаю, што раней попытам карысталіся нашы вылічальныя машыны. А цяпер, чытаючы розныя зводкі, не бачу, каб яны ішлі за мяжу. Якія тут**

**прычыны! Ці не распад сістэмы сацыялізму! Магчыма, мы навязвалі гэтым краінам сваю тэхніку! І не толькі вылічальную...**

— Попыт на вылічальную тэхніку, якая выпускаецца ў рэспубліцы, вызначаецца многімі фактарамі. Змены, якія адбыліся ў апошні час у вытворчасці вылічальных машын, адбіліся і на колькасці іх продажу. Што тычыцца «навязвання» гэтай тэхнікі ўсходнееўрапейскім суседзям, то пра гэта мяркуюць з-за недахопу інфармацыі. Гэтыя ж краіны былі не толькі пакупнікамі, але і стваральнікамі вылічальных машын. Фармальна распад сумеснага супрацоўніцтва ў рамках СЭУ не азначае разбурэнне аб'ектыўных перадумоў да такога супрацоўніцтва. Трэба сказаць, што многія фактары вытворчасці ў нас аднатыпныя, інтэгрываваны нашы патэрбы, засталіся вытворчыя сувязі і г. д. Думаю, што ў недалёкім будучым, ва ўмовах гаспадарчых адносін, гэтыя сувязі ўзновяцца.

**— Наша рэспубліка прыняла Дэкларацыю аб суверэнітэце. Ці змяніліся эканамічныя ўзаемаадносіны з іншымі дзяржавамі! Ці зноў усё вырашае Масква!**

— Дэкларацыя аб суверэнітэце — гэта, несумненна, гістарычны для рэспублікі дакумент. Аднак, яна патрабуе канкрэтнага заканадаўчага выканання. Пакуль не падпісаны Саюзны дагавор, які б размяжоўваў правы рэспублікі і цэнтра, пакуль не прыняты закон аб грамадзянстве ў Беларусі і шэраг іншых законаў, якія б замацавалі суверэнны статус рэспублікі, яе нельга разглядаць у якасці паўнамоцнага суб'екта міжнародных адносін. Вялікую работу ў гэтым напрамку павінна будзе зрабіць Міністэрства замежных спраў БССР.

Аднак і мы не сядзім, склаўшы рукі, а набліжаем час, калі Беларусь стане сапраўды суверэннай краінай у адным саюзе са сваімі суседзямі. Камітэт вядзе перагаворы з урадамі краін Усходняй Еўропы, Азіі, развітымі капіталістычнымі краінамі аб устанаўленні гандлёва-эканамічных адносін. Такія пагадненні падпісаны ўжо з КНДР і Чэха-Славакіяй. Практычна гатовыя да падпісання адпаведныя дакументы на супрацоўніцтва з Польшчай, Балгарыяй, Венгрыяй. Завяршаем работу над пагадненнем з Сербіяй і Славеніяй. Складанасцей і нявырашаных праблем шмат. Галоўнае — да самага апошняга часу ў рэспубліцы не было банкаў, якія б мелі і магчымасць і права ажыццяўляць міжнародныя разлікі. Сітуацыя змянілася зусім нядаўна. З 1 ліпеня Белзнешэканомбанк стаў паўнацэнным банкаўскай установай са сваімі банкамі-карэспандэнтамі за межамі рэспублікі.

**— Відаць, асобнае месца займае экспарт вялікагрузных аўтамабіляў, трактароў. Ці зноў жа Цэнтр гандлёвыя аперацыі дыктуе і валюта застаецца там!**

— Экспарт вялікагрузных аўтамабіляў, трактароў, халадзільнікаў, іншай прадукцыі — гэта прыступка да ўваходу нашага машынабудавання ў сусветны рынак. Сёння ў рэспубліцы створаны самастойныя знешнегандлёвыя фірмы на буйных прадпрыемствах, у тым ліку на МАЗе і Мінскім трактарным заводзе, якія займаюцца і пастаўкай тэхнікі, і арганізацыяй сэрвісу запрададзеных машын. Валютныя адносіны і разлікі за прадукцыю, пастаўленую на экспарт, рэгулююцца адпаведным указам Прэзідэнта СССР і Пастановай Савета Міністраў СССР.

**— А Ваш камітэт! Як ён будуе ўзаемаадносіны з замежнымі краінамі!**

— Сёння ў Беларусі зарэгістравана каля паўтары тысячы ўдзельнікаў знешнеэканамічных сувязей. Гэта прадпрыемствы і арганізацыі практычна ўсіх галін народнагаспадарчага комплексу рэспублікі і ўсіх формаў уласнасці. У сярэдзіне 1990 года, калі фармавалася новая структура выканаўчай улады ў рэспубліцы, узнік Дзяржаўны камітэт БССР па знешніх эканамічных сувязях. Канцэпцыя ж і стратэгія знешнеэканамічнай дзейнасці рэспублікі акрэсліваецца Законам «Аб асновах знешнеэканамічнай дзейнасці Беларускай ССР». Вось яго асноўныя палажэнні:

— распрацоўка заканадаўства і заключэнне міжнародных дагавораў;

— рэгуляванне рэжыму прыцягвання замежных інвестыцый і гарантыі інвестытарам;

— абарона інтарэсаў БССР за яе межамі і налогавая палітыка ў знешнеэканамічнай сферы.

Шмат сілы Камітэт траціць на тое, каб забяспечыць прызнанне Беларускай ССР як суб'екта сусветных гаспадарчых сувязей. Адзін з напрамкаў нашай работы — падрыхтоўка і падпісанне ўрадавых пагадненняў аб супрацоўніцтве БССР з іншымі краінамі.

Заключаны дагавор аб супрацоўніцтве па пытаннях знешнеэканамічнай дзейнасці і з Расійскай Федэрацыяй. Наш камітэт сумесна з зацікаўленымі міністэрствамі распрацаваў праграмы развіцця прыярытэтных накірункаў эканомікі з прыцягненнем замежных прадпрыймальнікаў. Цяпер найважнейшая наша задача — стварыць спрыяльнае асяроддзе для ўдзелу замежнага капіталу ў развіцці народнай гаспадаркі рэспублікі, знайсці найбольш выгадных партнёраў для супрацоўніцтва. Напрыклад, групе іспанскіх кампаній мы прапанавалі мадэрнізаваць Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод з тым, каб павялічыць выхад светлых нафтапрадуктаў (салярка, керасін, бензін) да 80 працэнтаў замест 53 па існуючаму тэхпрацэсу з разлікам на пастаўку на кампенсацыйнай аснове светлых нафтапрадуктаў, атрыманых звыш дзяржзаказа на рынак Іспаніі і трэціх краін.

Завяршаецца распрацоўка праграм супрацоўніцтва з Італіяй пад мэтавыя крэдыты, дадзеныя італьянцамі. Для развіцця супрацоўніцтва створаны рабочы орган — асацыяцыя «Італабеларуская гандлёвая палата».

Ствараецца канцэрн (асацыяцыя) па эканамічнаму супрацоўніцтву з Тайванем.

Новае ў падобнай дзейнасці — і прыгранічны гандаль, бартарныя здзелкі, стварэнне свабодных эканамічных зонаў, дзве з якіх — у раёне аэрапорта «Мінск-2» і ў наваколлі Брэста — ужо вызначаны і ствараюцца. Мэта? Уключыць гэтыя рэгіёны ў сусветныя гаспадарчыя сувязі, ажывіць іх эканамічную дзейнасць, паскорыць прыток з-за мяжы найноўшых навуковых дасягненняў і тэхналогій.

**— Эканамічныя ўзаемаадносіны гэта не толькі купля-продаж, а і абмен эканамічнымі ідэямі, вопытам.**

— Згодны. У спецыялістаў знешняга гандлю ёсць выказванне: «Калі ты купіў рыбу, дык будзеш сыты адзін дзень, а калі набыў рыбалоўныя прылады і навучыўся імі карыстацца, дык будзеш сыты заўсёды». Іншымі словамі, набыць сучасную тэхналогію і «ноу-хау» выгодней, чым закупіць тавары. Гэта галоўная запаведзь у нашай рабоце. Напрыклад, толькі для аграпрамысловага комплексу ў БССР трэба стварыць, збудаваць шаснаццаць прадпрыемстваў па выпрабу на іх тэхналагічнага абсталявання для перапрацоўкі сельгаспрадукцыі па новай тэхналогіі.

Мы хацелі б з удзелам замежных фірм пабудаваць звышчыстыя вытворчыя памяшканні для выпуску высакаякаснай і надзейнай элементнай базы для вытворчасці складанай электроннай тэхнікі, у тым ліку персанальных камп'ютэраў і аналага-лікавых тэлевізараў.

Амаль у кожнай галіне знойдзецца патрэба ў «Ноу-хау» і прагрэсіўнай тэхналогіі, хоць, павінен сказаць, што замежныя фірмы неахвотна дзеляцца сваімі найноўшымі дасягненнямі ў тэхналогіі. Яны яшчэ, відаць, не ўспрымаюць нас, нашу рэспубліку як надзейнага, самастойнага партнёра, і не апошнюю ролю іграюць тут складаныя сацыяльна-палітычныя абставіны ў Саюзе, а апошнім часам і ў рэспубліцы. Будзем спадзявацца, што гэта часовыя цяжкасці нашага росту і нашу рэспубліку прызнаюць як аўтарытэтнага партнёра.

У якасці станоўчага прыкладу магу назваць дзейнасць сумеснага савецка-амерыканскага прадпрыемства «Саммит Системз», якое ў сакавіку мы віншавалі з нагоды зборкі і адгрузкі заказчыкам першай тысячы персанальных камп'ютэраў. Упершыню ў СССР гэта сумеснае прадпрыемства аб'ядноўвае вопыт стварэння персанальных камп'ютэраў, які належыць амерыканскім распрацоўшчыкам, і вопыт стварэння праграмнага забеспячэння, набыты савецкімі спецыялістамі.

**— Ваш камітэт накіроўвае спецыялістаў за межы рэспублікі. Гэта прыемныя паездкі ці пераймание вопыту! Што за апошні час з-за мяжы прывезена! Што ўкаранёна!**

— Усе міністэрствы, ведамствы, прадпрыемствы і арганізацыі рэспублікі маюць права самастойна выходзіць на кантакты з замежнымі партнёрамі, камандзіраваць сваіх спецыялістаў за рубеж.

Наш жа камітэт у асноўным вядзе падрыхтоўку афіцыйных візітаў беларускіх урадавых дэлегацый у замежныя краіны, мы камплектуем і групы спецыялістаў для навучання і стажыроўкі па пытаннях знешнеэканамічнай дзейнасці.

У час візіту нашай дэлегацыі ў Каралеўства Нідэрланды дасягнута дамоўленасць аб стварэнні ў Беларусі вопытнай гаспадаркі па галандскай сельскагаспадарчай тэхналогіі «Галандскі Хутар», сумеснага прадпрыемства па вытворчасці тытунёвых вырабаў, аб развіцці вытворчай кааперацыі па вырабу музычных інструментаў, будаўнічых канструкцый і фасадных фарбаў, сістэм спутнікавага тэлебачання, а таксама аб будаўніцтве мясаперапрацоўчага комплексу і гасцініцы для дзелавога турызму, аб стварэнні ў Мінску сумеснага гандлёвага прадпрыемства. Вырашана, што ў Галандыі будуць працаваць культурны цэнтр і фонд дапамогі Беларусі, а таксама прадстаўніцтва БССР у адным з гарадоў Каралеўства.

Візіт беларускай дэлегацыі ў Японію, якую ўзначальваў прэм'ер-міністр БССР В. Ф. Кебіч, паказаў гатоўнасць японскага ўрада і дзелавога асяроддзя дапамагаць Беларусі ліквідаваць сляды аварыі на Чарнобыльскай АЭС, развіваць супрацоўніцтва ў галіне электронікі, машынабудавання, перапрацоўкі сельгаспрадукцыі, вытворчасці спажывецкіх тавараў, медыцыны. У апошні час з Японіі паступае гуманітарная дапамога: атрымана партыя аднаразавых шпрыцоў, іглаў, сістэм пералівання крыві, дзве перасоўныя дыягнастычныя ўстаноўкі. Да канца года будуць пастаўлены яшчэ дзве такія ўстаноўкі.

Рыхтуецца візіт урадавай дэлегацыі ў Рэспубліку Карэя. Намячаецца шырокая праграма эканамічнага супрацоўніцтва. Найбольш цікавыя сумесныя праекты: арганізацыя вытворчасці мясных кансерваў, дзіцячага харчавання, развіццё хімічнай і лёгкай прамысловасці, продаж карэйскіх тавараў.

Добрыя перспектывы супрацоўніцтва з Рэспублікаю Кітай (востраў Тайвань), Італіяй, Іспаніяй, ЗША і іншымі краінамі.

Сур'ёзныя праблемы існуюць у кадравым забеспячэнні знешнеэканамічнай дзейнасці. Нам патрэбны эканамісты, юрысты-міжнароднікі, менеджэры, сярэдні тэхнічны персанал. Таму вялікую ўвагу надаем пошуку магчымасцей для вучобы за мяжой. Прайшлі навучанне ўжо сорак чалавек. У Польшчы ў школе бізнесу навучалася трыццаць чалавек, ва універсітэце «Атлантык» (ЗША) — 11 чалавек. Рыхтуем групы для навучання ў Японіі, Францыі, ФРГ, ЗША. У гэтым годзе мы накіруем за мяжу каля сямідзесяці чалавек. Усе гэтыя спецыялісты, папоўніўшы свае веды, змогуць больш эфектыўна працаваць на знешнім рынку.

**— І апошняе. Якія задумы, надзеі на будучае!**

— Галоўным з'яўляецца клопат аб актывізацыі экспарту, стварэнне сучаснай экспартнай базы, забеспячэнне валютнымі сродкамі нашых спажыўцоў, стабілізацыя, змяншэнне залежнасці ад імпартнай сыравіны. Трэба значна павысіць эфектыўнасць экспарту, стварыць гнуткую сістэму дзяржаўнага рэгулявання знешніх сувязей, распрацаваць праграму падрыхтоўкі кадраў для знешняй дзейнасці, стварыць беларускую базу замежнага турызму, інфармацыйныя банкі даных.



# «СЁННЯ РЭСПУБЛІКА ПЕРАЖЫВАЕ ПЕРАЛОМНЫ ЭТАП ГІСТОРЫІ...»

**В. Н.** — Можна без перабольшання сказаць, што гісторыя нашай краіны багата на этапы, якія можна лічыць крытычнымі, рашаючымі. Вось і сённяшнюю сітуацыю ў краіне мала назваць трывожнай — яна пагражальная. Наша гутарка адбываецца ў дзень, калі Расія выбірае свайго першага прэзідэнта, інакш кажучы, па вызначэнню адной з італьянскіх газет, робіць выбар паміж цывілізацыяй і варварствам. Можа стацца, гэты дзень стане паваротным момантам не толькі ў жыцці Расіі, але і Беларусі: менавіта сёння беларускі парламент пасля доўгіх спрэчак аб тым, што такое суверэнітэт і нацыянальная самастойнасць, прыняў рашэнне падпісаць саюзны дагавор...

**М. Ф.** — Сапраўды, наша Беларусь, як і ўся краіна, перажывае адказны, пераломны этап сусветнай і айчыннай гісторыі. Сённяшняму пакаленню засталася цяжкая спадчына мінулых дзесяцігоддзяў, якая не можа не ўплываць на духоўнае здароўе грамадства, абцяжаранага шматлікімі супярэчнасцямі і маральнымі праблемамі. Але, згодна праваслаўнаму светаўспрыманню, наша жыццё павінна быць прасякнута адказнасцю за тое, што адбываецца. Мы абавязаны пастаянна асэнсоўваць рэальныя падзеі і шукаць выйсця са складаных сітуацый. Да таго ж, на мой погляд, гаворачы аб духоўным адраджэнні нацыі, аб самастойнасці таго ці іншага народа, мы не павінны забываць, што з пазіцыі духоўнай культуры, лёсы нашых трох брацкіх народаў — беларускага, рускага, украінскага — непадзельныя. У нас адзін падмурак, адна спадчына, пакінутая нам святымі раўнаапостальнымі Кірылам і Мяфодзіем, настаўнікамі славянскімі. Дзякуючы ёй, гэтай спадчыне, мы далучыліся і да велізарнага візантыйскага культурнага пласта, успрынялі праз Кірылу і Мяфодзія багатую культуру Візантыі, пазнаёміліся з перакладамі Свяшчэннага Пісання, набажэнскіх кніг на старажытнаславянскую мову (старажытная і незразумелая яна для нас, а для нашых продкаў была гутарковай) — і тым самым была прадэманстравана прынцыповая пазіцыя царквы па адносінах да роўных народаў, якім Дабравесце, Евангелле даносілася на іх роднай мове. Адзіная спадчына, адзіны выток, з якога ўзялі пачатак культуры нацыянальныя — беларуская, руская, украінская...

**В. Н.** — Адсюль вынікае, што прапагандыстамі беларускай мовы і нацыянальнай культуры, адкрытай для ўсіх, хто жадае далучыцца да яе духоўных каштоўнасцей, робіцца добрая справа. Трэба дапамагчы розным пакаленням набыць гістарычную нацыянальную самасвядомасць. Той, хто адчувае сябе звяном у гістарычным ланцугу, захоўвае гонар продкаў, не дазволіць сабе нізкіх учынкаў, адчуваючы адказнасць за нацыянальны лад жыцця.

**М. Ф.**— Абсалютна правільна. Толькі я прапаную паглядзець на праблему шырэй. Тая ж кірыла-мяфодзіеўская спадчына належыць не толькі тром брацкім культурам: на ёй выхоўваліся і балгарскі, і сербскі і іншыя балканскія народы. Таму, звяртаючыся да гісторыі славянскіх народаў, мы не павінны забываць, што належым да гэтай сям'і і маем дачыненне да агульнай культуры. Што наша багатая духоўная спадчына прадвызначае і нашу нацыянальную самасвядомасць. Усе мы — і балгары, і сербы, і рускія, і ўкраінцы, і беларусы — выхоўваліся на працягу стагоддзяў Праваслаўнай царквой, і царква, адзіная, святая, саборная, апостальская, валодаючы гэтай духоўнай спадчынай, выхоўвала ў нас пачуццё самасвядомасці. І кожны з названых славянскіх народаў усведамляў сябе народам менавіта дзякуючы прыналежнасці да Праваслаўнай царквы.

Прыкладна гэткі ж працэс мы назіраем зараз у нас у Беларусі. Разам з нацыянальным адраджэннем, якое сілкуецца з самых розных крыніц, чалавек набывае магчымасць адчуць сваю самастойнасць, сваю самабытнасць, не цураючыся агульнай духоўнай спадчыны. Вось чаму сёння адны шукаюць апоры ў праваслаўі, другія — у каталіцызме, трэція жадаюць адрадзіць уніяцкія традыцыі. Але гэта адзіны працэс духоўнага адраджэння, у якім людзі — у сілу сваёй адукаванасці, інфармаванасці — больш падрыхтаваны да аднаго, другога ці трэцяга...

**В. Н.** — Многія ідэёлагі схільны лічыць зварот вялікай часткі насельніцтва, у прыватнасці моладзі, да хрысціянства чарговым «зацьменнем», адыходам ад праблем рэальнага жыцця, модай, толькі не жаданнем далучыцца да духоўнай спадчыны продкаў. Але ці не здаецца вам, уладыка, што сённяшняе вяртанне ў лона царквы было прадвызначана гісторыяй? Што яно абумоўлена эканамічнай і палітычнай сітуацыяй, якая склалася ў краіне,— перабудовай, дэмакратыяй, нацыянальным адраджэннем? Веруючыя ўрэшце атрымалі магчымасць самастойна развіваць і ўмацоўваць свае рэлігійна-нацыянальныя традыцыі.

**М. Ф.** — Працэс перабудовы, безумоўна, закрануў і царкву. Глыбока перакананы, што перабудова ў нашай краіне адбываецца ў інтарэсах народа, я цалкам яе падтрымліваю і разумею як неабходны працэс усебаковага абнаўлення як кожнай чалавечай асобы, так і ўсіх бакоў жыцця грамадства. Праваслаўная царква ніколі не аддзяляла сябе ад народа і яго інтарэсаў, і цяпер, калі народ жадае адрадзіць сваю нацыянальную культуру, царква павінна яму ў гэтым дапамагчы.

І яна дапамагае. Прымаючы актыўны ўдзел у дзейнасці амаль усіх грамадскіх арганізацый, рухаў, фондаў, супрацоўнічаючы з дзеячамі беларускай культуры, царква дапамагае весці грамадскія дыялогі, дзе абмяркоўваюцца надзённыя



**У найбольш складаныя, пераломныя гістарычныя моманты чалавецтва звяртаецца да духоўнага вопыту продкаў, шукаючы ў назапашанай папярэднікамі мудрасці, у вопыце супольнага жыцця народаў шляхі выйсця з крытычнага становішча. Гэта думка стала вызначальнаю ў чарговай гутарцы выдатнага рэлігійна-грамадскага дзеяча нашага часу мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі ФІЛАРЭТА з вядомым публіцыстам, крытыкам і гісторыкам літаратуры Валерыем НЯФЁДАВЫМ.**

праблемы, дзеліцца сваім вялікім тысячагадовым вопытам.

Што датычыць «зацьмення»... Беларусы — народ, які здзіўляе бясконцай цярплівасцю, воляй да жыцця і стойкасцю ў нялёгкіх выпрабаваннях, якія пасылае яму лёс. Думаў пра гэта, калі глядзеў фільм В. Дашука «Пейзаж пасля бітвы», які мае красамоўны падзагаловак — «Сумленны фільм пра чарнобыльскую трагедыю». Людзі застаюцца жыць на атручанай радыяцыяй роднай зямлі. І якраз вера, духоўнасць з'яўляецца іх тайнай апорай. А тыя, што грэбуюць патрыятычнай духоўнасцю, захаванай продкамі ў цяжкіх выпрабаваннях, могуць не выстаяць у ліхую гадзіну.

**В. Н.** — Уладыка, мы шмат гаворым аб развіцці беларускай духоўнасці. А як вы ставіцеся да ідэі дыялога беларускай і якой-небудзь іншай, скажам, эстонскай, літоўскай або рускай культуры? На маю думку, гэты дыялог магчымы толькі на рэалістычнай аснове. Да прыкладу, руская духоўнасць — саборная па сваёй сутнасці, яна не з'яўляецца нацыянальна-замкнёнай структурай і спрыяе ўзаемадзеянню культур, народаў, людзей. У заходніх інтэлігенцкіх колах вельмі папулярная ідэя прагрэсіўнага ўплыву Расіі на сусветную культуру. Паводле рашэння ЮНЕСКО, 1992 год аб'яўлены годам рускай духоўнасці. У Маскве пачала нават выходзіць манументальная 30-томная анталогія «Цывілізацыя па імені Расія», мадэль якой фенаменальная ў многіх адносінах і не паддаецца месніцкім спробам адмежавацца ад яе сусветнай, саборнай сутнасці. Весці дыялог з рускай культурай у замкнёных нацыянальных межах — нонсенс.

**М. Ф.** — Ваша пытанне ў нейкай ступені змяшчае і адказ. Я магу толькі пагадзіцца з вашымі меркаваннямі. І сказаць што ўсе разважанні аб вялікадзяржаўнасці Расіі, аб шавінізме рускіх, рускай літаратуры — няправільныя. Як і ў любога іншага народа, у любой іншай культуры, у рускага народа ёсць натуральнае імкненне да нацыянальнай самабытнасці і самастойнасці. Але рускай натуры не ўласцівы ад прыроды ні шавінізм, ні нацыяналізм. Мне не хочацца нават вымаўляць гэта слова «нацыяналізм»... Мы павінны ўсяляк дапамагаць творчаму супрацоўніцтву, узаемнаму ўзбагачэнню беларускай культуры з іншымі брацкімі культурамі, у тым ліку і з рускай. Менавіта ў кантакце з Расіяй, з рускай літаратурай, з рускім духам, а ён ёсць, і гэта адзначаюць не толькі рускія пісьменнікі, беларуская культура дасягне свайго росквіту.

**В. Н.** — Многія культуры ў садружнасці з Расіяй пачэрпнулі сілы для адраджэння сваіх нацыянальных каштоўнасцей...

**М. Ф.** — Нацыянальная самасвядомасць і нацыяналізм — рэчы розныя. Чалавек духоўны, асоба творчая і сапраўды таленавітая, шукае кантакту, зносін, імкнецца ўзбагаціць сябе ў садружнасці з іншымі людзьмі і культурамі.

Таму сучасныя дыскусіі аб прыярытэтах нацыянальных — законныя і зразумелыя, хоць, як мне здаецца, яны часта мяжуюць з абмежаванасцю...

**В. Н.** — Напэўна, многае можна сказаць на карысць дыялога беларускай культуры з культурамі еўрапейскіх краін, усім светам. Але гэта тэма — неабдымная. Давядзецца звузіць пытанне і пацікавіцца, як склаліся ўзаемаадносіны прадстаўнікоў нашага Экзархата з замежнымі праваслаўнымі беларусамі?

**М. Ф.** — На жаль, да апошняга часу ў Беларускай епархіі амаль не было ніякіх кантактаў з праваслаўнымі суайчыннікамі за мяжой. Яны сталі ўзнікаць нядаўна, калі пачаўся працэс духоўнага адраджэння Беларусі, у прыватнасці, Беларускай праваслаўнай царквы, калі пачалося аднаўленне старажытных праваслаўных епіскапскіх кафедраў, манастыроў, праваслаўных прыходаў, калі зноў пачала дзейнічаць Мінская духоўная семінарыя і з'явіліся духоўныя кантакты паміж асобнымі свяшчэннаслужыцелямі і веруючымі. У прыватнасці, сёлета я меў прыемную магчымасць сустрэцца на Кангрэсе беларусістаў з царкоўнымі дзеячамі беларускага замежжа. Мы разам парадаваліся пачатку работы Біблейскай камісіі праваслаўнай царквы ў Беларусі над беларускім перакладам кніг Свяшчэннага Пісання. З задавальненнем адзначылі выхад у свет «Евангелля ад Матфея» на чатырох мовах — беларускай, рускай, грэчаскай, царкоўна-славянскай. Акрамя таго, я падтрымліваю кантакты з таварыствам «Спадчына», якое, у сваю чаргу, мае цесныя зносіны з нашымі суайчыннікамі ў ЗША. Але для больш канкрэтных зносін паміж Беларускім Экзархатам і замежнымі праваслаўнымі беларускімі епархіямі неабходна правесці пэўную гісторыка-кананічную даследчую работу.

На заканчэнне нашай гаворкі хачу яшчэ раз адзначыць, што ў гэты цяжкі час, як для Беларусі, так і для ўсёй краіны, нам усім, хто шчыра жадае абнаўлення, неабходны дыялог і супрацоўніцтва, сапраўды новыя па сваёй прыродзе. Яны дазволяць не толькі ліквідаваць перашкоды, якія існуюць сёння паміж народамі, а навучаць зноў і зноў з цярплівасцю і ўзаемнай павагай пазбаўляцца ад рознагалоссяў і канфліктаў у нашым грамадстве.

Са свайго боку, царква будзе рабіць усё, каб пазбегнуць крайнасцей і перадолець раскол у грамадстве, заклікаць да нацыянальнай згоды дзеля выйсця з тупіка сацыяльных эксперыментаў на шлях сусветнай цывілізацыі.

# Скарына — нашчадак Скарыны

**Нішто так не грэе чалавечую душу, як зносіны з яркімі, самабытнымі асобамі. З гэтым мне, можна сказаць, пашанцавала.**
**Пра каго гутарка! У першую чаргу пра сусветна вядомага М. А. Шолахава. Мне пашчасціла ўручаць яму ў стэпах Прыуралля пасведчанне ганаровага байца студэнцкіх будаўнічых атрадаў Беларусі.**
**У 1980 годзе працаваў, як цяпер гавораць, у «камандзе» П. М. Машэрава. Кожны раз, прысутнічаючы на сустрэчах і гутарках з ім, дзівіўся яго жыццёвай мудрасці, энцыклапедычнасці ведаў, нязгаснаму жыццялюбству і бясконцай абаяльнасці гэтага чалавечнага чалавека.**
**Знаёмы з прадстаўнікамі цэлай кагорты функцыянераў, эвалюцыя поглядаў якіх нярэдка проста здзіўляе.**
**Зараз, з'яўляючыся членам Камітэта па прысуджэнню Дзяржаўных прэмій БССР, маю гонар пазнаёміцца бліжэй з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі — вучонымі, дзеячамі літаратуры і мастацтва, артыстамі, спасцігнуць жывую логіку іх мыслення. У гэтым шэрагу людзей знакамітых і цікавых, з якімі мне пашчасціла сустрэцца, гутарыць, несумненна вылучаецца постаць Станіслава Скарыны — прамога нашчадка нашага вялікага земляка Францыска Скарыны.**

У лістападзе 1989-га, у Канадзе праходзілі Дні беларускай культуры. Праводзячы нас, членаў дэлегацыі, на тое свята, старшыня прэзідыума праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі А. М. Ваніцкі даваў наказ:

— Будзеце ў Манрэалі, абавязкова адшукайце Станіслава Скарыну. Ён хутчэй за ўсё займаецца навукай...

Просьба была настолькі заманлівай, што, не паспеўшы ступіць на канадскую зямлю, мы звярнуліся да супрацоўнікаў савецкага консульства. Без іхняй дапамогі ў трохмільённым Манрэалі патрапіць на «скарынінскі след» было няпроста...

Праз некаторы час мы даведаліся, што Станіслаў гатовы сустрэцца з намі на кафедры універсітэта Мак-Гіля. Ехалі і разважалі: які ён? Кім працуе? Звестак пра нашага далёкага земляка на той час мы мелі зусім мала.

На выгляд Станіславу было недзе каля шасцідзесяці гадоў, хоць жыццё адлічыла ўсе семдзесят. Невысокага росту, надзіва энергічны чалавек са жвавымі, разумнымі вачамі на прыемным твары, які ўвесь час асвятляе мяккая, добразычлівая ўсмешка. Любіць жартаваць, смяяцца. Сівыя валасы, пастрыжаныя «пад гаршчок», нечым падобны, калі верыць старадаўнім гравюрам, на прычоску, якую насіў яго знакаміты продак.

Магутны скарынінскі род здаўна звязаны з медыцынай. У свой час, як вядома, экзамен па гэтай дысцыпліне трымаў у Падуанскім універсітэце і Францыск. Бацька Станіслава займаўся лячэбнай практыкай у Браціславе. Дый сам ён не здрадзіў гуманнай прафесіі — з'яўляецца доктарам медыцыны. Але не толькі. Помніцца, Станіслаў расказваў:

— Наколькі я ведаю са слоў бацькі, прозвішча Скарына паходзіць ад слова «скоро». Напэўна, таму мы вучымся ўсё рабіць хутка. І ніколі не захапляемся толькі адной справай. Прыгадайце, якія шматбаковыя інтарэсы складалі духоўны свет Францыска: ён быў не толькі ўрачом, але і кнігадрукаром, графікам, батанікам, астраномам... Магчыма, гэта гучыць не вельмі сціпла, але ў некаторай ступені я прытрымліваюся сямейнай традыцыі. Акрамя медыцыны, якая стала маёй асноўнай прафесіяй, пішу музыку, захапляюся філасофіяй, архітэктурай. Ведаю французскую, лацінскую, польскую, славацкую мовы. А нядаўна вывучыў яшчэ рускую і беларускую.

— Вы, можна сказаць, паліглот?

— Справа не ў вызначэннях. Я лічу так: колькі моў ты спасцігнеш, столькі разоў ты — чалавек. Мне вельмі цікава чытаць творы на мове арыгінала.

— Як даўно вы жывяце ў Манрэалі?

— З 1947-га. Прыехаў сюды з Варшавы — я там і нарадзіўся ў прадмесці Прага. Гэту назву яно атрымала ў гонар горада, у якім 6 красавіка 1517 года Францыск выдаў сваю першую кнігу «Псалтыр» — яна была перакладзена на беларускую мову і шырока выкарыстоўвалася для навучання пісьму аж да XX стагоддзя.

Станіслаў ажыўляецца, прыгадаўшы пацешны эпізод:

— Калі я ўпершыню ехаў у Канаду, на граніцы пры праверцы дакументаў у мяне запыталі: «Чаму ў вашым пашпарце месца нараджэння пазначана як «Варшава — Прага»? Вы што, у цягніку нарадзіліся?..»

Кола навуковых захапленняў Скарыны-малодшага надзвычай шырокае. Сярод іншых напрамкаў вабіць яго і генная памяць. Вывучаючы радаслоўныя знакамітых асоб, Станіслаў і яго калегі зафіксавалі спадчынную цыклічнасць таленту. Калі, скажам, прадзед быў надзелены пэўным талентам, дык гэты дар божы перадаецца і нашчадкам. Спрацоўваюць так званыя гены памяці.

— Усё гэта вельмі цікава. Але, пагадзіцеся, Станіслаў, у жыцці нярэдка дарослыя ўнукі мала што ведаюць пра сваіх бабуль і дзядуляў. А ў вас, атрымліваецца, гэтая жывая нітка не абрываецца цэлых пяць стагоддзяў.

— Ці то з-за вузкасці мыслення, ці то з-за слабай эрудыцыі людзі часта бываюць неаб'ектыўнымі і несправядлівымі. Не змаглі як след ацаніць геній Скарыны і яго сучаснікі. Супраць Францыска паўсталі феадальна-царкоўныя вярхі, створаныя ім фаліянты па загаду Васіля III палалі на Лобным месцы ў Маскве. Ды і ў Беларусі некаторы час яго лічылі цемрашалам... Мы ж свята верылі, што час Францыска праб'е. Гадоў дваццаць таму стварылі яго музей у мястэчку Мітланд — гэта недзе паміж Манрэалем і Таронта. Там сабраны унікальныя экспанаты. Некаторымі з іх мая сям'я вырашыла падзяліцца з палачанамі — землякамі вялікага асветніка...

Здавалася, гэтай займальнай гутарцы не будзе канца. На развітанне мы падарылі вучонаму выдадзеныя ў Беларусі буклеты, альбомы, альманахі, прысвечаныя Францыску Скарыне, і доўга агітавалі прыехаць да нас на 500-гадовы юбілей яго вялікага продка.

І яна адбылася, гэта новая сустрэча са Станіславам на беларускай зямлі.

У Мінск ён прыбыў поездам з Варшавы. Нумар вагона ніхто не ведаў, таму давялося адшукваць яго сярод патоку заклапочаных пасажыраў. На шчасце, гэта аказалася не так цяжка — неўзабаве мы заўважылі на пероне ў паўзмроку начных ліхтароў знаёмыя постаці Станіслава і ягонай жонкі Яніны. Абняліся, як старыя знаёмыя.

— О, пан Вялічка, рады вас бачыць!

— Дзякуй, Станіслаў, за прыезд. Вы станеце самым жаданым госцем скарынінскага свята!..

Так яно і здарылася. У Мінску, і асабліва ў Полацку, яго, як ён сам жартаваў, ледзьве «на сувеніры не разабралі». Людзі цягнуцца да дабра, святла, а гэта, на думку Станіслава, сведчанне таго, што ў беларускай нацыі магутны інтэлектуальны і маральны патэнцыял, які можа даць свету яшчэ не адну Асобу, роўную такому волату эпохі Адраджэння, як Францыск Скарына.

Вучонага-даследчыка зацікавіла праблема барацьбы з вынікамі чарнобыльскай аварыі. Знаходзячыся ў нас у рэспубліцы, ён гаварыў:

— Я падыходжу да гэтай праблемы не з пустымі рукамі. Яшчэ 25 гадоў таму з акіянскай водарасці стварыў прэпарат, які выводзіць з арганізма стронцый. Ведаю, у Беларусі выпала нямала і цэзію. У ЗША, Югаславіі ёсць навуковыя распрацоўкі па нейтралізацыі гэтага радыенукліда. Ушчыльную заняўся ім і лабараторыя, якой я кірую. Працуем у кантакце з вучонымі з Гомеля і Гродна. Нават пасябраваў з нястомным даследчыкам з Пінска Анатолем Волкавым...

На развітанне Станіслаў падарыў нам сваю кнігу «Унутраныя хваробы» — манаграфію, якая ў папулярнай, амаль дэтэктыўнай форме, расказвае аб арганізме чалавека, аб вывучэнні страўнікавых і ракавых захворванняў і, што самае галоўнае, падказвае, як засцерагчыся ад злосных хвароб. Кніга багата ілюстравана. На многіх яе старонках надрукавана партытура балета, напісаная, дарэчы, самім аўтарам.

Акрамя Канады кніга «Унутраныя хваробы» выдадзена ў Іспаніі і ў Японіі. Неўзабаве яна ўбачыць свет і ў Беларусі. Гэта першая, але, будзем спадзявацца, не апошняя работа Станіслава Скарыны, надрукаваная на яго прарадзіме.

**Уладзімір ВЯЛІЧКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**



Верасень 1990 года, Нью-Йорк. У кабінеце Э. Шэварднадзе. Размова сам-насам Міністра замежных спраў СССР **Э. Шэварднадзе** з міністрам замежных спраў БССР **П. Краўчанкам.**

**Пётр КРАЎЧАНКА,**
**міністр замежных спраў БССР:**

# «БЕЛАРУСІ НАЛЕЖЫЦЬ ДАСТОЙНАЕ МЕСЦА Ў СВЕЦЕ...»

**Надаць статус канстытуцыйнага закона Беларускай ССР Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.**

*(З Закону БССР ад 25 жніўня 1991 года.)*

Крыху больш года Пётр Кузьміч Краўчанка ўзначальвае міністэрства. Тэрмін, вядома ж, невялікі, тым не менш, можна зрабіць першыя высновы. Наша гутарка адбылася незадоўга да адлёту дэлегацыі БССР у Нью-Йорк, на 46-ю сесію Генеральнай Асамблеі ААН. Таму цікава было даведацца ў кіраўніка дэлегацыі не толькі аб яе планах і мэтах, але і аб месцы, ролі нашай рэспублікі як суверэннай дзяржавы ў свеце.

**— Пётр Кузьміч, як вядома, у кожнага народа ёсць свае адметныя рысы, якія яго найбольш характарызуюць. А ці ёсць яны ў беларусаў?**

— Вядома ж, ёсць. Маючы на ўвазе ўсю нашу слынную і трагічную гісторыю, мы можам паставіць сябе поруч, скажам, са скандынаўскімі народамі, для якіх характэрнымі з'яўляюцца такія рысы характару, як выхаванасць і мужнасць. Мы можам параўнаць сябе з англа-сакскімі народамі, для якіх характэрны рацыяналізм. Мы можам параўнацца і з французамі, якія заўсёды вылучаюцца імправізацыяй, артыстычнасцю, вытанчанасцю манераў.

Аднак у нас, беларусаў, пры ўсім падабенстве з іншымі народамі, ёсць свае адметныя рысы. Гэта — працавітасць і трагізм. Варта ўспомніць падзеі апошніх чатырох стагоддзяў, каб пераканацца ў тым, што і хто перашкаджалі развіццю беларускага этнаса. Неяк я падлічыў: за гэты перыяд мы страцілі больш як 12—15 мільёнаў суайчыннікаў. Калі б гэтага не адбылося, то сёння мы — чацвёртыя па ліку славянскі народ — былі б па колькасці на ўзроўні такой нацыі, як палякі. Нас было б не дзесяць з паловай, а прыкладна 25—30 мільёнаў.

Але сказаць пра наш народ, што ён **працавіты і няшчасны** — сказаць палову праўды. У іспанцаў ёсць пагаворка: «Не ўсё тое золата, што блішчыць». Так і наш пакутлівы народ, які, апрача ўсяго, з'яўляецца народам з вялікім унутраным патэнцыялам, народам **таленавітым**. Мы будзем заўсёды ганарыцца тым, што далі свету Францішка Скарыну і Сымона Буднага, Міколу Гусоўскага і Сімяона Полацкага, Кастуся Каліноўскага і Міколу Судзілоўскага-Руселя, Янку Купалу і Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага...

Мы заўсёды будзем ганарыцца, што на нашай глебе, пад уплывам нашай культуры, мовы і нацыянальнай адметнасці ўзышлі парасткі таленту вялікага польскага (і ўвогуле славянскага) паэта Адама Міцкевіча, французскага мастака Марка Шагала. Не трэба забывацца пра тое, што карані вялікага рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага звязаны з Беларуссю, з вёскай і маёнткам Дастоева, што на Брэстчыне. З Ігуменшчыны вядзе сваю гісторыю род сусветна вядомага кампазітара Ігара Стравінскага, з Вілейшчыны — род Дзмітрыя Шастаковіча. Дзед вядомага французскага паэта Гіёма Апалінэра (Кастравіцкага) родам з маёнтка Арняня, што пад Навагрудкам.

І такія прыклады можна доўжыць і далей. А колькі яшчэ невядомых для маіх сучаснікаў імён, якімі да гэтага часу ганарацца многія народы ў Еўропе, Чылі, Японіі. Напрыклад, першы консул Расіі ў Японіі (у горадзе Хокадата) — наш суродзіч з Астравецкага раёна Гашкевіч — быў не толькі выдатным дыпламатам, але і таленавітым навукоўцам, моваазнаўцам і перакладчыкам.

Карацей кажучы, нам ёсць кім ганарыцца!

**— Згодны з Вамі, аднак, калі ўлічыць вынікі чарнобыльскай трагедыі, гіпотэзы вучоных, медыкаў, сацыёлагаў, то наша будучыня бачыцца далёка не ў ружовых фарбах...**

— Дазвольце з вамі паспрачацца. Так, чарнобыльская бяда пакінула глыбокі і цёмны след у нацыянальным развіцці беларускага народа. Так, мы да гэтага часу не ведаем, што чакае нас у наступныя дзесяцігоддзі. Аднак мы павінны выстаяць, адолець боль і нягоды, што выпалі, і быць упэўненымі ў гістарычнай перспектыве. І я веру, што мой народ і надалей будзе мудрым, разважлівым, памяркоўным. Варта толькі ўсім зразумець, чаму навучыла нас чарнобыльская трагедыя, якія ўрокі вынесены з яе, і задумацца над тым, ці ёсць гарантыі, што такое больш не паўторыцца?

**— У гэтым кантэксце і хацелася б пачуць аб тым, якія захады прымае Міністэрства замежных спраў рэспублікі для выратавання свайго народа!**

— Перш чым адказаць на ваша пытанне, давайце ўсё ж вернемся да рашэнняў 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, якая праходзіла ў канцы 1990 года. Там наша дэлегацыя паставіла мэту: дамагчыся прыняцця спецыяльнай рэзалюцыі ААН па Чарнобылю, давесці да шырокай міжнароднай грамадскасці ўсю праўду пра нашу бяду. Нягледзячы на пэўныя складанасці, мы ўсё ж дасягнулі мэты: рэзалюцыя была прынята без галасавання, яе сааўтарамі сталі звыш 120 краін свету са 159 дзяржаў — членаў ААН. А гэта — беспрэцэдэнтная з'ява ў гісторыі ААН.

15 студзеня гэтага года генеральны сакратар ААН Пэрас дэ Куэльяр прызначыў у якасці спецкаардынатара па выкананню чарнобыльскай рэзалюцыі пані Маргарэт Энсці, надаўшы ёй статус намесніка генеральнага сакратара ААН. Дарэчы, я тройчы сустракаўся з пані Энсці, апошнім разам у Мінску, і ўпэўнены, што гэтая абаяльная, разумная і актыўная жанчына многае зробіць для таго, каб змякчыць вынікі чарнобыльскай катастрофы.

**— Калі не сакрэт, аб якой канкрэтнай дапамозе ідзе размова!**

— Які тут можа быць сакрэт? Вядома ж, разнастайнай, у тым ліку фінансавай. Нам патрэбны і новыя бальніцы для хворых з пацярпеўшых раёнаў, радыелагічныя і дыягнастычныя цэнтры, і дэфіцытныя лекі, і глабальныя даследаванні забруджанай тэрыторыі, і спецыяльныя

медыка-біялагічны, медыка-экалагічны цэнтр у складзе Акадэміі навук БССР, які б займаўся вывучэннем чарнобыльскіх праблем... Патрэбна і маральная падтрымка.

Трэба адзначыць, што, не чакаючы выканання рэзалюцыі ААН, мы зрабілі адпаведныя крокі для атрымання дапамогі з замежжа. Ад імя ўрада БССР у 132 краіны свету былі накіраваны спецыяльныя лісты. Скажу, што гэта была складаная і сур'ёзная акцыя, якой няма аналага ў гісторыі нашага міністэрства. Першым на зварот адгукнуўся ўрад Аўстрыйскай Рэспублікі, які перадаў нам 5 мільёнаў долараў, у аўстрыйскай валюце гэта 50 мільёнаў шылінгаў. Усе сродкі накіраваны на будаўніцтва рэспубліканскага дзіцячага анкалагічнага цэнтра. Вельмі цёплы ліст атрымалі мы ад канцлера ФРГ Гельмута Коля. Мы шчыра ўдзячны таксама ўсім грамадскім і дабрачынным арганізацыям, усім людзям добрай волі, якія аказваюць беларускаму народу пасільную дапамогу.

**— У сакавіку гэтага года афіцыйная дэлегацыя суверэннай Беларусі наведала Японію, дзе ў перагаворах закранаўся шырокі спектр праблем, звязаных з постчарнобыльскай сітуацыяй у рэспубліцы. Чаму выбар выпаў менавіта на гэтую краіну?**

— Па-першае, японскі народ, які перажыў жах Хірасімы і Нагасакі, лепш, чым хто іншы, як нам уяўлялася, разумее чарнобыльскі боль беларускага народа. Японскія медыкі маюць вялікі вопыт лячэння «хібакуся» — так называюць ахвяр атамных бамбардзіровак 1945 года, якія засталіся жывымі. Да таго ж шэраг японскіх няўрадавых арганізацый і дабрачынных фондаў, а таксама вучоныя краіны першымі ў свеце распачалі распрацоўку і практычнае ажыццяўленне канкрэтных праектаў і праграм па аказанню тэрміновай дапамогі яшчэ ў 1990 годзе, г. зн. да завяршэння міжнароднай экспертызы (пад эгідай МАГАТЭ) радыелагічных вынікаў у раёнах СССР, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

Па-другое, урад Японіі першым з урадаў замежных краін аб'явіў, што гэта краіна акажа нам экстранную медыцынскую і навуковую дапамогу, калі ААН прыме адпаведную рэзалюцыю. Дарэчы, гэты факт лішні раз падкрэслівае важнасць чарнобыльскай рэзалюцыі, аб якой я ўжо гаварыў. Вось чаму наш выбар і выпаў на Японію.

**— Калі падводзіць высновы візіту, што варта адзначыць!..**

— Што візіт аказаўся ўдалым. У нас адбылася сустрэча з міністрам замежных спраў краіны Тара Накаямай, а потым і з прэм'ер-міністрам Тосікі Кайфу. Гэта, падкрэслю, была першая афіцыйная сустрэча за апошнія дзесяцігоддзі з урадавай дэлегацыяй сувярэннай рэспублікі. Я не буду закранаць усе пытанні, якія разглядаліся пры сустрэчах. Нам далі зразумець, што Японія згодна дапамагаць Беларусі і будзе рабіць гэта, але мы павінны спадзявацца перш за ўсё на бізнесменаў, на шэраг добраахвотных фондаў, у тым ліку на фонд «Чарнобыль».

Вынікамі візіту ў цэлым мы таксама задаволены. Мяркуйце самі, кіраўніцтва фонду Сасакавы перадало нам чатыры (з пяці падрыхтаваных для адпраўкі ў Савецкі Саюз) перасовачныя дыягнастычныя цэнтры. Кошт гэтай партыі абсталявання — 3,5 мільёна долараў.

У горадзе Акіта мы атрымалі дакументацыю на медабсталяванне коштам прыкладна ў 200 тысяч долараў. Акрамя таго, дамовіліся, што некалькі медыкаў з Беларусі змогуць паехаць у горад Сандай, каб засвоіць у сучасных клініках лепшыя методыкі лячэння. Устанавілі добрыя кантакты і з гандлёва-прамысловай палатай гэтага горада.

Цёплымі былі сустрэчы з грамадскасцю ў гарадах Осака, Сэндаі — пабрацімe Мінска, і іншых месцах. Адзначу, што абстаноўка ўсіх сустрэч была выключна добразычлівай. Заканчваючы адказ на ваша пытанне, хачу адзначыць важнасць таго, што наш экспрэс-візіт даў магчымасць атрымаць рознага абсталявання прыкладна на 5 мільёнаў долараў. І не толькі гэта. Галоўнае — пачаўся дыялог, наладзіліся вельмі важныя для нас кантакты.

**— У адным з інтэрв'ю Вы, Пётр Кузьміч, абмовіліся, што Міністэрства замежных спраў БССР павінна стаць міністэрствам па выратаванню беларускага народа ад разбуральнага ўздзеяння радыяцыі. Але ж у работнікаў міністэрства — шмат іншых, дыпламатычных праблем...**

— Ад тых сваіх слоў не адмаўляюся. Асабіста я 80—90 працэнтаў рабочага часу аддаю вырашэнню чарнобыльскай праблематыкі. Ды і ўвесь апарат міністэрства займаецца ёю. Раней гэта работа была ўскладзена на аднаго супрацоўніка.

Галоўнае, над чым мы зараз працуем,— гэта падрыхтоўка і правядзенне міжнароднай канферэнцыі краін-донараў, якія маглі б стварыць фонд добраахвотных ахвяраванняў «Чарнобыль» пад эгідай ААН. Іншымі словамі, канферэнцыя павінна вырашыць канкрэтныя пытанні фінансавання асобных праектаў, падрыхтаваных БССР. Яна павінна была ўжо адбыцца, аднак гэтаму перашкодзілі падзеі ў Персідскім заліве. Будзем спадзявацца, што плануемы форум пройдзе на самым высокім узроўні і самыя ўплывовыя краіны свету будуць прадстаўлены на ўзроўні міністраў замежных спраў.

Хачу адзначыць: на нашым шляху нямала цяжкасцей, у тым ліку і нечаканых. Так, у маі гэтага года ў Вене адбылася міжнародная канферэнцыя «Радыелагічныя вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС: ацэнка ўздзеяння на здароўе насельніцтва і ацэнка ахоўных мер», арганізаваная МАГАТЭ. На разгляд яе быў вынесены даклад Міжнароднага кансультатыўнага камітэта, які праводзіў даследаванні ў пацярпелых раёнах. На жаль, у гэтым дакуменце не ўлічаны ўвесь комплекс рэальных праблем катастрофы, спецыфічныя радыяцыйна-экалагічныя, сацыяльна-экалагічныя і іншыя фактары. Будзем спадзявацца, што міжнароднае супольніцтва ў далейшым не проста возьме іх пад увагу, але і больш глыбока і аб'ектыўна даследуе іх.

Гэта — адказ на першую частку вашага пытання. Што тычыцца другой, то згодны: ў цэнтры ўвагі міністэрства і іншыя праблемы, якія па меры магчымасці паспяхова вырашаюцца. Так, напрыклад, у апошні час наладжаны сувязі з многімі кампаніямі ЗША. Рыхтуецца пагадненне аб абмене студэнтамі і навуковымі супрацоўнікамі паміж Белдзяржуніверсітэтам і гарадскім універсітэтам Нью-Йорка.

**— Як вядома, нямала зроблена і для развіцця культурных сувязей паміж Беларуссю і шэрагам замежных краін...**

— Так, дзякуючы захадам нашага міністэрства, у Еўропе пачало паважліва гучаць імя беларускага і ўсходнеславянскага асветніка Францішка Скарыны. У Ягелонскім універсітэце, дзе ён вучыўся, у чэрвені з удзелам нашых суродзічаў з Беласточчыны адкрыта мемарыяльная дошка. Ёсць дамоўленасць з гарадскімі ўладамі Прагі аб адкрыцці помніка Скарыне, а таксама мемарыяльнага знака прыкладна на тым месцы, дзе стаяў будынак друкарні.

**— Міжнародныя кантакты з замежжам усяляюць надзею, што Беларусь, нарэшце, зойме дастойнае месца ў свеце. Але ці не баіцца замежны свет нашага суверэнітэту?**

— Згодзен: Беларусь павінна заняць дастойнае месца ў свеце. І так яно будзе! Ён, гэты свет, не баіцца нашага суверэнітэту, ён баіцца анархіі, непазбежнай пры распадзе вялікай дзяржавы. Буйнейшыя краіны Захаду (напэўна, яшчэ ў большай ступені ЗША) хацелі б мець справу з адзіным Саюзам, з краінай, дзе існуе дакладны кантроль над ядзернай зброяй, над энергетыкай, над іншымі стратэгічнымі пытаннямі, ад якіх залежыць наша агульная бяспека. Таму мы падкрэсліваем, што Беларусь выступае за паступовую, але няўхільную рэалізацыю Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, за незалежнасць.

**— Якія адносіны ў Міністэрстве замежных спраў з беларускім парламентам?**

— Самыя дзелавыя. Мяркуйце самі. На чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР у першым чытанні прыняты закон «Аб парадку заключэння, выканання і дэнансацыі міжнародных дагавораў Беларускай ССР». Наш парламент стаў першым у Саюзе заканадаўчым органам, які разглядзеў такі дакумент. Хачу падкрэсліць вынікі галасавання: за — 253, супраць — 1, устрымалася — 8. Гэта азначае, што па прынцыповых пытаннях дзейнасці міністэрства ўсе палітычныя сілы — і асноўны блок «Камуністы Беларусі», і апазіцыя — падтрымліваюць нашу дзейнасць.

**— І апошняе, Пётр Кузьміч, пытанне: чаго Вы і дэлегацыя БССР чакаеце ад 46-й сесіі ААН?**

— Перш за ўсё хачу падкрэсліць: галоўная мэта нашай дэлегацыі — кансалідацыя міжнароднай супольнасці, аб'яднанне яе магчымасцей дзеля мінімізацыі вынікаў Чарнобыльскай трагедыі. Будзем працягваць работу, пачатую на папярэдняй сесіі, каб давесці да ўсіх кантынентаў праўду аб маштабах Чарнобыльскай катастрофы, той бяды, якая спасцігла наш народ. Я ўжо адзначаў, што некаторыя колы лічаць, што мы перабольшваем вынікі трагедыі, яе значэнне, што нічога страшнага не адбылося і пра ўсё гэта трэба забыцца. Мы не згодны з такой пастаноўкай пытання і маем намер адстойваць свае погляды і прынцыпы. Сілаю аргументаў, фактаў, довадаў.

Мяркуем шырэй наладжваць перспектыўныя кантакты з дзелавымі коламі ЗША, Канады, ажыццявіць шэраг сустрэч з прадстаўнікамі беларускай эміграцыі, сродкамі масавай інфармацыі. Напомню, што на парадку дня сесіі — каля 200 пытанняў, якія тычацца інтарэсаў міжнароднага грамадства. Таму нас чакае складаная і карпатлівая праца ў камітэтах і рабочых групах.

**— Ці будзе наша дэлегацыя адзначаць 100-годдзе Максіма Багдановіча?**

— Абавязкова. Гэтаму юбілею знакамітага песняра будзе прысвечаны шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку ўрачысты вечар. У штаб-кватэры ААН, другіх месцах плануем арганізаваць выставы, дэманстрацыю фільмаў, якія раскажуць заакіянскай грамадскасці аб жыцці і творчым шляху Максіма Багдановіча, гэтага таленавітага паэта, які ў сваёй асобе шчасліва спалучаў лепшыя рысы першых беларускіх інтэлігентаў — вялікую адукаванасць і самаахвярнасць, эрудыцыю і памяркоўнасць, арганічную сувязь з народам і шчырасць. Я глыбока перакананы: прах Багдановіча да 100-годдзя павінен быць перавезены на Радзіму, дзе патрэбна стварыць нацыянальны Пантэон.

Мяркуем таксама аформіць фотавыставу «Сам-насам з Чарнобылем». У будынку штаб-кватэры ААН ёсць своеасаблівая галерэя мастацтваў — падарункі кожнай з дзяржаў — членаў гэтай арганізацыі. Наша рэспубліка з'яўляецца адной з заснавальнікаў ААН, старэйшым яе членам, а вось у гэтай галерэі няма экспаната з Беларусі. Пралік трэба ліквідаваць. Пад кіраўніцтвам вядомага мастака Аляксандра Кішчанкі падрыхтаваны беларускі габелен «Чарнобыль — Галгофа XX стагоддзя», які спецрэйсам будзе дастаўлены на Іст-Рывер у Нью-Йорк. Памер работы — 40 квадратных метраў, яна — аб чарнобыльскай бядзе, аб мінулым і будучым нашага народа.

**— Ад імя чытачоў «Беларусі» жадаем дэлегацыі плённай працы, новых здабыткаў на карысць беларускага народа!**

— Дзякую.

# «КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ ПАЭТА, ТРЭБА ПАБЫВАЦЬ НА ЯГО РАДЗІМЕ...»

Помніцца даўняе выслоўе: каб зразумець паэта, трэба пабываць на яго радзіме. Не ручаюся, наколькі яно адпавядае сучаснай рэальнасці. Сённяшні свет (ва ўсякім выпадку яго еўрапейскі рэгіён) мінуў гістарычную эпоху арганічнай культуры, перайшоў у фазу цывілізацыі. Раней гарады былі цэнтрамі культуры, але ў іншым сэнсе. Горад (беларускае мейсца, польскае мяcто, літоўскае места) ствараўся па прынцыпу сельскай абшчыны, яго прыкметай была «агарада» (адсюль — горад), сцены, што сімвалізавалі аседласць чалавека, яго адзінства з зямлёю, краем.

Паэзія, а, урэшце, культура наогул, уяўлялася кронаю вялікага дрэва, вынесенай ствалом ад заглыбленых у зямлі каранёў. Дык вось, толькі ва ўмовах такой «экалагічнай раўнавагі» (па ёй сення «плача і рыдае» траха не ўвесь свет, прарочачы татальную смерць) была магчымая класічная паэзія, мастацтва, арганічная культура. Воляю лёсу крона паэзіі магла быць адарвана ад радзімага ствала, вынесена на чужыну (як гэта сталася з Максімам Багдановічам), аднак яна жывілася «духоўнымі сокамі» радзімай зямлі.

Першы біёграф Багдановіча прафесар Іван Замоцін заўважыў гэты геранчны парыў генія да родных вытокаў: «Чаму паэт, які пражыў сваё маленства і юнацтва ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, не адлюстраваў у сваіх вершах уражанняў Паволжа, быту расійскіх губернскіх гарадоў, прыўральскага стэпу, дзе ён некалькі разоў летаваў, Крыма, дзе ён жыў і лячыўся і г. д.? Гэтага ніяк нельга вытлумачыць недахватам яго ўражлівасці ці недахватам таго матэрыялу з галіны прыроды і быту, якія ён назіраў па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Гэта можна вытлумачыць толькі тым, што ён усё сваё нядоўгае жыццё... цалкам аддаў Бацькаўшчыне, што ён сам пасвяціў сябе ў рыцара гэтай «даме» свайго юнацкага рамана, што ён, звязаны сваёй любасцю да Бацькаўшчыны і слуганнем ёй, мысліў сябе нявольным аддаць сваё натхненне чаму-небудзь і каму-небудзь іншаму...»

Не хацелася б быць нядобрым пракокам, але, здаецца, што ў сённяшнім «дынамічным» і «крызісна эканамічным» свеце такі род паэтаў вымірае, а калі захаваўся (на жаль, з паніжанай творчай энергіяй), то хіба што ў славянскім свеце (накшталт зуброў і куланаў, якіх мне пашчасціла сустрэць на загонах Белавежскай пушчы). Паэзія і, шырэй, літаратура, мастацтва, філасофія, культура страчваюць сваё духоўнае прызначэнне, сваю прарочую місію, якую яны выконвалі, пачынаючы з біблейскіх часоў і, пазней, у класічную эпоху. А без гэтага свайго месіянства паэты і мастакі становяцца альбо вытворцамі масавай, пацяшальнай культуры, альбо, на другім полюсе,— чыстай гульні, метафарычнымі вынаходнікамі. Сфарміраваўся яшчэ адзін род паэзіі ў жанры дасціпнай рэфлексіі пра культуру — ад міфалогіі да сучаснай тэхналагічнай, прыкладной навукі. Сярод «паэтычных ігракоў у бісер» і літаратурных медытатараў ёсць людзі таленавітыя. Але мастацтва іхняе страчвае быційную повязь з нацыяй, народам, гэта значыць — з вечнасцю.

Паміж еўрапейскім і славянскім масівамі згубілася ў шматмоўным літаратурным моры зялёная беларуская выспа, дакладна названая «Белавежай». Гісторыкі і крытыкі нашай літаратуры чамусьці яе абміналі нават у «зорны час» афіцыйнай дружбы Польшчы і СССР. Праўда, чытачы, якія не здрадзілі беларускай літаратуры (а такія, здаецца, усё яшчэ ёсць), ведаюць, што сувязі паміж Саюзам пісьменнікаў Беларусі, нашымі выдавецтвамі і асабістыя кантакты паміж літаратарамі Беларусі, Польшчы, асабліва Беласточчыны, сяды-тады наладжваліся. Плён гэтага сяброўства — рэдкія кніжкі вершаў беларускіх паэтаў з «таго боку» Белавежскай пушчы ў нашых, здаецца, толькі навуковых бібліятэках. А яшчэ такія ж рэдкія кніжкі іх твораў у мінскім выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» ёсць кароткія (надта ўжо няпоўныя) даведкі пра вядомых пісьменнікаў-«белавежцаў». Чытач даведаецца, што ў 1956 годзе ў Польшчы створана Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ) на чале з Галоўным праўленнем у Беластоку. Яно аб'ядноўвае больш як 6000 сяброў, мае свае гурткі, бібліятэкі і клубы ў розных гарадах і мястэчках Польшчы. Па ініцыятыве гэтай самаахвярнай арганізацыі створаны кафедра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце (Беластоцкая філія), беларускае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Белавежа» (з 1956), выдадзена некалькі літаратурных альманахаў «Белавежа», з 1956 года выдаецца штотыднёвік «Ніва». Па нейкіх бюракратычных зачэпках газета часта не даходзіць да нашага чытача.

Недаравальна мала ведае Беларусь пра нашую «польскую» беларушчыну! Раней пад гучныя «дружбацкія» лозунгі афіцыйныя ўстановы БССР абмяжоўваліся фармальна-кампанейскімі мерапрыемствамі, фактычна нічога не зрабілі, каб падтрымаць творчыя і асветніцкія намаганні беларусаў ва ўсім свеце. Мабыць, справу гэтую паправяць створаныя сёлета міжнароднае аб'яднанне беларусаў «Бацькаўшчына» і Міжнародная асацыяцыя беларусістаў. Але яны яшчэ не маюць фінансавай базы, могуць вырашыць гэтую праблему толькі пры падтрымцы дзяржаўных устаноў, Акадэміі, універсітэтаў, іншых навукова-асветных інстытуцыяў.

Трэба ўжо сёння пачаць грунтоўнае даследаванне беларускай літаратуры, мастацтва, культуры за межамі БССР. Неабходна выдаць папулярныя нарысы пра лёс беларускай літаратуры і культуры на Беласточчыне і ў рэгіёнах «беларускага рассеяння».

Сёлета па запрашэнню кіраўніка літаратурнага аб'яднання «Белавежа» Яна Чыквіна паэт Алесь Разанаў і я пабывалі на радзіме нашых калег, літаратараў Беласточчыны. Пазнаёміліся з цэнтрам Беластоцкага ваяводства, сустрэліся ў гасцінным доме нашых польскіх калег, якія шчыра падтрымліваюць беларускі літаратурны рух, далучаюцца да яго сваёй працай. Цэнтральная падзея нашай сустрэчы — літаратурны семінар у гарадку Белавежа — адміністратыўным і культурна-асветным цэнтры польскай часткі Белавежскага запаведніка. Пятнаццаць хвілін язды ад Бельска, радзімы беларускіх паэтаў і асветнікаў — і мы на маляўнічай шырокай паляне сярод пушчанскай нерушы, дзе быццам на сцэне зялёнага тэатра ці кінематаграфічнай пляцоўцы, як нейкі райскі прывід, узнік бела-ізумрудны (квітнелі сады, лясы, травы) ці то гарадок, ці то вялікае сяло. Вось тут збіраюцца «белавежцы» на свае літаратурныя сумоўі... Ці варта здзіўляцца, што тут пераважае паэтычны род літаратуры? Часам пішуцца лірычныя ці элегічныя апавяданні, абразкі, аповесці. Здаецца, няма вялікіх (на жаль, апошнім часам, у нас і ва ўсім свеце сумнаватых) раманаў і трылогій. Ёсць тут яшчэ зусім не паэтычная, бытавая прычына. Каб засесці за вялікі раман, патрэбна быць «чыстым» літаратурным прафесіяналам (у сацыяльным, а не мастацкім значэнні гэтага паняцця). Нейкая грамадская і дзяржаўная падтрымка, здаецца, ёсць. Але яе мала, каб здабываць хлеб свой надзённы адно толькі літаратурнай працай. Селянін, настаўнік, журналіст, сельскі асветнік, здаецца, адзін дацэнт і адзін прафесар кафедры беларускай філалогіі — вось штодзённыя прафесіі нашых ахвярных «белавежцаў». І ні аднаго «тоўстага» аднатомніка выбраных твораў, не кажучы ўжо пра двухтомныя і шматтомныя выданні, якія дазваляюць перавесці дух ад будзённых клопатаў.

А між тым літаратурнай «Белавежы» ўжо трыццаць тры гады. Сакральная лічба — зямны ўзрост Ісуса Хрыста! Дай Бог здзейсніцца беларускаму адраджэнню на Беласточчыне!

Першы паэтычны зборнік маладых беларускіх адраджэнцаў называўся сімвалічна — «Рунь». Прыпомнім ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс «Рунь» (1920), рэдактарам якога быў Янка Купала. Тады гэта была «рунь» беларускай паэзіі на пабітых градам вайны родных гонях. А новая «Рунь» пачала місію ратавання беларусаў на «той бок» Белавежскай пушчы ад дэнацыяналізацыі. У ёй дэбютавалі сённяшнія лідэры беларускага літаратурнага руху ў Польшчы Алесь Барскі (цяперашні загадчык кафедры беларускай філалогіі А. Баршчэўскі) і доктар філалогіі, дацэнт той жа кафедры, а тады васемнаццацігадовы юнак, Ян Чыквін (пад псеўданімам Янка Дубіцкі, ад назвы вёскі Дубічы Царкоўныя Гайнаўскага павета). Паэзія «Руні» сапраўды была яшчэ зялёнай, яна ў чымсьці напамінае паэтычныя эскізы пачаткоўцаў з колішняй «Нашай нівы». Але ж была ў ёй і свежасць пачуцця, незамутнёны погляд на жыццё, якія абяцалі творчы рост.

Час «Белавежы» настаў у 1965 годзе, калі выйшаў першы выпуск аднайменнага літаратурнага альманаха, які згуртаваў дваццаць двух паэтаў і празаікаў, а яшчэ мастакоў (рэпрадукцыі іх жывапісных і графічных твораў ёсць у кніжцы) і журналістаў (Ада Чачуга, цяперашні сакратар рэдакцыі «Нівы», прымала ўдзел у падрыхтоўцы «Руні» і альманаха «Белавежа»). Рэдактары і складальнікі альманаха адзначылі: «Амаль кожны аўтар спецыялізуецца не толькі ў адпаведным літаратурным жанры, але і рэпрэзентуе пэўны напрамак». Пошукі сваёй паэтычнай філасофіі і свайго мастацкага стылю працягваліся пазней, калі рыхтаваліся другі і трэці выпускі «Белавежы», выходзілі асабістыя зборнікі, і кожны з іх — свайго роду паэтычны маніфест. Першая кніжка альманаха цікавая тым, што яна — маладосць згуртавання, узыходжанне на «вежу» літаратуры. Лірычны герой паэзіі знаходзіцца на паўдарозе паміж вёскай і горадам. Ён імкнецца «вызваліць сэрца з-пад горада пяты і ў беларускі адзецца зноў кужаль» (А. Барскі). Адсюль і «сельская кантрасная метафара», што пераклікаецца з маладнякоўскай паэзіяй 20-х гадоў: «Расклявалі сонца пчолы // і носяць у вуллі, // кожная цягне пахучы прамень».

Прапанаваная нашаму чытачу падборка паэзіі і прозы толькі часткова рэпрэзентуе тры пакаленні і тры плыні літаратурнай «Белавежы». Адзін з яе пачынальнікаў Віктар Швед (нарадзіўся ў 1925 г.) сёлета апублікаваў чацвёрты зборнічак вершаў «Родны схоў». Ён — прыхільнік традыцыйнай паэзіі, якая пачынае свой радавод ад «Нашай нівы» і заходнебеларускай адраджэнскай літаратуры. Нягледзячы на сваю прастату (а можа, якраз дзякуючы ёй), яна адлюстравала драму традыцыйнай вёскі і нашай роднае мовы, якія ва ўмовах стыхійнай (і спланаванай) дэнацыяналізацыі ды гратэскавай правінцыйнай урбанізацыі становяцца «мясцовым каларытам» і амаль што музейным экспанатам. Юных чытачоў, якім не хапае эстэтычнага вопыту, каб расшыфраваць творы сучасных «метафарыстаў», паэзія В. Шведа далучае да беларускага культурнага руху.

Паэт і мастак Янка Анісаровіч (друкаваўся пад псеўданімам Яша Бурш) усяго на 4—5 гадоў маладзейшы за В. Шведа, але стварае зусім іншую паэтыку, якую раней у нас (не надта каб дакладна) назвалі «мадэрнісцкай». У першым выпуску «Белавежы» гэты арыгінальны паэт, бадай што не вядомы нашаму чытачу, надрукаваў цыкл вершаў у чымсьці блізкіх па жанру да твораў, якія пазней А. Разанаў «ахрысціў» імем «вершаказы» і «квантэмы». На жаль, яго даўнейшы зборнік «Промень думкі» і новыя творы не прадстаўлены ў гэтай падборцы.

Алесь Барскі належыць да таго пакалення паэтаў, якое паднялося на беларускі Парнас у пачатку 60-х гадоў і ў творчасці якога пераважна песенная, апошнім часам медытатыўная лірыка. Беластоцкія і мінскія кніжкі яго вядомы нашым пісьменнікам і чытачам, а сам паэт, прафесар беларускай літаратуры і яе перакладчык, прафесіянальна ведае сучасную паэзію Беларусі, і гэтае веданне «прачытваецца» ў яго творчасці.

# СЛОВА ПРА ЛІТАРАТУРНУЮ БЕЛУЮ ВЕЖУ

Выдадзены ў Мінску зборнік вершаў А. Барскага «Лірычны пульс» у пэўным сэнсе падсумоўвае творчы шлях пісьменніка.

Аўтар выдадзенага на Беларусі паэтычнага зборніка «Светлы міг» (1989) і пяці паэтычных кніжак, апублікаваных у Беластоку і Варшаве (дзве апошнія ў перакладзе на польскую мову), цяперашні кіраўнік «Белавежы» Ян Чыквін (нарадзіўся ў 1940 г.), паводле сваіх чалавечых якасцей і мастацкіх арыентацый, здаецца, якраз і заклікані творчым лёсам, каб аб'яднаць вельмі неадназначны літаратурны рух на Беласточчыне. Сёння ён узяў на сябе нялёгкую ношку літаратурнага рэдактара «Бібліятэчкі» аб'яднання «Белавежа», а ў ёй выходзяць кніжкі аўтараў рознай, часам палярнай эстэтычнай арыентацыі і «паэтычнай веры». Паэзія Яна Чыквіна фармавалася на скрыжаванні трох славянскіх культур — беларускай, польскай і рускай. Па-польску ён апублікаваў некалькі вершаў, а рускую паэзію «сярэбранага веку», у тым ліку А. Фета, вывучаў як літаратуразнавец-русіст. Пра філасофскую, сімвалічную, часам ускладнёна-метафарычную паэзію яго хацелася б пагутарыць асобна. Мне вельмі блізкае і зразумелае вось такое «катастрафічнае» і разам з тым стаічнае бачанне жыцця: «Старэе дзень і з ім старэе ўсё кругом: // Вада ў калодзежы, калодзеж і чарпальнае вядро, // Сцяжына да вады і проста сцежка ў доме...» І ўсё ж: «Лаўлю шчупальцамі антэн, дзе праўда, дзе мана. // І як з крышталінак жывых расце жывы феномен дня».

За «ціхай» паэзіяй равесніка Яна Чыквіна, вясковага паэта Уладзіміра Гайдука, прыхаваны ўнутраны драматызм. Рана выявіўшы бясспрэчныя літаратурныя здольнасці (першыя вершы васемнаццацігадовы юнак апублікаваў у зборніку «Рунь»), Уладзімір пасля дзевятага класа Бельскага беларускага ліцэя пакінуў вучобу і застаўся гаспадаром на бацькоўскім хутары Гайнаўскага павета. Ён і сёння — паэт-селянін, і не толькі паводле паэтычных метафар, як гэта часта бывае апошнім часам, але, так сказаць, быційна, экзістэнцыяльна. Я параіў бы нашым выдавецтвам пазнаёміць чытача з ягонай шчырай, прафесіянальнай і па-народнаму цнатлівай лірыкай. У нас, здаецца, такіх паэтаў не было з часоў «Нашай нівы» і Заходняй Беларусі.

Да майго, умоўна кажучы, сярэдняга пакалення літаратараў належыць самабытны празаік лірычнага складу, паводле свайго таленту, Сакрат Яновіч. Наш чытач знаёміўся з яго аповесцю, апавяданнямі і мініяцюрамі па кніжцы «Сярэбраны язвок» (1978), якая выйшла ў Мінску з пасляслоўем Янкі Брыля. Ягоную аповесць пра пушчанскіх падпольшчыкаў Кастуся Каліноўскага я прачытаў, як кажуць, нагбом.

Мікола Гайдук (ён вучыўся ў 50-я гады на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта) прапанаваў гістарычнае апавяданне пра славутую Супрасльскую Благавешчанскую царкву. Здаецца, гістарычная проза — яго бясспрэчнае прызванне. Лірычныя «Абразкі» Янкі Целушэцкага адраджаюць напаўзабытую, багатую ў нашай ранейшай літаратуры традыцыю. Да цікавай, яшчэ «нашаніўскай» разнавіднасці навелістыкі звярнулася маладая журналістка з «Нівы» Міра Лукша. Гэта элегічныя апавяданні пра беларускія народныя тыпы.

Тым часам пасталела новае пакаленне «белавежскіх» паэтаў, празаікаў, журналістаў. У маскоўскіх літаратурных колах іх равеснікаў называюць «трыццацігадовыя». У тым ліку паэты-дзяўчаты — новая з'ява для «Белавежы». Іх творчасць развіваецца ў рэчышчы той паэтычнай плыні, у якой паступова меншала традыцыйнай песеннасці, узмацняліся элементы ўскладненай асацыятыўнасці і сімволікі, стварался новы паэтычны сінтаксіс. У гэтым ключы піша Надзея Артымовіч, аўтар паэтычнага зборніка «Сезон у белых пейзажах» (1990) і Зося Сачко, якая нядаўна апублікавала кніжку вершаў на мясцовай усходнепадляшскай гаворцы, блізкай да нашага палеска-брэсцкага дыялекту. Новая плынь «вершасказаў» занадта складаная і неадназначная з'ява, каб даваць ёй ацэнку ў гэтых нататках.

Міхась Шаховіч нядаўна апублікаваў лацінкай нізку вершаў «Напевы» — экспрэсіўная лірыка, дзе наватарскія пошукі лучацца з нацыянальнымі традыцыямі. Рэальным апірышчам «Белавежы» застаецца штотыднёвік «Ніва». Там плённа працуе кампетэнтны крытык і публіцыст Ян Максімюк.

Літаратурная «Белавежа» «прытулілася» да Пушчы, якая дала ёй імя. Калі мы падвячоркам вярталіся з ляснога гарадка ў Беласток, гаспадар Ян Чыквін падвёз нас да зубрыных загонаў. Час заезду турыстаў даўно мінуў. Аднак добры, статны асілак-егер (моцныя людзі звычайна добрыя) прапусціў нас. Метраў на дваццаць ад бар'ера похапкамі скуб траву элітны волат, якога ў натуры я раней не бачыў. У вялікіх вачах — прадонне стагоддзяў, і не злосць, а вялікая прага жыцця. І здзіўленне: што ж вы зрабілі, людзі, з гэтай па-боску прыгожай зямлёю? На другім плане пасвілася значна меншая прыгожая зубрыца. А побач — яшчэ адзін загон, яшчэ большае дзіва — статак серабрыста-шэрых тарпанаў. А што гэта яшчэ за чары? Як быццам месячная поўня спусцілася на пацямнелы вечаровы лужок: скруціўшыся абаранчыкам, у траве ляжала светлае жарабятка. Прыпамінаюцца тыповыя эпізоды беларускіх чарадзейных казак. Выпрабоўваючы героя, яму даручаюць злавіць дванаццаць светла-шэрых дзікіх коней. Астральны сімвал заранкі, світання.

Чамусьці прыцягваў нас, быццам магнітам, гэты жывы малюнак. І тут прыйшла здагадка. Гэта ж — нашыя жывыя сімвалы. Ім таксама не хацелі пакінуць месца пад сонцам. Як і нам, беларусам, нашай мове, нашай пакутнай гісторыі. Іх вяртанне да жыцця — нашае Адраджэнне.

Як кажуць на маёй Навагрудчыне: спары, Божа, вам, браткі і сястрыцы!

**Уладзімір КОНАН.**

# ПАЭЗІЯ

**Алесь БАРСКІ**

## «БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА»

### *Першае*

Пейзаж, каханне,
Прамінанне майго быту —
Дзве радасці мае
І боль адзін зграе.
Мы арандатары жыцця,
Яго найміты,
Бяром на міг
І назаўсёды пакідаем.
Пейзаж, каханне —
Гэта вечныя праявы
Жыцця, якому на імя
Хвіліна толькі;
Кар'еры, зайздрасці, імкненні,
Грошы, слава,
Няма з вас радасці
І быць не можа толку.
Пейзаж, каханне,
Сустракаю вас я гімнам,
А прамінанню
Я элегію спяваю.
Як добра, што я бачыў
Зелень і жанчыну.
Як добра, што я жыў,
І добра, што сканаю.
Пейзаж, каханне,
Лёт жыцця майго і ўпадак
У зелені бяроз,
А не ў хмяльной багеме.
Хацеў бы я вам праспяваць
І боль і радасць;
Хацеў бы вам злажыць
Зялёную паэму.

### *Другое*

Адну толькі маю зямлю —
Самотную, нібы дзіця.
Малюся ляснему галлю,
П'янею ад песні трысця;
Прастор, падыдзі да мяне,
З цябе мая песня і сон.
Бліжэй і бліжэй мой канец
І боль развітання з вясной,
Ляжыць недаканчаны верш
Пад плынню не сказаных слоў.
Сказаць пра зямлю —
перш-наперш,
Дык значыць упіцца святлом,
Ад промняў вясёлых сканаць,
Пайсці пад зямлю, потым зноў
Прабіцца, як прыйдзе вясна,
Зялёна явай і сном.

### *Трэцяе*

Кахаць без пары,
Кахаць без берагоў.
Кахаць — каб загубіць
і нарадзіцца,
Каб не было твайго,
Каб не было майго,—
Стацца бяздоннаю крыніцай.
Прыкрыцца небам зорным
Без канца,
Вярнуць узятае,
Сваё аддаць без краю;
Шукаць, шукаць
Найцвёрдшага разца
І высечы на камені —
КАХАЮ.
Бо толькі ты, кахання
Сіні зман,
Быў, ёсць і будзеш
Праўдай найпраўдзіўшай;
Магільны ўсіх ідэй
Расце курган,
А ты жывеш,
А ты навек расцвіўшы.
Цябе не знішчаць
Варвары, ні час,
Ні скептыкі,
Ні стоікі, аскеты;
Расце кахання дрэва
Сярод нас
І прыкрывае песняй
Ўсю планету.

**Уладзімір ГАЙДУК**

### *Шэпты*

Паставіла Верка
Зацірку варыць.
Пайшла з вядзерцам
Прынесці вады.

Спаткала ля студні
Суседку якраз:
— Кумачка Дуня,
Што ў вёсцы чуваць?

Суседка суседцы
Шэпча на вуха:
— Янка штовечар
Ходзіць з Марусяй,

Мікітава Зіна
Ужо не сама;
Нінку пакінуў
Васька-гандляр.

У варожкі Агаты
Спаў п'яны Рыгор,
Федзя Астапаў
Жане самагон.

Батурыкаў Жэнік
Да Олі прыліп —
Антось аліменты
Будзе плаціць.

Яўменаў Алёша
Прадаў парсюка;
Чорнага Ёзік
Мяжу загараў.

Даміна з Параскай
Зноў вяжуць цапы,
Толік Ігнатаў
Братоў абсудзіў.

А Тэкля-шаптуха
Знайшла жаніха;
Бязвусы Шурык
Быў у сватах.

Барбушына Ленка
Паехала ў ЗАГС,
Іна студэнта
З сабой прывязла...

Суседка суседцы
Шэпча навінкі —
Тым часам у печцы
Вугаль з заціркі.

### *Творчасць*

Такой хвіліне сэрца аддаю,
Што векам будзе свежай на
паперы,
А словы, бы на камені разьбу,
Ні бура, ні агонь не пераменіць.

Сваім павабам, шчырасцю сваёй,
І радасцю, і горкімі слязамі
Будзеш, хвіліна, вечнай і жывой,
Ператрываеш цэлымі вякамі!

Міра ЛУКША

# КАМЕНЬ

АПАВЯДАННЕ

Сказалі мне, што баба Катрынка вельмі занядужала. Прабабка ўжо яна, 90 ёй мінула, праўнукаў мае дарослых. Бабка дагэтуль старалася ўсім дапамагчы — ці то грашамі з пенсіі, ці то звяжа за акулярамі рукавічкі ды шкарпэткі... А цяпер гавораць, што з лыжачкі яе кормяць, і то не ідзе і ўставаць ужо цяжка. Найчасцей сядзіць, абапёртая на ўзбітыя падушкі. Сядзіць цэлымі днямі адна — усе на рабоце: хто ў полі, хто ў школе... Калі б чытаць умела, то што-лень пачытала б. Але не даў лёс у школу хадзіць. Такая была доля — ад малога рабіць, бо есці не далі б. Хто думаў сірату ў школу пасылаць?! Вечарам бабуля фільмы глядзіць, усе праграмы.

Калі малой была, дзяцей любіла, хоць большыя заўсёды білі яе. А хто будзе бараніць залатушную, худую, вашавітую сіротку? Заўсёды горшая, брыдчэйшая, непатрэбная... А калі хто хваліў малую і хацеў пагладзіць па галоўцы, заўсёды, нават ноччу, павязанай хустачкай, яна кідалася назад, як цюцік ад узнятага калка.

Неяк вырасла. Мачыха са здзіўленнем заўважыла, што з брыдкай шкарлупіны вылупілася здаровае, чыстае птушаня. Праўда, была крышку худавая, але прыгожая, ціхая, спакойная, паслухмяная...

Хутка выдалі замуж старэйшую сястру, хворую на сухоты, але чырвоную, здаровую, так што чужыя не ведалі, колькі ёй жыцця засталося. Пакінула двухгадовага хлопчыка, Езіка. Сказалі Катрынцы: ідзі за ўдаўца, добры чалавек, нябедны — на хутары, ды сястрынае дзіцяня пашкадуй, а то чужая яго змарнуе... І гаспадарка добрая: конь, каровы аж тры, каза, авечкі... Такое шчасце, можа, ніколі ўжо не спаткае!..



Кастэнты быў добры, працавіты. Крыху быў хворы — час ад часу мучылі яго страшэнныя болі галавы. У бежанстве ўдарыў яго конь і амаль не забіў. Неяк вылізаўся. З розумам усё добра, але, калі находзіў боль, Кастэнты падаў, дзе стаяў, і крычаў, схапіўшыся абедзвюма за чэрап. Катрынцы ніхто аб гэтым не сказаў. І вельмі спалохалася яна, калі на другую ноч пасля вяселля Кастэнты ўпаў ніцма на падлогу, схапіўшыся за галаву, і крычаў немым голасам. Бедная шаснаццацігадовая жонка расплакалася, а пасля пачала пяшчотна гладзіць мужаву галаву і супакойваць.

Жылі добра. Нарадзілася чацвёра дзяцей. Людзі дзівіліся — Катрынка маленькая, худзенькая, а вынасіла трох дужманых хлопцаў і здаравяцкую дзяўчынку. Дзеці ўдаліся ў Кастэнтага — крутаплечыя, разважлівыя, кампанейскія. Катрынка, як Катрынка,— як заўсёды, крыху баялася людзей, але тут, на хутарах, не было іх шмат. Усе суседзі — як сваякі. Гадоў трыста назад нейкі Мелеш выдзер у пушчы кавалак чарназёму, збіў хату. Урадзіла зямля, урадзіла сям'я. Усе навакольныя вёскі — патомкі Мелеша, хаця, можа, у кожнага толькі па кроплі Мелешавае крыві. Гаварылі, што жонка Мелеша, Прузына, чарамі займалася і вылечыла аздараўляючым зеллем якогась караля ці князя. Гавораць, што гэты ўрослы камень за клуняй Кастэнтага выкацілі ў памяць аб гэтым здарэнні і штосьці на ім выкавалі. Але тады, калі прыйшла на хутар жыць Катрынка, надпіс быў заглыблены ў зямлі і нельга ўжо было яго прачытаць. А цяпер толькі вяршок каменя відаць, заўсёды халодны, нават у найгарачэйшыя дні. Катрынка любіла на камені адпачываць.

Над светам праляталі ночы і дні, зімы і вёсны. Зямля радзіла, адпачывала, разрывалі яе бомбы, і плуг дзёр яе пладавітую скуру... Кастэнтага не ўзялі на вайну. Дапамагаў партызанам, а пасля іх вёску спалілі, як усе пушчанскія вёскі, і да канца вайны бадзяліся яны з дзецьмі і адной каровай. Але вярнуліся на свой хутар, дзе за абвугленымі рэшткамі клуні тырчаў халодны Прузынін камень, які ўсё больш урастаў у зямлю.

Па-суседску жылі Калітнікі. У іх вайна многа забрала: трох сыноў дарослых, аднаго падшпарка і дзеўку (прапалі дзесьці на работах у Германіі), бацьку нагу адрэзалі пасля ранення, дзеда кантузіла. Адна дачка вярнулася з Германіі, Надзейка, і яна была ўсёй іхняй надзеяй.

Катрынка сябравала з Надзейкай. Дзяўчына, вёрткая весялушка, прыліпла да гэтай сур'ёзнай, лагоднай жанчыны. Не мела перад ёю ніякіх таямніц, прасіла парад у розных справах.

Да Надзейкі сваталася шмат хлопцаў. Найбольш спадабаўся ёй Пранцішак. Паўгода «гулялі», хаця Пранцішак намагаўся, каб хутчэйісці пад вянец. Бедны быў — зямлі нямнога, ды і тая зарасла лазою недзе пад Міхаловам,— але здаровы, высокі, сінявокі — прыгожы, як васілёк у збожжы. Катрынка раіла Надзі: «Не спяшайся. Калі кахае, пачакае. Будзеце яшчэ разам усё жыццё. Толькі не паддайся яму, а то, як усе мужыкі, возьме ды пойдзе».

Надзейка з Пранцішкам і Катрынкаю часта сядалі разам на халодным камені на загуменні. Гутарылі. Пранцішак скручваў махорку, курыў. Збіраліся да вяселля. Катрынка, як вопытная жанчына, перасцерагала, раіла. Часам да поўначы зацягваліся размовы Катрынкі з маладымі.

Пранцішак проста насіў жонку на руках. Мінула некалькі гадоў, нарадзіліся дзеці, а яны — як раней, хадзілі пад ручку ці то на луг, ці то ў поле...

Здарылася гэта, калі старэйшаму сыну споўнілася тры гады. Пранцішак страшна пабіў Надзейку. Пасля гэтага паўтаралася часта. Крычаў, што ўсе трое дзяцей — не яго. Біў посуд і вокны, сек лаву, ганяў жонку з паленам. Рэха крыкаў і плачу Надзейкі і дзяцей адбівалася ад сцяны лесу, які акружаў іх хутар.

Надзейка развялася з Пранцішкам. Засталася на гаспадарцы з малымі дзецьмі, хворай мацераю, глухім дзедам і бязногім бацькам... Памерла ў 1978 годзе, пры сенаванні...

Я наведаў хворую Катрынку. Заўсёды называў яе «бабай», як усе навакольныя дзеці называюць старэйшых жанчын. Колькі памятаю, яна заўсёды была маленькая, старэнькая, сухенькая бабулька з сарамлівай усмешкаю і добрымі вачыма.

Вясна. За вокнамі высокае сонца. Я завешваю занавескі, каб не свяціла ў вочы бабы Катрынкі. Даю ёй шклянку з кампотам.

— Ай, Лукашыку, як добра, што ты зайшоў, паміраць збіраюся, а тут нікога няма, нават Мурка выйшла. Паміраю, цяжка паміраць, хоць нажылася ўдосталь. І радасці, і гора...— Бабуля цяжка глытае напітак.— Лукашыку, а камень яшчэ відзён? Не ўлез пад зямлю? Думала, што перад смерцю... пасяджу на ім, паспавядаюся, а то... цяжка паміраць...

— Можа, я збегаю па бацюшку?..

— Што ж чалавек можа зрабіць для чалавека, калі грэх цяжкі, як камень, на сэрцы ляжыць!

Бабка адкрыла вочы. Раней мутныя, цяпер глядзелі на мяне прытомна і пранікнёна.

— Скажу табе. Хай Бог мне прабачыць... за тое, што Надзейцы лёс зніштожыла... Завязала канапляны вузел... у дзень шлюбу ў царкве... Разрэзала нажніцамі... гартаванымі... у свянцонай вадзе над каменем, спаліла і рассыпала на ўвесь свет... І так яе долечка рассыпалася. Прабач мне, Надзейка... за тое, што шчасця табе пашкадавала... Што Пранцішка на камень вадзіла і арнікай паіла... Так ён мне да сэрца прыпаў, прыліп... І свет не той стаў, і сонца не тое... Пранцішку!..

Катрынка схапіла маю руку, пацягнула да сябе. Сухая, жылістая, ушчаперылася ў мае пальцы.

— Пранцішачку, буду цябе чакаць на тым свеце... Надзейка ў небе, а мы разам... Згарым разам... Як нам разам добра будзе...

Я вырваў руку з халадзеючай Катрынчынай рукі, кінуўся ў дзверы, мала не вырваўшы іх з вушака.

...Гавораць, бабка Катрынка ўжо без памяці ляжыць.

А камень халодны, амшэлы з паўночнага боку, амаль схаваны ўжо ў жывую зямлю... Колькі ўсяго ён памятае? Але не скажа... На тое ён і камень.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

**Андрэй СЦЕПАНЮК**



за тых хто ходзіць
па крывых шляхах
недасяжнага акіяна

тых каго вецер змятае
кожнай часткай свайго
палымянага гневу

тых каму трэба глядзець
у чэрнь восеньскай ночы
каб убачыць

тых каму змяя слоў
абвівае і зашморгвае
таўставатую шыю

тых верных і няверных
каму кожная чыстая рука
ад бога міласцівага

тых зялёных і чырвоных
каму лініі значаць колы
а колы значаць лініі

тых каму боль валасоў
сніцца кожнай хвілінай
прыжмураных вачэй

за тых каго бачым
і не бачым

будзь гатовай
маліцца
маці Беларусь.

**Ян ЧЫКВІН**

## *Феномен дня*

Старэ дзень! Як чарнавік, гарыць
І спапяляецца ў труху феномен
дня.
А з попелу — якая нам карысць?

Старэ дзень, і з ім старэе
усё кругом:
Вада ў калодзежы, калодзеж
і чарпальнае вядро,
Сцяжына да вады і проста сцежка
ў дом.

Старэе бацькі галава,
старэе маці рот
І грудзі у дзяўчат, старэе кожны
агарод
І тое, што ямо і што прадзе
каўрот.

Старэе вуліца, суседзі,
зайздрасць і данос,
Міністры ўсе, усё бюракратычнае
багно,
Партрэты ідалаў жывых
і нежывых даўно.

Ідзэі пастарэлі і пастарэла радасць,
боль душы,
І пастарэла крыху пустата цішы,
І цалкам пастарэлі гімнаў клавішы.

Старэе дзень! Старэе сон,
старэе дух.
І свет аціх да музыкі
на шыбе мух.
Састарылася сонца і агонь
яго прытух...
Загнаны у дупло, у змроку,
як сава,
Лаўлю шчупальцамі антэн,
дзе праўда, дзе мана
І як з крышталінак жывых расце
жывы феномен дня.

## *Песнятвор*

Варушыцца крыштальная павець,
Развешана на гнуткіх сцёблах
хмелю.
Званочкамі жаўрук усё
намагаецца звінець
Свой гімн жыццю і роднаму
аселлю.

Ціліўкаюць ў гародах канаплянкі,
Хрушч у траве агонь зялёны
крэша,
Загоны пахнуць маківарай
п'янай,
Пярэвяслы святла дымяць,
як галавешкі.

Расце, расце цяпло раслін,
І прагна сокі п'е усё жывое —
Старэча дуб, і хлапчанё язмін,
І мокрыя лілей галоўкі над
вадою.

Зямелька, пухкі пыл,
бацькоўскі песнятвор,
Пакроплена слязьмі ад радасці,
ад плачу,
І я — твой марнатраўны сын.
Катораму
Дала ты раз адзін саму сябе
пачуць і ўбачыць.

## *Айкумена*

Жаночая ноч. Выбух жыцця.
Светлыня.
Голас гарыць. Настальгія.
Ціш гаваркая.
Маладымі далонямі свет можа
сябе абняць,
Высокае неба сінню вачэй сябе
сустракае.

Пераміг серабрын, сапфіры
імкнуць у чэрнь,
Смарагды раслін выносяць
вохравасць лета,
Пазалота палёў, аблямаваных
фіялетам,
І штосьці нябачнае рэкамі
дзён цячэ.
Нерэальна-рэальныя флёксы
і флёры быцця,
Дасяванне гадзін,
фаляванне жыцьва,
Палагоды навеў, сладкапення
жывога налівы
Зныне давеку — і ўсе нешчасліва
шчаслівы.

Кроў, права зямлі, б'ецца
сэрца самоты,
Сэнсы без сэнсу, ілюзій
агністых пячаць.
Паўшых анёлаў кароткахвілінныя
ўзлёты
Замкнёных у свеце нібыта
ў чэраве маці.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Абразкі

● Жнівень.
Пагодлівая раніца. У сонцы рабіна рдзіць цёмна-аранжавымі шышкамі церпкіх, аскомістых ягад. На ржышчы — росная, дробненькая канюшына. На ўзмежках палеткаў чарнеюць буйныя ягады ажыны, якую няма каму збіраць. Ад мэндляў — жытні пах. Мокры рамонак паспускаў пялёсткі абапал жоўтых лысін. Многа яго на поплаве. А на дарозе — адна пушыстая, апырсканая расой галоўка дзьмухаўца. Здымаў гэта, стоячы на каленях у роснай атаве.

● ...Прайшла навальніца. Толькі што страляла, ляскала. Неба злосна крэмсалі бліскавіцы. Але ж адпаўзлі на аглухлых басах грымоты і ўжо здаля толькі вуркочуць. Па страсе сплылі апошнія нацягнутыя ніткі дажджу.

Над зямлёю падковай выгнулася вясёлка. Высока над полем адазваўся жаўрук — пяюн нябеснай оперы. У прамоклым садзе салаўі зноў раскладваюць ноты. Сланечнік таксама адхіліў шапку.

А я так люблю, калі ля маіх акон зноў так прыемна, так ціха шумяць бярозы. Ды дзікім мёдам пахнуць палыны.

● Вясна зноў падарыла дрэвам адзенне. Зялёным полымем гараць лугі. Сонца сцеле лотаць ля ракі. У кустоўі свішча салавей, то зноў кукуе зязюля-вяшчунка. Ля дарогі ляціць матылёк светла-жоўтага колеру — крушынніца.

На ўзлессі зноўку зірнулі на свет пралескі ды ландышы. Пачынаюць квітнець сады. Паветра напоена пахам чаромхі і бэзу. Над духмянымі кветкамі гудуць працавітыя пчолы.

У сваё гняздо на старым дрэве вярнуліся даўганосыя буслы. На балоцістым лузе жаласна крычаць кнігаўкі. Усюды рух, гоман, спевы. Вясна, я цешуся твайму вяртанню.

## ВЕЧАРАМ НАД РАКОЮ

Сонца хавалася за лесам. Я сядзеў у цяньку ў кустоўі на беразе ціхай рэчкі і пільна сачыў за паплаўкамі. Раптам слых мой улавіў лёгкі пошум. На супрацьлеглым, светлым беразе паявілася аднекуль стройная дзяўчына. На хвіліну яна прыпынілася, сцягнула з сябе вузкія джынсы, блузку, адшпіліла і кінула на кусцік ракіты бюстгальтар.

Трапяткое, сарамліва-радаснае пачуццё ахінула мяне. Не адрываючы вачэй, міжвольна глядзеў я на яе пухла-прывабны стан, на каптурыкі грудзей.

Зусім як маці нарадзіла яна ўвайшла ў ваду, гнутка стулілася — і, скалыхнуўшы ваду, паплыла, падставіўшы грудзі пяшчотам бадзёрых і свежых хваль. Перад ёю ўзнімаўся і трымцеў вясёлкаю веер пырскаў. А калі нырнула і на момант знікла пад вадою, я здрануцвеў. Вынырнула, аднак, хутка, борзда выскачыла на пясок ды спакойна і здаволена пачала выцірацца.

Я не кранаўся з месца — знямелы, узрушаны яе маладой прыгажосцю. А дзяўчына як скора з'явілася, так скора і знікла. Нібы расплылася ў зіхотным сонцы.

Рыба не клявала.

## ГАЛЯ

Набліжалася першая, вясновая навальніца. Сны здаравелі, вызваляючыся з-пад зімовых пярын. Вёска ляніва пацягвалася пасля першага раскату грому.

Пасля навальніцы дзяўчаты адкрывалі насцеж вокны. Шчабяталі ў іх герані. З радыёпрыёмнікаў лілася песня пра надыходзячае лета.

Да Галі Налівайкі прыехаў на шведскай аўтамашыне Міхась з Ахрымаў. «Еўрапейскі стыль»,— раскошна цмокалі дзяўчаты. Потым, пры незаслоненых вокнах, пілі каляровую гарэлку. Галя пасвяточнаму смяялася, дзёўбаючы яечню са скваркамі. Яна закахана глядзела на Міхася. Звонкая мілагучная музыка шалела на ўсю вёску.

Міхась паехаў да другой.

З таго часу Галя вечарамі хадзіла на луг зрываць лотаць. А калі лотаць перацвіла, Галя выехала ў горад.

— Вельмі ж яна мусіць быць важная,— гаварылі.— Зараз пахаджвае сабе па пероне, ажно бляск ідзе ад яе, такая фарсунка.

І зноў была вясна і цвіла лотаць.

## ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

Светлы, аснежаны лес. Магутныя дубы і меднаствольня сосны, абсыпаныя снегам, стаяць нерухома ў мёртвым сне. Не варухнецца ні адна галінка, быццам усё застыла навек... А вось як зрасліся кашлатая елка з бярозкаю, і елка, як рукою, абняла суседку... Аберагае... Маленькія елкі, знясіленыя пад цяжарам снегу, прыгнуліся.

А ў бары за гарой стук сякер і шоргат піл. Карычнева-сівая сасна пахіснулася. Дрывасекі ўпіраюцца сякерамі ў камель, як толькі можна дастаць над сабою, і яна плыве верхавінай уніз. Цярэбячы голле ўсяму, што трапляецца ёй на дарозе, магутная прыгажуня са стогнам падае ў снег. На ране буйныя, як слёзы, празрыстыя кроплі жывіцы...

Далей, на палянцы, воўчы след. Шэры прайшоў над абрывам і, выбраўшы месца, спусціўся ў яр, грузнучы ў глыбокім, без цвёрдай скарынкі снезе.

Пад вечар неба пацямнела. Зноў пачаў церушыць снег і марак не гусцеў, а калыхаўся дрыготкаю стракатаю сеткаю. Ціха шумелі верхавіны сосен, і, здавалася, выразна чуўся мяккі шолах снегападу.

## СТАРАЯ ХАТА

Вокны слеплі з кожным днём, забітыя дошкамі накрыж, блізарукія, з дрыжачымі шыбамі. Званілі журботна ўночы. Буян-вецер скручваўся ў жмут, дакочваўся стралой да крайняй хаты, узбягаў па панурай шэрай сцяне і кідаўся на яе старую віхрастую галаву. Яна баранілася саламяным крыкам, і такі ж крык узнімалі суседнія стрэхі.

Аднойчы спакой пачаў
мярцвець ад страху.
Пасля прыйшлі хуліганы
і павыбівалі шыбы.
І вецер завыў, заскуголіў
у цёмным куце.

Мікалай ГАЙДУК

# НЕКТАРЫЙ

*Пабудова Благавешчанскага храма ў Супраслі была закончана ў 1510 годзе, у 1557 годзе яго аздобілі фрэскавым роспісам вандроўныя мастакі на чале з «сербином Нектарием малером»*

*(Паводле «Хронікі Супрасльскай лаўры».)*

Вочы святых глядзяць з дакорам і ласкава, асуджаюць і заклікаюць, з усеабдымнай мудрасцю дзівуюцца чалавечым благім учынкам, патрабуюць пакаяння і абяцаюць адпушчэнне грахоў. А ў іхняй бяздоннай глыбіні тоіцца тая бязмежная слодыч вечнасці, пра якую ў самым патайным куточку кожнай душы хаваецца трапяткая надзея, спадзяванне кволенькае, але такое прывабнае, захапляючае, святое.

— І нездарма далі яму імя Нектарый, значыць: салодкі, прыемны,— ціха шэпча архімандрыт Сергій і, сочачы за далікатным рухам пэндзліка ў руцэ мастака-манаха, звяртаецца яшчэ цішэй да свайго суседа, ваяводы віцебскага, уладальніка маёмасцей гарадоцкіх і заблудаўскіх Рыгора Хадкевіча, які таксама не адрывае зроку ад працы мастака якраз пры выяве зрэнкі серафіма: — Ваша вялікасць, мы — манахі убогія, такім харством спакушаныя, заказалі ў гэтага ж Нектарыя і яго людзей падпіску ўсяго храма, а золата ў нашай каліце небагата...

Ваявода зірнуў на добрапрыстойны твар архімандрыта Сергія Кімбара, які ўжо вось чвэрць стагоддзя ўзначальвае Супрасльскі манастыр, і дабратліва ўсміхнуўся:

— Ойча шаноўны, наколькі мне вядома, то ваша каліта не такая ўжо бедная. Але на такую справу і я не паскуплюся. Гэта ж тут ў падзямеллі прах майго бацькі спачывае...

Унутры царквы, паўз усе сцены амаль аж пад самы купал, высіліся рыштаванні. Побач з Нектарыем, на верхнім паверсе, працавала некалькі мастакоў. Яны, быццам нейкія аграмадныя птахі, застылі пры сценах і адно час ад часу рыўкамі адхіляліся назад, з розных бакоў пільна ўзіраліся на толькі што пакладзены іхнім пэндзлікам каляровы мазок фарбы, параўноўвалі з ранейшым малюнкам, абмаквалі пэндзлік і зноў заміралі ў нерухомасці. Спяшаліся, бо дзень ішоў на спад, а неабходна было замацаваць увесь той кавалак свежай тынкоўкі, які сённяшняй раніцай паклалі на сцяну. Нельга было пакінуць незамаляваным нават драбнюсенькі шматок, таму што гэтага прабелу ўжо ніяк не запоўніш і не паправіш. Чаму? Бо змешаная з сечаным канапляным валакном тынкоўка высахне — і справа назаўсёды закончана. Вось чаму мастакі і на момант не адрываліся ад свайго занятку, толькі мяльком зірнулі на ваяводу і архімандрыта, схіліліся ў паклонах ды зноў аддаліся свайму малюнку.

Гатовыя былі толькі падкупальная скуф'я і прамежка паміж купалам і светлавым барабанам. Ваявода доўга не мог адарваць вачэй ад абраза Хрыста Уседзяржцеля, які пазіраў з падкупальнай блакітнай вышыні на зямную мітуслівую мізэрнасць з непарушаным спакоем усёвідушчай і ўсёведнай вечнасці. Адбіты ад шыбін, заблуканы сонечны праменьчык далікатна крануў фрэску, і твар Пантакратара яшчэ болей пасуравеў, а бяздонная тонь цёмных вачэй паглыбілася.

Змрок у царкве гусцеў і звольна затапляў стралістыя залучыны скляпення. Мастакі ўжо збіралі гладышы з фарбамі і сыходзілі з рыштавання. Ваявода з архімандрытам выйшлі на царкоўны цвінтар.

Чырвонае кола майскага сонца кацілася за вершаліны лесу, а з даліны ракі Супраслі падымалася лёгкая плёнка туману. Навакольле стогалосіла птушынымі спевамі.

Хоць у Заблудаў — радавое гняздо ваяводы Хадкевіча — усяго васемнаццаць вёрст і коні былі б там позням вечарам, ён астаўся на начлег у манастыры. Ваяводаў повар, які ніколі не разлучаўся са сваім панам, пакорпаўшыся ў прывезеным на адмысловай правіянцкай калымажцы, што зараз жа падаспела з Заблудава, ды заглянуўшы з манастырскім сваім калегам у тутэйшыя кладоўкі, у брацкай трапезнай канчалі застаўляць урачысты стол.

Што ж, ваяводу з-за немалых дзяржаўных абавязкаў рэдка калі ўдавалася вылучыць некалькі дзён, каб пабыць у сваіх уладаннях на Падляшшы. Неабходнасць пільнай аховы ўсходніх рубяжоў Вялікага княства Літоўскага патрабавала яго прысутнасці на адлеглай Віцебшчыне. І гэтай вясной 1557 года там таксама было неспакойна. Малады і энергічны маскоўскі цар Іван настойліва намагаўся падпарадкаваць доступ да Балтыйскага мора ды праход у Еўропу. Інфлянты знайшлі падтрымку ў Вялікім княстве Літоўскім і вопытных ў дыпламатыі ды ваеннай справе ваявода прадчуваў надыход зацяжнога змагання. Вяртаючыся з некалькі дзённага побыту на дварэ караля Зыгмунта ў Кнышыне, ён пакарыстаўся зручнай нагодай пагасцяваць пару дзён на Бацькаўшчыне, уладкаваць розныя залеглыя справы ды перапачыць.

У трапезніцу праз насцеж расчыненыя абедзве створкі дзвярэй увайшлі ваявода і архімандрыт. За імі ўсыпалася грамадка мастакоў. Нектарыю — гадоў пад сорак, расламу, з чорнай, бы смоль, кучаравай барадкай мужчыну — архімандрыт кіўнуў і паказаў месца побач з сабой.

— Будзь, брат Нектарый, пры нас,— маўляў яму і дрыготкім старэчым голасам пачаў перадабедзенную малітву «Очи всех...»

Мастакі, крадком пазіраючы на стол, што гнуўся ад усялякага дабра, дружна і на вясёлай, а нават свавольнай ноце, грымнулі здаравеннымі галасамі здаўна вядомы напеў.

Потым ваявода запрашальным жэстам даўгапальцай далоні, бліснуўшы пры тым залатым персценем-пячаткай, заахвоціў усіх частавацца. Хоць ужо прамінула некалькі тыдняў пасля велікодных святаў, але айцец Сергій палічыў, што яго асобе найлепш пасуе пачаць пачастунак рыбай, і паказаў прыслужніку на паўмісак з фаршыраваным язем. Нектарый жа, цішком падкасаўшы шырокія рукавы манаскай рызы ды прыгладзіўшы ваўністую бараду, сам сабе выбраў мажны кус сакавітай вэнджанай ласяціны і не прамінуў з ёмістай чары пацягнуць старога сычанага мёду. Архімандрыт паглядаў на чаркі з абурэннем і трывогай, але ж не яго тут было слова першае: застолле даваў сам апякун манастыра. За прыкладам свайго галавы адразу пайшла ўся мастацкая брацця, і трапезніца ўмомант запоўнілася смакавітым хрумстам ды звонам начыння.

Ваявода загадаў падаць сабе кавалак кáчара з грыбной начынкай, але займаўся ім толькі для віду, каб не бянтэжыць застолле. Калі ж заўважыў, што архімандрыт перакусіў і таксама з зацікаўленнем пагладае на мастакоў, шапнуў яму, каб расказаў, што ведае пра іх.

— Нямнога, ваша вялікасць, нават цалкам мала,— шэптам апраўдваўся айцец Сергій.— Не любяць яны гаварыць пра сябе, абы-чым адпіраюцца, мовячы: «Пра нас усё расказваюць нашыя пэндзлі».

— Дасціпна і праўдзіва,— заўважыў ваявода.

— Вядома ж, гэта людзі божыя, вольныя, бы тыя птахі нябесныя, вечныя вандроўнікі. Вось адно толькі тыя два, што пры самым канцы стала сядзяць, тутэйшыя: бяляўенькі прыйшоў з Троіцкага манастыра, што ў Дарагічыне, а побач з ім — русавалосы гарадзенец з Барысаглебскай абіцелі. Адпрасіліся яны на адпускныя граматы ад сваіх ігуменаў, каб любым сэрцу маляваннем, як самі кажуць, заняцца ды і грош які ў свой манастыр прыдбаць, бо ж убоства ў іх там і ў Гародні і ў Дарагічыне неймавернае. Няма ў іх дабрадзецельных кцітараў, не тое, што ў нас, ваша высокасць.

— Ну-ну, ойча, даволі: гэтую тваю песеньку я ўсё жыццё слухаю,— дабратліва паўстрымаў яго ваявода і заўважыў: — Майстры, як відаць, перакусілі ўжо...

Пасля гасціны ў трапезніцы ваявода запрасіў айца Сергія і брата Нектарыя ў сваю келлю на размову.

Пяціфунтовая васковая свечка кідала палахлівыя блікі на сцены келлі і яе простую мэблю. За вузенькім акенцам час да часу адзывалася трашчотка начнога старожа ды ў лазняках над Супраслю вухкала начная птушка — бухала.

Нектарый, блытаючы сербскія, старaславянскія ды грэчаскія словы, расказаў, што ў іхняй Сербіі няма жыцця. Бязбожныя туркі-сарацыны за сто гадоў свайго панавання высмакталі з сербаў усе жыццёвыя сокі. За кожную дробязь або голаў на калодку кладзі, або ў ясыр на вечную няволю ў путах пагоняць. Да малявання ў яго змалку схільнасць была. Ён паходзіць з горада Нагарычына. Бацька мулярам быў. Перад тым, як яго турк пагналі ў далёкі Сіноп цвердзі будаваць, ён хаты людзям у Нагарычыне клеціў. І сына з сабою браў, каб хлапец раместву прывучаўся. Маці рана памерла, ён нават і не памятае яе. А калі забралі бацьку, дык ён цалкам круглым сіратою застаўся. Прыгалубіў яго царкоўны староста, а святар, заўважыўшы ягоную здольнасць да малявання, прыставіў да маляроў, што аднойчы з'явіліся, каб фрэскі ў царкве паднавіць. Царкоўка даўнішняя была, казалі, што ёй сама меней чвэрць тысячагоддзя, яшчэ да цара Мілюціна была пабудавана. Цудоўныя ў ёй фрэскі. Асабліва постаць Юрыя, заступніка царквы.

— Святога Юрыя,— з дакорам у голасе папраўляе Нектарыя айцец Сергій.

Над асвяжэннем фрэскі святога Юрыя яны працавалі амаль месяц. А калі ўсе фрэскі ды іконы па-ранейшаму заззялі сваім харaством, у царкву з'явіўся мясцовы турэцкі ўраднік-бей. Хадзіў па царкве, узіраўся ды цмокаў тоўстымі губкамі. А потым сказаў, што яго новы гарэм мае гладкія сцены, але ж голыя. Ягоныя маладзенькія сербскія наложніцы вельмі любяць рэчы прыгожыя. Пры тым перапытаў, ці мастакі яго мову належна зразумелі. У тую ж ноч святар і староста ткнулі ім у рукі па некалькі манет і па торбачцы з сякімі-такімі харчамі ды параілі, каб яны не губілі душ сваіх хрысціянскіх ды не служылі талентамі сваімі гэтаму паганаму распусніку. Раілі зараз жа бегчы на святую гару Афон і там толькі шукаць сабе паратунку.

Свечка ліла свае духмяныя слёзы, а праз акенца ў келлю заглядаў месяц-маладзік.

Нектарыю здалося, што тут, у Супраслі, пануе цяпер такая самая цішыня, як у Хіліндарскім манастыры на Афоне пасля брацкай вячэры. У такія ночы Нектарый любіў ўскараскацца на хрыбет узвышша, што цягнецца самай сярэдзінай Афонскага паўвострава, і глядзець на Эгейскае мора. У халодным бляску месяца марская хваля прагна накідвалася на прыбярэжныя скалы, быццам намагалася скрышыць іх ды праглынуць. І Нектарыя апаноўваў жах. «Што ж ты значыш, кволенькая лапінка хрысціянства, у гэтым моры магаметанская засілля?! — звяртаўся ён да Афонскай манаскай рэспублікі.— Цябе ўсяго пяцьдзесят вёрст удаўжкі і паўвярсты ўшыркі. Царпіць цябе крыважэрны султан толькі да таго часу, пакуль не апусцелі ад золата патайныя кладоўкі манастыроў і ты штогод адпраўляеш у Істанбул непасільную даніну, якой адкупляешся ад непазбежнай пагібелі. А што ж будзе з табой, калі не стане ў кладоўках золата? Ці ўратуешся?» Пра тое яму проста страх было і думаць. Ён спускаўся ў сваю келлю і, растрывожаны цяжкімі думкамі, аж да світання ніяк не мог заснуць.

Пасля заканчэння работ у сербскім Хіліндарскім манастыры іхняя трохасабовая грамадка рассыпалася. Адзін не стрываў бадзяння па чужыне і падаўся назад у родную Сербію. Другі далучыўся да нейкіх гандляроў і паплыў шукаць шчасця ў Італію. А Нектарыю ўдалося ўпрасіць ігумена рускага Панцеляймонаўскага манастыра, каб дазволіў яму абнавіць некалькі ікон. Працаваў не спяшаючыся, свядома цягнуў работу як найдаўжэй, каб мець дах над галавою ды лыжку поснай стравы. Выцацкаў, выпеставаў на патрэсканых і счарнелых іконах кожную драбніцу так, што наўрад ці яны выглядалі лепш тады, калі былі створаны. Але ўсё ж настаў час заканчэння працы. Пры расплаце ігумен сказаў яму: «Вялікі дар маеш, браце Нектарый, багаты дар — талент. А вось у далё-

кім Вялікім княстве Літоўскім у нашай праваслаўнай Супрасльскай абіцелі новы храм Благавешчання ўжо колькі гадоў стаіць не аздоблены, няма каму яго падпісаць. Можа, наважышся?»

— Думаў я доўга,— прыгадвае мастак,— можа, тыдні са тры. Потым змовіўся з двума такімі ж, як і я, уцекачамі з Сербіі ды разам рашыліся.

Прабірацца ў невядомы Супрасль даводзілася ім акружнымі дарогамі, абмінаючы султанскую імперыю. Спачатку плылі марамі Эгейскім, Крыцкім, Адрыятычным, усім, чым толькі ўдалося: і гандлёвымі вялікімі суднамі і кантрабанднымі чаўнамі. Затым блукалі па Венгрыі, Польшчы, Вялікім княстве Літоўскім. На жыццё зараблялі маляваннем: ікон — для храмаў, партрэтаў — для ўладальнікаў шляхецкіх двароў. Да іх далучаліся, адны на некалькі дзён, другія назаўсёды, такія ж, як і яны, апантаныя прагай ствараць.

За працай ды штодзённымі турботамі ні Нектарыева арцель, ні архімандрыт Сергій не заўважылі, як праімнула вясна, лета і наблізіўся зазімак. Ужо ў манастырскім агародзе пачарнела ды высахла даўно пабітая прымаразкамі гонкая крапіва, а брація, закончыўшы працы ў агародзе, бралася за нарыхтоўку і звозку дрэва на супрасльскую біндзюгу, каб вясною сплавіць яго ў Гданьск.

У адзін са звонкіх ад прымаразку снежаньскіх ранкаў мастацкая арцель, уся ўвешаная клункамі ды торбамі, загаманіла ля разьблёных дзвярэй архімандрыцкага палаца. Айцец Сергій выйшаў са свае спачывальні пазяхаючы і з падпухлымі ад сну і старэчых хвароб вачыма. Нектарый ад усяе грамады падзякаваў яму за хлеб-соль, добрае сэрца і нескупую руку.

— Шчаслівай дарогі вам, брацця,— узрушаным голасам азваўся архімандрыт.— Як трапіце на Афон, кланяйцеся ад нашай лаўры Супрасльскай усім тамашнім месцам знатным.

А калі за манастырскай брамай заглухла гамонка адыходзячых, айцец Сергій падышоў да дзвярэй Благавешчанскай царквы, шырока расчыніў іх і соты мо раз замёр, любуючыся творам Нектарыя і яго арцелі.

Вочы святых глядзелі з дакорам і ласкава, асуджалі і заклікалі, з усеабдымнай мудрасцю дзівавалiся чалавечым благім учынкам, патрабавалі пакаяння і абяцалі адпушчэнне грахоў. І камандзір спецыяльнага атрада знішчэння не падымаў на іх свайго зроку, гыркнуў падначаленым выканаць заданне, а сам, схіліўшыся, спусціўся да рэчкі і знік за дрэвамі. Яго падначаленыя, з-пад ілба глянуўшы на фрэскі, страпянуліся, на момант знерухомелі, а потым звалілі свае ношы пасярэдзіне храма, якраз пад абразом Хрыста Уседзяржыцеля. Выскачылі на царкоўны цвінтар, размотваючы за сабою дэтанацыйны шнур, падпалілі яго ды пабеглі следам за сваім камандзірам. Пагодную ліпнёвую раніцу 1944 года разарваў скрыгатлівы выбух і асляпіла шэра-чорная хмара.

Так. Нектарый — значыць: салодкі, прыемны. У выяўленай яго пэндзлем бяздоннай глыбіні вачэй таілася тая бязмежная слодыч вечнасці, пра якую ў самым патайным куточку кожнай душы хаваецца трапяткая надзея, спадзяванне кволенькае, але такое прывабнае, захапляючае, святое.

# ПАЭЗІЯ

## Юрка ЗУБРЫЦКІ

### Прызямленне

Сняцца мне сны трывожныя.
Іду
  па зямлі,
    бы па пожні я.
Не зямля пячэ —
    думкі колюцца,
Нервы
  токам гудуць
    полюсным.
Над зямлёю кружу зморaны,
У голубаператвораны.
Рукі
  з галубінымі знакамі,
Па руках — снарады
    гакаюць.
Знаю,
  пакутніцкай пожняю
Высланы
  шлях пераможаных —
На сваю не лічы
    праўду.
У вечную
  пру
    немату.
Скручаны,
  камяком падаю,
Уваходжу ў апошнюю стадыю.
Калыска мая разгойдана,
Зямля,
  не хвашчы кордамі.
Слухае.
Прачынаюся.
На свет белы ўглядаюся.
А ён
  — у колераў оргіі —
Гарэзліва
  да мяне моргае.

### Як я выратаваў месяц

Лета. Вечар. Белавежа.
Рака Нараўка сапрэла.
Пахавала ў белым лежыве
Прамяністага арэла.
Гайда ў лес!
    Вось там дык водар!
Хоць упіся небам сінім.
Толькі месяц — начны лодар —
Павесіўся на асіне.
Ай, лысунчык,
    вычвараеш.
А не па гадах, нібыта.
Над табою, хоць старая,
Ды надзейная арбіта.
Дай, страсу цябе
    і годзе —
Лыпай ўтоптаным маршрутам
І нябесных пешаходаў
Не трывож зямной пакутай.
Адарваўся ад сука ён
І,
  зляжыўшы ў трубку вусны,
Да мяне згары гукае:
— Які ты
    велікадушны!

### На возеры Памора

Шуміць і возера і бор.
Ў чароце прытаіўся вечар.
А мне здаецца, што наўкол
Ятвягі клічуць нас на веча.

Продкі з жальбою ў вачах,
Крутыя нас лучылі сцежкі.
Памора шум — вякоў працяг —
З'яднаны з гудам Белавежы.

Ля вашых выгаслых кастроў
Не племянныя тлеюць звады,
Гаючы возера прастор
Палае мірным далягядам.

Зямля ад тупату дрыжыць
Ватагі юнай, гаманлівай.
У ім пачуў я гул дружын,
Што з конскаю зрасліся
    грывай.

## Зося САЧКО

### Псалом бацьку

убегла я ў бацьку
цераз райскія вароты
саламянай страхі
проста на ток у гумны

дрыжачае пасма
сівагатага сонца
прысела на кукішкі
на запэцканым
мухамі вобразе

калісьці бацька
карміў яго
лепшым сене.

убачыўшы мяне ў сабе
палажыў мне
на шчокі
залаты сон яблыка
і ў калясцы з ракіты
зашчабяталі птушкі
а потым авёс
расшаптаўся
і было залаціста

а над галавой
кучаравыя баранчыкі
няслі ў зяпе
крылы анёлаў.

## Віктар ШВЕД

### Мая маленькая айчына

Мая маленькая айчына,
Мой беластоцкі родны край,
Тут басанож стаптаў сцяжыны,
Што праляглі праз поле, гай.

Цаніць тут навучыўся працу,
Гамонку шчырую, народ.
І не магу цябе я страціць,
Ты — даражэйшая штогод.

Далёка ад цябе — сумую.
Убачу — дык шчаслівы зноў.
У сэрцы заўсягды нашу я
Крыніцу мар маіх і сноў.

Мая маленькая айчына,
Я твой адданы верны сын.
Цябе ніколі не пакіну,
Мая калыска, мой спачын.

### У роднай вёсцы

Вось я ізноў у вёсцы Мора —
І цешыцца надзвычай сэрца!
У старой студні доўгі жораў
Поіць бляшанае вядзерца.

Крадуся, п'ю ваду са смакам,—
Я ж тут бываю толькі госцем.
Можа, пільнуе тут сабака
Слядоў мінулай маладосці?

Здаецца, усё тут не інакш,
Як і раней было,— такое ж.
Слядоў сваіх, аднак, не бачу,—
Пазарасталі ўжо травою.

### У клетцы з бетону

У хатах з бярвенняў
Лясных, смаляных
Жылі пакаленні
Ў стагоддзях былых.

А ў век наш дваццаты
Спяшаемся мы
З драўляных хаты
Ў гіганты-дамы.

І птушка з балкона
Глядзіць, як на здзек:
У клетцы з бетону
Жыве чалавек.

## Надзея АРТЫМОВІЧ

твой цень твой тон твая
    адсутнасць
гэта боль як прысніўшыся дом
твой затуманены позірк
уваўшоў у мой нявінны верш
малюся.

у белым бельскім нацюрморце
я праплыла хвіліну
    рэчаіснасці
блакітную хвіліну
дарога да сябе

словы мае славамі
след думак дым
доўгі дым

жыву ў слядах думак
загледжаная ў заіржавелае неба
кругі
калекцыя кругоў жывых хвілін
блакітнае маўчанне
першае маўчанне

слухаю нямую птушку
    ў бельскай цішыні
нямую птушку добрай цішыні
і яна ніколі не забывае мяне

птушка верыць Сонцу
птушка верыць маім словам
блакітны дым

рысунак з дзяцінства лагодны
    свет
зялёная балада невыразны спеў
далікатнасць рысунка

бельскі белы нацюрморт

### Ікона

ікона
лістападаўскі снег
блакітны ранак

сон аднакрылы і лёгкі
у блакітным люстры

стаю
хвіліна прыгажосці
акіян харастава
хвіліна

веру ў вечнае хараство
веру ў адно нявыказанае слова
веру ў белае маўчанне

вечар у Бельску — камень
    і крыж
вечар у Бельску — блакітны
    туман

Бельск — ікона малітва сон
    жыццё

ЗЕМЛЯКІ НА РОЗНЫХ ШЫРОТАХ

# БАТРАК ГЕРМАН КІРУЕ... КАМП'ЮТЭРАМ

Неяк патэлефанавалі з былога Дзяржаграпрома: хочаш папрацаваць у нямецкага фермера — афармляй дакументы, плануецца паціместная спецкамандзіроўка ў Германію. Як пасля высветлілася, хтосьці з начальства ў апошні момант адмовіўся ад паездкі, таму і «выйшлі» на мяне.

Месяц мы вывучалі нямецкую мову, слухалі лекцыі пра эканоміку Германіі. Мову, зразумела, за такі кароткі тэрмін больш менш асвоіць было нельга. Дзелавы дыялог даваўся нялёгка, таму 10 чалавек з нашай групы не вытрымалі нагрузак і ні з чым вярнуліся ў Саюз.

Аднак гэта, як кажуць, да слова. Працаваў я ў фермера Йозэфа Віхмана. Ён жыве ў Вестфаліі, у вёсцы Штэверс. У яго з жонкаю Марыяй трое сыноў, старэйшаму — дзесяць гадоў. Дык вось, Віхманы маюць 117 гектараў зямлі, 60 з іх арэндуюць. Спецыялізуюцца на вытворчасці свініны, даглядаюць 2 тысячы жывёлін. У год сям'я рэалізуе 600—650 тон першакласнай прадукцыі. Адразу адзначу, што ўсе кармы, за выключэннем невялікай колькасці канцэнтратаў, вырошчваюцца на сваёй зямлі.

У мяне часта пытаюцца: ці трымаюць Віхманы батракоў? Так, у іх ёсць наёмны рабочы Герман. Ён даглядае тысячу галоў, а другую тысячу — сам гаспадар. Наогул, мне напачатку цяжка было адрозніць, дзе гаспадар, а дзе, па нашаму кажучы, батрак. Адносіны паміж імі таварыскія, дзелавыя. Йозэф за 300 марак здае Герману дом, плаціць 1800—1900 марак у месяц. Зноў жа за кошт гаспадара сняданак, полудзень, а калі работы бывае шмат, то і вячэра.

Скажаце, ну і ўкалваць жа даводзіцца беднаму Герману, гэта ж не жартачкі — дагледзець тысячу свіней. Не, на пуп браць не трэба, працэс кармлення займае 20 хвілін. Асноўныя цяжкасці кладуцца на камп'ютэры, шматлікія механізмы. Кожны раз я сустракаў Германа ў белым халаце, у якія нашы жывёлаводы апранаюцца толькі ў час візітаў да іх высокіх начальнікаў і сталічных журналістаў.

Упершыню ў жыцці я сустрэўся з такой высокай культурай сельскагаспадарчай вытворчасці, адпрацаванай да аўтаматызму сістэмай паставак і сервісу — з аднаго боку і карпатлівай працай, строгай дысцыплінай — з другога. Там нікому з пастаўшчыкоў прадукцыі і ў галаву не прыходзіць, каб, скажам, абхітрыць заказчыка, спіхнуць яму недабраякаснае малако ці мяса. Падман абавязкова будзе выкрыты, і такога пастаўшчыка чакае вялікі штраф, а то і банкруцтва. У краіне існуе эфектыўная сістэма кантрактаў, і яна гарантуе збыт колькасці прадукцыі, якая абгаворана дагаворам. А з'яўляецца звышпланавая прадукцыя — не бяда, на дапамогу прыйдуць пасрэдніцкія фірмы і хутка знойдуць вам кліента.

У Германіі не вядомы нашы вечныя праблемы з затрымкай жывёлы на мясакамбінаце, а малака — на ферме. А колькі сродкаў трацяць з-за гэтага калгасы і саўгасы, колькі прадуктаў харчавання недаатрымлівае пакупнік!

Для кожнага савецкага гаспадарніка пачаць будаўніцтва, скажам, новай фермы ці жылога дома — праблема з праблем, справа многіх гадоў. Галаву зломіш, пакуль дамовішся з праектантамі, знойдзеш падрадчыка. Не кажучы ўжо аб будматэрыялах. Таму я зайздросціў нямецкім калегам, якім не трэбаператварацца ў «даставалаў» і «выбівалаў»: у кожным раёне існуе нешта накшталт штаба высакакласных дарадчыкаў па аграпрамысловых пытаннях. Вам патрэбна кансультацыя — патэлефануйце, і ў строга прызначаны час прыедуць спецыялісты і параяць, да каго звярнуцца, з кім найлепш заключыць дагавор, дзе з выгадай набыць цэглу ці драўніну. Не трэба нікога прасіць, угаворваць, частаваць, раскашэльвацца на пікнікі, як часта робім мы.

І яшчэ некалькі параўнанняў. Многія народныя дэпутаты БССР, як вядома, і слухаць не хочуць аб прыватнай уласнасці, маўляў, так і да капіталізму недалёка. У Германіі ж цесна пераплятаюцца ўсе формы ўласнасці: дзяржаўная, кааператыўная, прыватная. І нічога: краіна — адна з самых эканамічна моцных у свеце. Навошта спрачацца, калі ўсё, што трэба,— гэта даць чалавеку магчымасць адчуць сябе гаспадаром?! За дзесяцігоддзі панавання каманднa-адміністрацыйнай сістэмы мы сапраўды ператварылі чалавека ў «вінцік». Якую толькі трасцу не выдумлялі, каб адабраць у яго гарбом зароблену капейчыну. І стаж работы ўлічвалі, і кваліфікацыю, і нормы выпрацоўкі, і вынікі сацыялістычнага спаборніцтва, і маральнае аблічча... Карацей, гулялі ў дэмагогію. За мяжою ж — аплата працы пагадзінная, ад прыбытку фірмы ці фермы.

Там, у Германіі, ёсць чаму павучыцца. І я не шкадую аб часе, праведзеным у фермера Віхмана. Будзь на тое мая воля — усіх бы нашых кіраўнікоў «пракруціў» менавіта праз такі метад навучання, бо вопыт «батрака Германа» больш карысны, чым айчынныя курсы, семінары, інстытут удасканальвання невядома чаго...

**Уладзімір РЫМША,**
**старшыня аграфірмы-калгаса «Беларусь» Івацэвіцкага раёна.**

# «ПРАВА «ХАДЗІЦЬ» ПА ДАРОГАХ ЕЎРОПЫ НЕ ЎСІМ МАШЫНАМ ДАЕЦЦА, «МАЗы» ГЭТА ПРАВА ЗАЙМЕЛІ...»

Першыя «МАЗы» мы выпусцілі ў 1947 годзе. Апошні з тых, старых, стаіць на пастаменце. І калі пастаміць побач новы, то не скажаш, што яны родзічы — не падобныя ніколечкі. За межы краіны прадаваць сталі яшчэ тыя, першыя. Паступова, «заваёўваючы» новыя і новыя краіны, нашы «МАЗы» «пакідалі след» на планеце.

Раней сваю тэхніку мы прадавалі фірме «Аўтаэкспарт», якая знаходзіцца ў Міністэрстве гандлю СССР, а там ужо шукалі пакупніка. Цяпер, у час перабудовы, мы атрымалі магчымасць гандляваць самі. Першая краіна, з якой мы выйшлі на кантакт,— Туніс.

«МАЗаў» у Тунісе раней не было, акрамя старых, якія належалі якойсьці балгарскай фірме, што некалі праводзіла тут разведку каштоўных выкапняў. Гэтыя машыны прапрацавалі ў пустыні 12 гадоў. Тунісцы не ведалі іх маркі: мы ж пішам «МАЗ» па-руску, а яны чытаюць па-французску «Матруа». Паказвалі ім і тыя старыя машыны, аблінялыя, з аблупленаю фарбаю, але ўсё яшчэ спраўныя. «МАЗ» наогул непатрабавальная машына і вельмі зручная, як кажуць тыя, хто імі карыстаецца. Калі трэба накарміць насельніцтва дзесьці ў раёнах бедства, землятрусу, вайны, адвезці туды прадукты, адпраўляюць «МАЗ» — і ў Анголе сустракаў іх з гэтай місіяй, і ў Самалі.

Фірма, якой мы прапанавалі свае «МАЗы» ў Тунісе, купіла трыццаць нашых машын. Потым іншыя дзяржаўныя і прыватныя фірмы займелі жаданне іх купіць. З'явіўся ўжо і пасрэднік, які купляе машыны і прадае іх. «МАЗы» зарэкамендавалі сябе цудоўна. Яны крыху таннейшыя, чым «Мерседэсы» і «Вольвы», хоць менш камфартабельныя. Але вадзіцелі задаволены.

У Тунісе многа будоўляў. Кіраўніцтва аднаго з буйнейшых цагельных заводаў пажадала замяніць увесь парк сваіх машын. Там звычайна так робяць: зручней рамантаваць, лепш з запчасткамі. Паставілі ўмову — пафарбаваць у чырвоны колер 50 «МАЗаў» і купілі. Уладальнік завода прыязджаў да нас у Мінск, прапаноўваў у аддзяку пабудаваць мячэць. Але мусульман у нас няма, і мы адмовіліся.

Здавалася б, някепская здзелка. Але... купленыя заводчыкам пяцьдзесят «МАЗаў» прыйшлі ў Туніскі порт. Супраўджаў іх я. І вось — месяц мінае, другі, а машыны ўсё стаяць у порце, на ветры з акіяна... Дасюль захоўваю мясцовую іх газету, дзе пісалася пра нашы машыны і пра безгаспадарчасць: няўжо, маўляў, краіна такая багатая, што дазваляе ржавець, псавацца такому тавару.

А справа была ў тым, што пакупнік не меў ліцэнзіі на ўвоз у краіну машын. Міністэрства фінансаў парашыла, што гэтаму «цагельнаму» фірмачу 50 «МАЗаў» залішне, і пакінула яму толькі дваццаць, за трыццаць астатніх выплаціўшы грошы і перадаўшы іх на продаж пасрэднікам.

Ці ведаюць яны Беларусь? Яны называюць нас не беларусамі, не рускімі, а «савецкі», падкрэсліваючы, што гэта не Масква.

У Тунісе ёсць і тыя, хто скончыў наш політэхнічны інстытут. Аднаго з іх мы запрасілі ў фірму, і ён цяпер прадстаўляе нашы інтарэсы.

А людзі жывуць там па-рознаму. Канечне, прыгожа, калі назіраць з акна аўтобуса. Дык і ў Мінску прахацца гэтак — прыгажосці наглядзішся. Але мы прыязджаем туды працаваць. Мора, спёка, вялікая вільготнасць... Бывае, за дзень тройчы сарочку памяняеш.

Вольны свой час там таксама бавяць не так, як мы. Мне падабаецца, што там, калі хочаш знайсці чалавека, ведаеш, дзе яго шукаць. У іх вольны час як бы запраграмаваны: могуць вечар сядзець у маленькім кафэ з кубкам чаю ці кавы, з бутэлькай кока-колы, і... гаманіць.

Краіна — цікавая. Бачылі, як у нас прадаюць бульбу восенню? У дварах вывальваюць. У іх так прадаюць апельсіны. Ідзеш міма — за рукі хапаюць: не купіш, дык хоць зірні! Вельмі прыемна, калі прадавец да цябе тварам, а не спіною, як часцяком у нас.

Але вернемся да нашых машын. Скажу адразу: нам перабудова вельмі паспрыяла. Прадаём свае новыя мадэлі (64229, 54323) на Філіпінах, у Югаславіі, Эквадоры, Замбіі, Танзаніі, Лаосе, В'етнаме, ёсць заказы з Афганістана. Гэта, калі не згадваць традыцыйныя нашы рынкі: краіны Усходняй Еўропы. Права «хадзіць» па дарогах Еўропы не ўсім машынам даецца. Раней і мы ў еўрапейскія нормы не ўкладваліся, сёння ж робім машыны экалагічна чыстыя — і яны гэта права займелі.

**Валерый ЛІНОЎСКІ,**
**інжынер-механік Мінскага аўтамабільнага завода**

*ІНДЗІРА ГАНДЗІ:*

# «ЁН АДЗІНЫ, ХТО СПАСЦІГНУЎ ДУШУ ІНДЫІ...»





● Ранішняя кава (з цыкла «Бенгалія).

**Неяк павялося яшчэ з застойных гадоў, што больш важкай і высокамастацкай нам падаецца творчая работа, аўтар якой абцяжараны гучнымі званнямі і пасадамі. Як зачараваны, разглядаеш на вернісажы лірычны пейзаж ці псіхалагічны партрэт, і ўсё ж падсвядома, аўтаматычна апускаеш вочы ўніз, туды, дзе пазначана імя аўтара: хто ён? Заслужаны? Народны? А ўдумацца, дык той жа пейзаж не стане больш хвалюючым або раман больш глыбакадумным, калі да імя аўтара дадаць ганаровую прыстаўку. Ніхто ж не пытаецца, якое званне ў Ільі Рэпіна, Міхаіла Ульянава, Івана Шамякіна, Стафаніі Станюты... Бо ў іх ёсць імя — эквівалент вядомасці, прызнання.**

Прызнанне можа прыйсці адразу, раптоўна — з гучным поспехам, азарэннем, асаблівай творчай удачай і застаецца з чалавекам на ўсё яго творчае жыццё. А бывае, вядуць да яго гады карпатлівай працы...

Калі, на якім рубяжы прыйшла вядомасць да беларускага мастака Георгія Георгіевіча Паплаўскага, не заўважыў ніхто. Але яго творчасць прызнана і паважаецца аднолькава ўсімі, незалежна ад асабістых сімпатый. У яго ёсць імя — адметнае, самабытнае. Прынамсі, і званні таксама — заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, лаўрэат міжнароднай прэміі імя Дж. Нэру. І апошняя вестка: ён абраны акадэмікам Акадэміі мастацтваў СССР.

Сёлета Георгію Георгіевічу Паплаўскаму споўнілася 60 гадоў. У юбілейныя дні прынята спыніцца і азірнуцца назад, каб потым у думках прадоўжыць дарогу. Сваю дарогу Георгій выбраў з ранняга дзяцінства і ішоў па ёй упэўнена і прама, нікуды не збочваючы, нічым іншым не спакусіўшыся.

У сям'і да захаплення сына аднесліся хутчэй паблажліва, чым з адабрэннем. Ці ж гэта прафесія — мастак? Яшчэ куды ні йшло — стаць фатографам, як сусед,— добра зарабляе, сям'ю ўтрымлівае. А маляваць? Незразумела... Папрацуй, а потым малюй колькі захочаш,— так меркавалі. Але не занадта і стрымлівалі — дарослы ўжо, думай сам, як табе жыць.

А разважаць яму не трэба было: усё пра сябе ён ведаў. Усё ў ім надзіва ўдала сышлося: талент, апантанасць, сіла, інтэлект, жыццялюбства. Гэты трывалы сплаў і вызначыў асаблівы стыль жыцця — энергічны. У яго работах гэта заўважаеш адразу. Асаблівы почырк. Калі рука вядзе сваю лінію ўпэўнена, моцна, амаль не адрываючыся ад аркуша, і дакладная думка, узнесеная дужым духам, матэрыялізуецца ў малюнку без цяжкасцей.

Аднойчы (справа была ў Індыі) ён паспрабаваў паводзіць сябе як усе: хадзіў з групай, аглядаў прапанаванае. Дзень, другі. А потым не вытрымаў, узяў блакнот, паперу і пачаў маляваць. Індыйцы — народ адкрыты, тут жа вакол утварыўся натоўп, пачалі разглядаць, абмяркоўваць. А ён маляваў з натуры, хутка сышоўся з імі, хаця і не ведаў англійскай мовы.

— Зносіны паміж намі былі простыя,— расказваў ён,— бо мова малюнка зразумелая ўсім.

З тых малюнкаў і пачаўся вядомы «Індыйскі дзённік» — цыкл графічных работ, каляровых літаграфій. Незвычайная пластыка цела, цнатлівасць, прыгажосць — вось што вызначала людзей Індыі. Такімі бачым мы іх у работах мастака. І гэта глыбіня спазнавання, разумення прывяла ў захапленне саміх індыйцаў. «Ён адзіны, хто спасцігнуў душу Індыі»,— так сказала пра яго сама Індзіра Гандзі. І прэмія імя Дж. Нэру Георгію Паплаўскаму прысуджана па хадайніцтву ўрада Індыі. Такім чынам першае прызнанне, першую ўзнагароду знайшоў ён за мяжой.

А потым былі іншыя індыйскія цыклы: «Цірукурал», «Рабіндранат Тагор, Сад Песень», «Бенгалія».

— Вы аб'ездзілі ўвесь свет, якая краіна глыбей запала ў душу? — неяк спыталася я ў Георгія Георгіевіча.

— Індыя,— не раздумваючы адказаў ён.— І ўсё ж... Многія мастакі, на маю думку, яшчэ не да канца ўсвядомілі, што значыць жыць у такой велізарнай краіне, як наша. Гэта ж магчымасць аб'ездзіць амаль паўсвету! Столькі ўбачыць! Столькі намаляваць!

Што ж, ездзіў Георгій Паплаўскі і сапраўды шмат. Аднымі з першых яны з жонкай Наталляй, яшчэ зусім маладымі, пайшлі пешшу па вёсках Палесся, каб паспець убачыць на свае вочы рэшткі матэрыяльнай культуры продкаў: замалёўвалі з дакументальнай дакладнасцю старыя (а цяпер ужо музейныя) рэчы, посуд, хаткі, печы з кафлі, шалёўкі, пляценне, вышыванкі і г. д. Усё гэта адыходзіла, яны разумелі — можа здарыцца так, што беззваротна, і без гучных слоў рабілі сваю нягучную справу.

Відэакліп.

Які бясцэнны скарб займелі ў гэтай вандроўцы, зразумелі пазней, калі распачалі першую вялікую работу — ілюстрацыі да рамана Івана Мележа «Людзі на балоце». На тую пару ходкім было лубковае мастацтва «а ля Беларусь»: дзесьці арнамент пазначыць, дзесьці кветачку... Патрэбна ж было іншае: добрасумленна, дакладна перадаць дэталі вясковага побыту, вытрымаць стыль і настрой народнага мастацтва.

Браслаўскі край — любыя мясціны Георгія Паплаўскага. Вось ужо чвэрць стагоддзя ён ездзіць сюды. Колькі тут напісана! «Край блакітных азёр», «Браслаўскія льны», «Прагулка з Ганешам»... А аднойчы ўвосень зусім нечакана — сам сабою — нарадзіўся цыкл выдатных акварэлей «Браслаўскія туманы». Ён маляваў, быццам жартаваў, сам да канца не ўсведамляючы, што з гэтага атрымаецца. А атрымаўся цуд. Вытанчанасць, лёгкасць, някідкая прыгажосць і маўклівая таямнічасць — такой паўстае Браслаўшчына ў яго акварэлях.

Не адразу, з гадамі з'явілася ў работах Паплаўскага і лірычная нота. Сам чалавек загартаваны, мужны і рашучы, ён цаніў і шукаў гэткія ж якасці ў людзях. Шукаў сваіх герояў. Плаваў з рыбакамі па Паўночным Ледавітым акіяне, па Атлантыцы. Цыклы «Мора Берынга», «Камандоры» — вось у што ўвасобіліся гэтыя падарожжы. Бываў на Байкануры — космасу прысвечаны цыкл «Высокае неба».

Але колькі б ні вандраваў Паплаўскі па зямлі, усе дарогі нязменна прыводзілі яго назад, на радзіму. Калі ствараў свой ваенны цыкл «Час доўгіх нажоў», думалася: усё — менавіта на гэтай высокай ноце і скончыцца для яго тэма пакут беларускага народа. Працаваў над ёй доўга і грунтоўна, распачаўшы ілюстрацыямі да аповесцей Васіля Быкава, «Хатынскай аповесці» Алеся Адамовіча. І вось — «Час доўгіх нажоў», крык са сцятымі вуснамі. Ці магчыма выказацца больш яскрава, больш балюча? Аказалася, чаша выпіта не да дна. Чорным жахлівым ценем навіс над намі Чарнобыль. Гэта горкая тэма — у «Буднях беларускіх». Чаго варты адны назвы работ: «Паляванне на белага лася», «Дрэвы без лісця», «Бежанец», «Чацвёрты блок», «Галгофа»... І, відаць, не выпадкова адна з работ гэтага цыкла ўзнаўляе вобраз Ісуса Хрыста. Ніколі раней Георгій Паплаўскі не звяртаўся да гэтай тэмы. Занадта высока, занадта адказна. Тут нельга проста так, мімаходзь. І вось, нібы з глыбіні стагоддзяў, выступаюць на пергаментным фоне знаёмыя, але невыразныя рысы Пакутніка. Гэта было... было... І памяць з цяжкасцю дастае з глыбіні, вяртае нам напаўзабыты вобраз. Прыйшоў час успомніць. І апамятацца.

Так атрымалася, што мы зусім мала ведаем Паплаўскага як жывапісца. Ды ён і пісаў свае карціны нібыта паміж справай. Але сабраныя аднойчы разам, на юбілейную выставу, яны сапраўды сталі адкрыццём. Стрыманыя па каларыту, выкананыя ў манеры старых галандскіх майстроў, «вясковыя» па зместу і па-сялянску немудрагелістыя, яго нацюрморты не прэтэндуюць на абагульненне, не нясуць ніякай «ідэйнай нагрузкі». І ўсё ж ад карцін доўга не адыходзіш — такі ад іх сыходзіць спакой...

Юбілей адсвяткаваны, а наперадзе зноў — дарога. Тая ж самая і зусім новая, па якой энергічна крочыць той самы, а, магчыма, і зусім новы чалавек. Дарога ж заўсёды абяцае адкрыцці...

Прыгадваецца адзін забаўны і характэрны выпадак з жыцця мастака. Машыну Паплаўскага спыніла на дарозе служба ДАІ. Па ўсім было відаць, што не пазбегнуць суровага пакарання. І, як усе вадзіцелі, Паплаўскі пачаў адразу ж шукаць шляхі выратавання. «Ды я стары стаў зусім, прагледзеў»,— пачаў ён пацешна і жаласліва ўгаворваць міліцыянераў. Тыя, відаць, усяго чакалі, толькі не гэтага. «Нічога сабе дзядуля,— засмяяўся адзін.— Ды мы вас ледзьве дагналі!». І тады рассмяяліся ўсе.

Маладосці, вясёлай гарэзлівасці і ўдачы хочацца пажадаць Георгію Паплаўскаму і надалей: няхай будуць новыя захапленні, новыя сустрэчы і новыя работы, кожная з якіх стане новаю вяршыняю ў яго творчасці.

**Ларыса КОКТЫШ.**
**Фота Яўгена КОКТЫША.**

## НАШ ВЕРНІСАЖ



## ПАЭМА ЧАЦВЁРТАЯ

*Другі маналог нявесты*

Я сплю, а сэрца маё чувае;
вось голас каханага, які стукаецца:
«Адчыні мне, сястрыца каханая,
мая беспахібная, чыстая горлінка,
бо галава мая — абрасілася,
мае кучары — ў начной вільгаці».
Я хітон свой зняла —
як жа зноў надзяваць мне яго?
Каханы прасунуў руку сваю ў шчыліну,
маё цела зайшлося ад радасці.
Устала я, каб адчыніць майму любаму,
і з рук маіх капала міра,
і з пальцаў маіх капала міра
на клямку ў дзвярах.
Адчыніла каханаму я,
а каханы пайшоў, не вярнуўся.
Душа мая ўпала ад слоў яго;
я шукала яго, не знайшла,
я клікала — ён не азваўся.
Спаткалі мяне дазорцы,
што абыходзілі горад;
паранілі мяне, пабілі мяне;
дазорцы сцен гарадскіх
сарвалі з мяне пакрывала.
Заклінаю вас, ерусалімскія дочкі:
як сустрэнецца вам мой каханы,
што яму скажаце вы? Скажыце,
што я знемагла ад кахання.

*Хор*

Чым наймілейшы твой мілы за іншых,
прыгажуня з усіх прыгажунь?
Чым любейшы твой мілы за іншых,
што ты заклінаеш нас?

*Нявеста*

Каханы мой белы, румяны,
з тысяч самы найлепшы.
Галава ў яго — чыстае золата;
яго кучары — гронкі пальмавыя,
чорныя, быццам вораны,
вочы ў яго — галубкі
пры патоках вады,
купаюцца ў малацэ,
сядзяць у дагодзе;
шчокі ў яго, як грады пахучых раслін,
духмяныя пахі,
губы ў яго — лілеі,
з якіх цячэ міра;
рукі ў яго — жазлы залатыя,
абсыпаныя тапазамі,
жывот у яго — як выява з слановае косці,
абкладзеная сапфірамі,
ногі ў яго — слупы мармуровыя,
пастаўленыя на залатыя апоры,
абліччам каханы — Ліван,
велічны, нібыта кедры.
Вусны ў яго — гэта слодыч,
і ўвесь ён — уцеха!
Вось хто мой мілы, вось хто мой сябар,
ерусалімскія дочкі!

## VI

*Хор*

Куды ж ён пайшоў, твой каханы,
жанчына, краса, прыгажуня?
Куды ж ухіліўся твой любы,—
пашукаем яго з табою!

*Каханне*

Мой каханы ў сад свой спусціўся,
да градак духмяных,
каб пасвіць у садзе
і лілеі збіраць.
Адданы мой любы мне,
а я — яму;
ён пасвіць сярод лілеяў.

## ПАЭМА ПЯТАЯ

*Другі маналог жаніха*

Прыгожая ты, каханая: нібы Фірца,
харошая, як Ерусалім,
грозная, нібы полк са сцягамі!
Адвядзі ад мяне свае вочы,
бо яны хвалююць мяне.
Твае валасы — нібы козак чародка,
што збягае з гор Галаадскіх;
Твае зубы — як статак авечак,
што з купальні выходзяць,
кожная з іх прывяла двайнятак,
і няма сярод іх бясплоднай,
як палавінкі граната, шчочкі твае —
пад кудзеркамі тваімі.
Ёсць шэсцьдзесят царыц і восемдзесят наложніц
і безліч — дзяўчат;
ды адна яна, беспахібная, чыстая горлінка;
адна яна — дачка ясная ў мацеркі
роднай —
памечана ласкаю маці.
Убачылі гэта сяброўкі і пахвалілі яе,
царыцы і наложніцы — і пахвалілі яе.

*Хор*

Хто гэта ўзыходзіць, быццам зара,
прыгожая, нібы месячык, ясная, нібы сонейка,
грозная, нібы полк са сцягамі?
Я спусціўся ў арэхавы сад
паглядзець на ўсходы ў даліне
паглядзець, ці лаза зеленее,
гранаты ці зацвілі?
Не ведаю, як душа мая вабіла
вяльможаў з народа майго.

## VII

## ПАЭМА ШОСТАЯ

*Хор*

«Азірніся назад, Суламіта,
азірніся назад — дай цябе ўбачыць!»

*Жаніх*

Што вам дзівіцца на Суламіту,
як на карагод манаімскі?

*Хор*

Якія прыгожыя ногі твае ў сандалях,
дачка знакамітая!
Выгін клубоў тваіх, як абруч,
што майстар зрабіў;
твой пупок — нібы круглая чаша
да краю з пахучым вінам;
твой жывот — гэта горка пшаніцы
сярод лілеяў чароўных;
твае грудзі — два казляняткі,
блізняткі сарны,
твая шыя — вежа з слановае косці;
твае вочы — есевонскія сажалкі
каля брамы Бат-рабім;
твой нос — як Ліванская вежа
на дазоры насупраць Дамаска;
твая галава — як гара Карміл,
і пасмы валос — як пурпура;
цар паланёны кучарамі тваімі.

*Жаніх*

Якая прыгожая ты, якая панадная,
каханка, тваёй прывабнасцю!
Гэты стан твой падобны да пальмы,
і грудзі — да вінаградных гронак.
Я падумаў: залезу на пальму.
я схаплюся за голле яе —
хай будуць грудзі твае замест гронак лазы,
і дыханне тваё будзе — як яблыкі;
і вусны твае — як віно залатое!
Цячэ яно ў рот каханаму,
асалоджвае вусны стомленым.

*Нявеста*

Належу я міламу другу, і мяне ён жадае.
Прыйдзі, любасны,
выйдзем у поле, пабудзем у вёсках;
выйдзем раніцай у вінаграднікі,
падзівімся, як лаза зеленее,
як пупышкі покнуліся,
як зацвілі гранаты;
там я цябе прыгалублю.
Мандрагоры пахнуць духмяна,
ля варот нашых многа пладоў:
сёлетніх і даўнейшых
назапасіла я табе, каханы.

## VIII

## ПАЭМА СЁМАЯ

*Нявесцін голас*

О, няхай бы ты быў мне братам,
маёй мацеркай узгадаваны,—
сустракала б цябе за парогам
і адкрыта цябе цалавала б,
і ніхто мне асуды не даў бы.
Прывяла б я цябе з сабою
у дом мацеркі роднай маёй.
Ты вучыў бы мяне,
а я паіла б цябе духмяным вінам
і сокам з маіх гранатаў!

*Нявеста*

Яго левая — пад маёй галавою,
а правай рукою мяне абдымае,—

*Жаніх*

Заклінаю вас, ерусалімскія дочкі:
не будзіце, не турбуйце каханай,
пакуль не прачнецца сама.

*Хор*

Хто там ідзе з пустэльні,
абапершыся на каханага?

*Жаніх*

Пад яблыняй я разбудзіў цябе:
там цябе нарадзіла маці,
там нарадзіла родная.

*Нявеста*

Пячаткай мяне пакладзі на сэрца сваё,
пакладзі на рукі, як пярсцёнак:
бо каханне, як смерць — моцнае;
рэўнасць, як пекла — лютая;
стрэлы яго — стрэлы вогненныя;
яно — полымя непагаснае.
Вялікія воды не могуць любоў патушыць,
і рэкі яе не затопяць.
Калі б хто даваў багацці дома свайго за любоў,
іх адхілілі б з пагардай.

## ЭПІЛОГ

*Малая сястра*

Ёсць у нас сястрыца, малая сястрыца,
яшчэ яна грудак не мае;
што рабіць нам з сястрыцаю нашай,
калі прыйдуць сваты да яе?
А калі б яна была сцяною,
мы яе ўмацавалі б сярэбранымі зубцамі,
калі б яна была дзвярыма —
мы іх ашалявалі б кедровымі дошкамі.
Я — сцяна,
і грудзі мае — як вежы;
таму ён у мне
знойдзе апору.

*Вінаграднік Саламона*

Вінаграднік быў у Саламона ў Ваал-Хамоне:
варце даверыў ён вінаграднік;
кожны плаціў за плады тысячу срэбрам..
А мой вінаграднік пры мне.
Хай тысяча будзе табе, Саламоне,
а дзвесце — яго вартавым.

*Сады*

О жыхарка садоў!
Сябры чуюць твой голас!
Дай і мне паслухаць яго.
Уцякай, мой каханы;
будзь да сарны падобны,
да маладога аленя
у бальзамных гарах!

**Пераклаў Васіль СЁМУХА.**
**Малюнак Арлена КАШКУРЭВІЧА.**

Працяг. Пачатак у № 8.




# МІЖНАРОДНЫ БЕЛАРУСІСТАЎ







Даклад Вітаўта КІПЕЛЯ (Нью-Йорк).

Юры Туронак (Варшава) з удзельнікамі кангрэсу.

Браты Запруднікі з Сяргеем Панізнікам.



**Галіна СЯРГЕЕВА. Мінск.** Сённяшняя сустрэча, на мой погляд, гэта вельмі добрая прыкмета нашага часу, часу вельмі складанага, але для лёсу беларускага народа — вызначальна-гістарычнага. Гэтае нашае сённяшняе спатканне, на якое сабраліся навукоўцы Бацькаўшчыны, дыяспары, беларусаведы многіх краін і народаў, яшчэ і сведчанне таго, што адыходзіць у нябыт ганебная палітыка, якая падзяляла нас межамі, якая пазбаўляла беларусаў за мяжою падтрымкі свайго народа. Цяпер, разам з працэсамі дэмакратызацыі, павышэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа, зусім заканамерна расце цікавасць да той яго часткі, якая розныя часы і па розных прычынах аказалася за межамі Бацькаўшчыны. Апошнім часам у лепшы бок вызначыліся адносіны да эміграцыі як на ўзроўні ўраду, так і ў большай частці нашага грамадства. І сёння ўжо зусім натуральна, што асобныя творчыя набыткі беларускага замежжа становяцца і нашымі набыткамі, што наладзіліся сувязі суродзічаў, што плённыя кантакты маюць грамадскія дэмакратычныя арганізацыі, плённа распачало сваю дзейнасць згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».

**Вітаўт КІПЕЛЬ. Нью-Йорк:** Эміграцыя з Беларусі ішла хвалямі, хоць гэта быў сталы працэс эмігравання з Бацькаўшчыны. Мы ўважаем, што былі тры большыя хвалі эміграцыі: хваля індывідуальных эмігрантаў і малых груповак ад канца XVII да канца XIX стагоддзя; хваля масавай эміграцыі ад канца XIX стагоддзя і да канца 1945 года і трэцяя хваля — па другой сусветнай вайне.

Апошнім часам былі выказаны погляды (напрыклад, спадаром Мацюніным у БССР), што было сем хваляў эміграцыі, спадар Калубовіч налічвае яшчэ больш. Відавочна, што вывучэнне беларускай эміграцыі павінна пачынацца ад пытання: калі Беларусь даведалася пра Амэрыку? Тут дакументацыя вельмі выразная: пра Амэрыку Беларусь даведалася з «Хронікі» Бельскага ў 1554 годзе, калі гэтая «Хроніка» была перакладзена на беларускую мову. Беларускамоўная «Хроніка» Бельскага пайшла ў Маскву і была перакладзена на расейскую мову ў 1584 годзе.

Лагічнае пытанне другое: а калі Амэрыка даведалася пра Беларусь, калі панядце беларускага народу, беларускага этнасу прыйшло ў Амэрыку? І тут мы маем вельмі дакладную звестку: пра Беларусь Амэрыка даведалася ў 1607 годзе. Прынёс вестку ў Амэрыку пра Беларусь не хто іншы, як сам капітан Джон Сміт, першы губернатар сталае ангельскае калёніі ў Амэрыцы, Вірджынскай калёніі. Бо ўсяго толькі чатыры гады перад 1607 годам капітан Сміт, тады ваяка Сміт, быў на Беларусі. Гэта вядома з кніжкі «Сапраўднае падарожжа», якую ён выдаў у 1630 годзе; дзе піша: «Нарэшце я дабраўся да Літвы, да гораду Рэчыца на рацэ Непр».

У беларускім замежным друку пра капітана Сміта напісана шмат, гэтаксама, як і пра Рэчыцу, і пра пабыццё капітана Сміта на Рэчыцы, пра падарожжа яго з Рэчыцы праз Палессе на Валынь і далей на Захад. Капітан Сміт быў ан-

# КАНГРЭС

## МАТЭРЫЯЛЫ „КРУГЛАГА СТАЛА" „БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА"

гельскі ваяка, які змагаўся з туркамі, папаў у палон, затым уцёк адтуль. Праз Азоўскае мора, Данец, Дон ён прайшоў на Беларусь. Пабыў у Рэчыцы, пагуляў, бо дэтальна апісаны ягоны побыт у Рэчыцы, ягоныя гулянкі, гэтаксама ягоныя знаёмствы з беларускаю шляхтаю, а пасля праз Еўропу вярнуўся ў Ангельшчыну і стаў першым губернатарам амэрыканскае калёніі. Калі ж капітан Сміт прыехаў у Амэрыку і пачаў там арганізоўваць жыццё, яму спатрэбіліся спецыялісты па вырабу смалы і шкла. У сваіх успамінах Сміт пісаў, што набраў ён гэтых спецыялістаў у Польшчы і іншых усходніх землях.

Відавочна, што палякі інтэрпрэтавалі ў першую чаргу Польшчу, а «іншыя ўсходнія землі» імі ігнараваліся. Аналізуючы прозвішчы тых людзей, якіх прывёз Сміт у Вірджынію як спецыялістаў па вырабу смалы, робім бясспрэчны вывад, што сярод іх былі беларускія спецыялісты. Маглі быць таксама і ўкраінскія спецыялісты з Валыні і іншых сумежных земляў. Будучыя архіўныя пошукі, безумоўна, дадуць значна больш дакументальных дадзеных, тым болей, што доследы, якія мы рабілі ў розных ангельскіх кампаніях абнадзеілі, што яны мелі беспасрэдныя сувязі з літвінамі, з беларусамі.

Большыя групы беларусаў, якія не прымірыліся з тым, што нашы землі пападалі пад расейскую, маскоўскую акупацыю, пачалі прыязджаць у Амэрыку ў XVIII—XIX стагоддзях, асабліва ў першай чвэрці XIX стагоддзя. Калі папа Рымскі забараніў езуіцкі ордэн, а Расея не магла прымірыцца з папскім указам і заявіла, што на тэрыторыі Расеі толькі расейскія цары загадваюць, што рабіць, амэрыканскія езуіты, не жадаючы аддаць свае землі, сваю маёмасць каталіцкай царкве, далучыліся да езуіцкага ордэна, які існаваў на Беларусі, і назваліся беларускаю правінцыяй.

У гэты час у Амэрыку прыехала з Полацку вельмі шмат ксяндзоў. Адзін з іх быў асабліва выдатны. Звалі яго Францішак Дзеружынскі. Нарадзіўся Дзеружынскі ў Оршы, вучыўся ў шматлікіх школах Аршаншчыны, Магілёўшчыны і вырашыў выехаць у Амэрыку. Там ён вызначыўся надзвычайна, запачаткаваўшы адукацыйную сістэму каталіцкае царквы. Каталіцкія школы ў Амэрыцы — гэта пачаткі айца Дзеружынскага. Пра яго існуе вялікая літаратура.

На асобу Дзеружынскага прэтэндуюць палякі. Чаму я кажу «прэтэндуюць»? Здаўна вядзецца нічым не абаснаваная думка аб тым, што калі каталік, то, значыць, паляк. У той жа самы час палякі надрукавалі вельмі шмат літаратуры пра Дзеружынскага. Калі я пачаў знаёміцца з гэтаю літаратураю, то мне прыйшлося звездаць шмат езуіцкіх архіваў у Амэрыцы. Айцец Францішак Дзеружынскі бясспрэчна быў беларускага паходжання. У кнізе «Гісторыя беларускай эміграцыі» мы і залічаем яго да беларусаў.

У XIX ст. у Амэрыцы таксама паўставалі сельскагаспадарчыя калёніі. Сярод кіраўнікоў гэтых калёній было шмат беларусаў, яны мелі блізкую лучнасць з Горы-Горкамі. Адзін з такіх філёзафаў, ці пачынальнікаў сельскагаспадарчай калёніі, Фрэй перапісваўся шмат з якімі дзеячамі ў Вільні, у Віцебску і Магілёве і шмат хто пад ягоным уплывам паехаў у Амэрыку. XIX стагоддзе таксама дае нам Судзілоўскага, пра якога шмат хто ведае з манаграфіі Ескі і многіх артыкулаў, якія друкаваліся тут, на Бацькаўшчыне.

Дакладных лікаў беларускай эміграцыі няма. Такія падлікі ніколі не праводзіліся. Некаторыя даследнікі выказалі свае думкі на гэты конт. Напрыклад, акадэмік Шчарбакоў у Менску налічваў каля 800 тыс. эмігрантаў, Уласаў у «Нашай Ніве" аблічаў да мільёна. Пасля другой сусветнай вайны намі падлічана даволі дакладная колькасць — каля 50 тыс. эмігрантаў.

Гутаркі аб першых беларускіх арганізацыях пачаліся ў 1908 годзе. Распачаў іх Аляксандр Сянкевіч. Ён паходзіў з Мікалаеўшчыны і выведзены ў шмат якіх творах Я. Коласа. Пра А. Сянкевіча, сакратара Саюза беларускіх настаўнікаў, ёсць паведамленне ў «Нашай Ніве»: яго хацелі арыштаваць, але ён уцёк у Амэрыку.

На жаль, за мяжою Сянкевіч і ягоная жонка Марыя ўключыліся ў анархістычны рух, сталі яго лідэрамі і былі згублены для беларускае справы. Затым А. Сянкевіч вярнуўся ў Расею, уступіў у атрад Сяргея Лазо, ваяваў на Далёкім Усходзе, пасля вярнуўся на Беларусь і тут быў знішчаны. Ён меў матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі. Дзе цяпер ягоныя архівы, гэта вам даследаваць.

Масавыя арганізацыі пачалі закладацца пасля 1918 года. Яны шмат зрабілі для сувязі Беларусі з дыяспараю. «Бюлетэнь беларускага Чырвонага Крыжа» друкаваў абвесткі ў кожным нумары, шукаючы сваякоў, загінуўшых у Амэрыцы, дзеля таго, што амэрыканскія страхавыя кампаніі мелі вялікія грошы і гэтыя грошы магла мець Беларусь. Цвікевіч, які ўзначальваў Чырвоны Крыж, меў шырокія пляны, але Цвікевіча расстралялі.

За гэту справу ўзяліся левыя беларускія арганізацыі. Яны куплялі першыя трактары для Беларусі, дапамагалі беларускім школам, і яны ж зрабілі вялікую памылку, што паслухалі суайчыннікаў з Савецкай Беларусі. Гэтыя арганізацыі з беларускіх пачалі станавіцца савецкімі, пасля савецкае перайменавалася ў рускае і гэта якраз тая руская эміграцыя, для якой сёння газета «Голас Радзімы» выдае «рускую» старонку.

Гэткім парадкам беларускія арганізацыі закладаліся ў 20-ых гадох. Арганізацый левых было каля 30, арганізацый нацыянальных было крыху меней, але затое яны пратрывалі ажно да сёньняшняга дня.

Мэты пасляваеннай эміграцыі былі: адрадзіць нашу спадчыну ў Амэрыцы, якая была пад чужым імем — польскім і рускім, паставіць Беларусь сёння на карту ў Амэрыцы і заснаваць сваё жыццё: пабудаваць цэрквы, гадаваць дзяцей у беларускіх школах, наладзіць навуковую базу эміграцыі. Былі створаны дзесяткі арганізацый, школаў, цэркваў, танцавальных гуртоў і г. д. Найбольшыя арганізацыі: «Беларуска-амэрыканскае з'адзіночанне», «Беларускі кангрэсавы камітэт», «Арганізацыя беларускай моладзі» і інш.

Галоўная мэта іх — ахапіць беларускім рухам маладое пакаленне, пакаленне, якое, як сказаў доктар Запруднік, чуецца беларусамі.

І яшчэ адна найбольшая галіна — царкоўнасць. У царкоўным жыцці беларуская эміграцыя стаіць бескампрамісова і зрабіла вельмі шмат у пытанні беларусізацыі існуючых галоўных канфэсіяў: каталіцкай царквы і царквы праваслаўнай. Беларуская аўтакефальная царква выпусціла некалькі выданняў, каталіцкая царква рабіла пераклады. Тут агульная бескампрамісовая пазыцыя: беларусізацыя царквы.

Вось тыя асноўныя аспекты, якімі жыве эміграцыя. Бясспрэчна, кожны з гэтых аспектаў мае аспект палітычны: як даць весткі пра Беларусь амэрыканскім чыннікам. У кангрэсавых запісах беларусы пачалі з'яўляцца з 1927 году. У тыя ж гады прыйшла вестка, што ў Беларусі будзе раскулачванне, што ў Беларусі могуць пачацца пэўныя палітычныя непаладкі.

Пачынаючы з 40-ых гадоў, беларуская эміграцыя асвятляе ў друку рэальны стан рэчаў у Беларусі.

Калі здарылася чарнобыльская катастрофа, беларускія арганізацыі ў Амэрыцы высунулі сотні мемарандумаў па гэтай праблеме, якая напачатку была заманапалізавана ўкраінцамі. Мы разбілі версію, што геаграфічнае размяшчэнне Чарнобыля павінна найперш брацца пад увагу, бо яно нічога агульнага не мае з тым, дзе праявіліся асноўныя шкодныя вынікі гэтай сусветнай трагэдыі, якую прымае ўсё чалавецтва, разумеючы, што такая бяда можа здарыцца на любым «панадворку». Мы стараліся паказаць, што для Беларусі гэта страшэнная катастрофа.

Усё, што адбываецца на Беларусі, вельмі блізкае ўсім пакаленням эміграцыі. Мы марым аб тым, каб быць блізка з краем, каб мець з ім цесную сувязь. Сфармаваная ў гэтыя дні арганізацыя абнадзейвае, дае ўпэўненасць, што эміграцыя не будзе выкінута з жыцця Бацькаўшчыны. Цывілізаваныя народы — італьянцы, немцы, швейцарцы — выдаюць падручнікі для дзяцей, якія вучацца на эміграцыі. А наш край, наадварот, стараўся адарваць нас ад радзімы. Цяпер, калі Бацькаўшчына ўпершыню зацікавілася намі, эміграцыя будзе працаваць з employment верою, што гэта карысна для ўсяе беларускае нацыі.

**Ганна СУРМАЧ. Мінск.** Карані нашага сучаснага і будучага жыцця прараслі з нашай гісторыі. А ў ёй тэма эміграцыі — адна з важнейшых і складанейшых. Нам неабходна сёння асэнсаваць у поўнай меры, што значылі эміграцыйныя працэсы для Беларусі, якія прычыны іх спарадзілі і да якіх вынікаў яны прывялі. І не толькі ў дэмаграфічным сэнсе, але і ў палітычным, сацыяльным.

Мне асабіста ўяўляецца, што інтэнсіўная эміграцыя адна з важнейшых прычын, якія прывялі да сённяшняга заняпаду нашага сацыяльнага жыцця.

Беларус з Амэрыкі Яўген Калубовіч у сваім артыкуле «Нашы папярэднікі», апублікаваным у эміграцыйным часопісе «Беларускі свет», налічваў восем хваляў масавай эміграцыі з Беларусі за паўтара стагоддзя, пачынаючы з канца XVIII ст., калі беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Першая з іх — пасля паўстання Т. Касцюшкі, далей пасля вайны 1812 г. і паўстання ў 1831 г., пасля 1917 г. і другой сусветнай вайны.

Зразумела, што такая эміграцыя не з'яўляецца праявай натуральных міграцыйных працэсаў у свеце, а набыла рысы нацыянальнай трагедыі. Толькі дзве з гэтых васьмі хваляў — эканамічныя эміграцыі ад беззямелля і галечы (у канцы XIX — пачатку XX ст. і з Заходняй Беларусі), гэта значыць, у некаторай ступені добраахвотныя. Усе астатнія — прымусовы выезд з радзімы па палітычных прычынах.

Выгнанцамі былі, у большасці, змагары за волю і незалежнасць нашай зямлі. Лепшыя з лепшых яе сыноў, найбольш адукаваная і нацыянальна свядомая частка народа, тыя, хто не згарэў у агні паўстанняў, войнаў, у сібірскіх турмах і мог яшчэ многа зрабіць дзеля Бацькаўшчыны. Але ў чужых землях давялося выяўляць свой розум і талент многім слаўным сынам Беларусі. Прыгадаем выхадца з-пад Міра Ігната Дамейку, стаўшага нацыянальным героем Чылі; Валеры Урублеўскага з мястэчка Жалудок каля Ліды, генерала Парыжскай Камуны; Міколу Судзілоўскага, які ў час сваіх блуканняў па свеце стаўся нават старшынёй сэнату на Гаваях. Найбольш шматлікай была эміграцыя пасля другой сусветнай вайны. На ёй варта спыніцца асобна, бо гэта якраз і ёсць тыя людзі і іх нашчадкі, якія складаюць сучасную беларускую свядомую эміграцыю ў свеце.

Я думаю, што многае прасвятлілася б для нас у вывучэнні гісторыі апошняй вайны, як прычыны новай эміграцыйнай хвалі, калі б, нарэшце, у нас было выдадзена вельмі грунтоўнае і абсалютна талерантнае даследаванне беларускага гісторыка ў Польшчы Ю. Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Патрэбна выдаць таксама ўспаміны эміграната Я. Малецкага «Пад знакам пагоні» і інш.

Пра тое, што беларуская эміграцыя другой сусветнай вайны не можа мець толькі адмоўную характарыстыку, як гэта сцвярджалася нашай афіцыйнай навукай, сведчыць і тая аб'ёмістая і шматгранная навуковая і культурна-асветніцкая праца, якую нашы суродзічы арганізавалі на чужыне... Імі падрыхтаваны і выдадзены шматлікія кнігі, часопісы, навуковыя працы.

Вялікай павагі заслугоўвае актыўная дзейнасць сучасных беларускіх эміграцыйных цэнтраў у Амэрыцы, Англіі, Канадзе, Аўстраліі, Германіі.

Як мы сёння ўжо разумеем, мы многае страцілі ад таго, што так доўга адмяжоўваліся ад сваіх землякоў, якія аказаліся на чужыне па волі лёсу. Каб гэта бяспамяцтва не прадаўжалася і надалей, мы сумесна павінны клапаціцца пра тое, каб усё, што зроблена беларусамі на эміграцыі ў галіне развіцця нацыянальнай гісторыі і культуры, было захавана дзеля будучыні. Мы вельмі высока ацэньваем у гэтым сэнсе 19 тамоў «Запісаў» Інстытута беларускай навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, які ўзначальвае Вітаўт Кіпель, «Бібліяграфію Купалы і Коласа» Зоры і Вітаўта Кіпеляў, «Бібліяграфію Скарыніяны» Вітаўта Тумаша. Хацелася б успомніць і пра Міколу Панькова, які выдаў «Беларускі летапіс», дзе апублікаваны дакументы. Варта прыгадаць таксама і працу Вініцкага, якая найбольш глыбока асвятляе гісторыю эміграцыі.

Непакоіць нас і лёс эміграцыйнага архіва БНР. Там ёсць цікавыя дакументы, якія патрэбны цяпер для перагляду састарэлых гістарычных канцэпцый і напісання праўдзівай гісторыі народа. Усё ж наша агульная Бацькаўшчына тут, на Беларусі, і менавіта тут і трэба збіраць усе нашы архівы і бібліятэкі. А як гэта зрабіць практычна, трэба неяк дамаўляцца сумесна. Мы, у сваю чаргу, можам дапамагчы нашай эміграцыі ў яе духоўных і культурных патрэбах. Так што мы заклікаем землякоў супрацоўнічаць дзеля ўзаемнай карысці.

**Янка МОЙСІК. Ватыкан.** Я не займаюся беларусістыкай, але працую для Беларусі, а менавіта — працую на Ватыканскім радыё, якое 60 гадоў назад урачыста адкрыў папа Пій XII. Пасля пробнага перыяду, які трываў да 1939 года, распачаліся праграмы на міжнародным узроўні, і ніколі наша радыё не было ў злучцы з нейкімі палітычнымі сіламі, як у час вайны, так і пасля яе.

Ёсць шэсць праграм: на беларускай, расейскай, украінскай, літоўскай, латышскай і армянскай мовах. На радыё працуе каля пяцісот асоб сарака пяці нацыянальнасцей. Паколькі Ватыканскае радыё не мае ніякіх даходаў, дык гэтыя сумы пакрываюцца Святым Пасадам і паглынаюць вялікую частку яго бюджэту, а таму Ватыканскае радыё залежыць ад ахвярнасці слухачоў і верных усяго свету.

Беларуская секцыя радыё існуе ўжо больш за сорак гадоў. Першыя пробныя праграмы пачаліся ў 1949 годзе, а з 6 студзеня 1950 года беларуская секцыя пачала працаваць рэгулярна. Заснавальнікам яе быў айцец Пётр Татарыновіч, вялікая постаць у беларускім эміграцыйным жыцці. Доўгі час ён вёў праграмы сам. Цяпер беларускія праграмы перадаюцца штодня з паўтарэннем раніцаю наступнага дня; кожная праграма трывае дваццаць мінут. Праграма мае чатырох сталых працаўнікоў, не лічачы вонкавых супрацоўнікаў, а яны ёсць у нас у розных краінах, на шчасце, апошнім часам і на Беларусі.

Якія мэты Ватыканскага радыё? На гэта пытанне найлепш адказаў сам Папа Ян Павел II: «Задача Ватыканскага радыё — зрабіць чутным біццё сэрца царквы ва ўсіх яе частках свету». Беручы пад увагу сучаснае становішча царквы ў Беларусі, асабліва недахоп святароў, перадачы Ватыканскага радыё набываюць асаблівае значэнне. Для многіх — гэта, бадай, адзіны спосаб атрымаць нейкія рэлігійныя веды, а таму большую частку свае праграмы мы прысвячаем перадачам рэлігійнага зместу: навучанню праўдаверы, гутаркам на рэлігійныя і маральныя тэмы, літургічным тэкстам і г. д. Адначасова, паводле магчымасці, перадаюцца праграмы на культурныя тэмы, з асаблівою ўвагаю на хрысціянскія карані беларускае культуры. Усе вялікія святы, такія як юбілей Скарыны ці цяпер Максіма Багдановіча, мы адзначаем у нашых праграмах.

Дадам яшчэ, што наша беларуская секцыя Ватыканскага радыё, вобразна кажучы, як бы маленькае беларускае консульства тут, пры Святым Пасадзе. Мы ўважліва сочым за жыццём на Бацькаўшчыне і ў беларускай дыяспары на эміграцыі. Калі ёсць якая нагода, адразу інфармуем усе іншамоўныя секцыі пра падзеі на Беларусі.

Напэўна, сярод прысутных ёсць тыя, хто чытае «Хрысціянскія навіны» — інфармацыйны бюлетэнь, які выдаецца рымскім аддзяленнем суполкі беларускае мовы. Ён быў закладзены год таму назад і на яго ўрачыстым адкрыцці прысутнічалі шаноўныя спадары Мальдзіс, Кіпелі, Грыцкевіч, айцец Надсан, гісторык Туронак і іншыя. Гэты бюлетэнь мае адрасатаў па ўсім свеце, але самае каштоўнае, што ён чытаецца тут, на Бацькаўшчыне. Зазначу, што фінансуе гэтае выданне менавіта Ватыкан і такім чынам становіцца ў падтрымку беларускае справы, адраджэння культуры, гісторыі, рэлігійнасці беларускага народа, не падзяляючы яе на каталіцызм ці праваслаўе.

Што ж гаварыць, мы сапраўды самотныя, недасведчаныя, а колькасць беларусаў у Рыме невялікая. Выкарыстоўваючы любую мажлівасць, каб расказаць у сваіх перадачах пра славутых землякоў, забытых ці наўмысна зганьбаваных за многія гады несвабоды на Беларусі, мы разумеем, што перадачы нашы вартыя вялікай крытыкі. На гэта ёсць свае аб'ектыўныя прычыны: аддаленасць ад Бацькаўшчыны, пра жыццё якой можам ведаць толькі з італьянскага друку, тэлебачання і, зразумела, з вашых пісьмаў. Таму з радасцю выкарыстоўваем кожную сустрэчу са слаўнымі землякамі, і нагода пабыць тут, у Менску, вялікая падзея не толькі для мяне, а для ўсіх суайчыннікаў у Італіі.

Наша новая супрацоўніца, журналістка Алена Мартэцкая прысвячае большасць сваіх перадач болю Беларусі — чарнобыльскай тэме. Дарэчы, гэтыя звесткі даюцца і на іншамоўныя праграмы радыё. Напрыклад, 26 красавіка чорны юбілей катастрофы на Беларусі памянулі ўсе праграмы, нават японская, арабская і іншыя. Асабліва хочацца адзначыць, што ўсе дзяржавы, народы, асобныя людзі збіраюцца дапамагчы і ўжо дапамагаюць беларусам. І дапамога гэта ідзе не праз дзяржаўныя структуры, а праз непасрэдныя асабістыя кантакты.

Нас злучае агульная справа — беларускасць, і мы жадаем большай з вамі лучнасці. Таму, мяркую, варта было б наладзіць абмен перадачамі з беларускім радыё ў Менску. Мы ведаем, што людзі цяпер маюць вялікую прагу Бога. Рэлігійнасць дае надзею ахвярам апошняй катастрофы, апошняй жудаснай радыеактыўнай навалы на Беларусь. Мы, у сваю чаргу, маючы свежы матэрыял з Беларусі, маглі б прапаноўваць яго ўсім іншамоўным праграмам. Яшчэ раз падкрэсліваю, што Ватыканскае радыё абвяшчае на трыццаці чатырох мовах свету. «Мы ад вас далёка», як спявае Данчык, але мы з вамі.

**Янка ЗАПРУДНІК. Нью-Йорк.** Хачу некалькі слоў дадаць да самога вызначэння паняцця эміграцыі. Я — эмігрант, таму што нарадзіўся на Беларусі. Мая дачка нарадзілася ў Нью-Йорку; хто яна — эмігрантка ці не? Я мяркую, што яна павінна быць таксама аб'ектам вывучэння, як эмігрантка, як культурны, эмацыянальны і практычны працяг мае эмігранцкасці.

Рэспубліка збіраецца выходзіць на міжнародны рынак, на міжнародны форум; выхад гэты вельмі цяжкі і складаны. Трэба падключыць да гэтае справы нас, эмігрантаў, і нашых дзяцей, якія жывуць беларускасцю і якія ўраслі ў заходнюю сістэму, сталі спецыялістамі. Доктар Кіпель мае сына, лекара, Юрку Кіпеля. Мая дачка фінансіст, працуе ў банкавай сістэме. Беларусістыка павінна шукаць беларусаў не паводле сваіго нараджэння, а паводле сваіх перакананняў, і старацца вывучаць практычны аспект.

Да нас у Нью-Йорк прыязджаюць людзі з Беларусі і пытаюць, як наладзіць бізнэс. Мы ў сваю чаргу пытаем, які тавар можа прапанаваць рэспубліка, каб выйсці на міжнародны рынак. Вось і ўзнікла думка скласці даведнік нашых талентаў у амэрыканскім свеце, якія эмацыянальна звязаны з Беларусяй і гатовы дапамагчы Бацькаўшчыне. Гэтак як дапамаглі «Васількі», прыехаўшы сюды не толькі з танцамі, але і з медыкаментамі ахвярам Чарнобыля. Наведанне Беларусі сталася для іх цэлым універсітэцкім курсам. Тым самым была закладзена аснова іх узаемадачынення з Бацькаўшчынаю. На працягу далейшага жыцця яны будуць дапамагаць Беларусі наладжваць эканамічныя сувязі з Захадам. Я думаю, гэты практычны аспект беларусістыкі павінен быць пастаўлены нават у цэнтр агульнай увагі.

**Юры ВАСІЛЕЎСКІ. Мінск.**
Вывучэнне гісторыі беларускай эміграцыі толькі пачынаецца. У сувязі з гэтым хацеў бы выказаць некалькі сваіх меркаванняў.

Тэма маіх даследаванняў — беларуская палітычная эміграцыя ў 20-я гады, яе стратэгія і тактыка, ідэйна-палітычная эвалюцыя і рээміграцыя, якая мела тады месца. І тут паўстае вельмі цяжкая задача, якую, на мой погляд, павінны вырашаць усе даследчыкі разам. Маю на ўвазе неабходнасць вызначыць розныя палітычныя плыні, асобных аўтарытэтных дзеячаў, іх узаемаадносіны, кантакты і сувязі, яўную і патаемную арыентацыю, крыніцы фінансавання і г. д. Да сёння ў гэтым кірунку зроблена вельмі мала. Прычыны — непрыступнасць архіўных дакументаў і маральныя засцярогі даследчыкаў. Каб трошкі асвятліць маю думку, прывяду прыклады.

Дзейнасць палітычнай эміграцыі заўсёды прываблівала ўвагу спецслужб. У 20-я гады — гэта польская дэфензіва, савецкае ГПУ, разведка літоўскай дзяржавы... Сёння пакрысе архівы раскрываюцца. Сёе-тое пра сваю эміграцыю і дзейнасць савецкіх спецслужб напісалі нашыя суседзі. Часам гэтыя выяўленыя архіўныя да-

кументы падавалі проста парадаксальныя факты. Але гэта была гістарычная праўда... У нас падобнага амаль нічога не напісана. Прыгадаю хіба У. Казберука, які выявіў перахоплены польскай «двуйкай» ліст з БССР да А. Луцкевіча. Але без праверкі і выяўлення самых розных фактаў, мы не будзем ведаць праўды, наша гісторыя эміграцыі не будзе навукай... Зрэшты, мы не здолеем зразумець памылкі, сілу і слабасць беларускага нацыянальнага руху.

**Барыс САЧАНКА. Мінск.** Мы толькі на подступах да вывучэння беларускай эміграцыі: практычна ідзе збор фактаў і падзей, як у нас, у савецкай Беларусі, так і там, па-за межамі. Я з вялікаю цікавасцю чакаю кнігі, над якой працуе цяпер Вітаўт Кіпель, бо ўсё, што маем мы,— мая, я сказаў бы, аматарская праца пра беларускую эміграцыю, дзе проста сказана, што эміграцыя ёсць і што яна нешта зрабіла для нашай культуры і для нашага народа.

Думаю, не ўсе зацікаўлены, каб беларусы, якія жывуць за межамі рэспублікі, адчувалі, што яны беларусы, і жылі нашым жыццём. Ёсць шмат зацікаўленых якраз у адваротным. Варта паглядзець «Политический собеседник», ды і іншыя публікацыі, каб гэта ўбачыць. І не лішне будзе папярэдзіць тых, хто возьмецца за вывучэнне беларускай эміграцыі: не верыць савецкай статыстыцы пасля 28-га года. Бо ўсе факты і ўсе справы палітычных дзеячаў, якія будуць трапляць да вас, зроблены ці ў пэўных арганізацыях, ці па званках.

У нас зусім не асветлены філасофскі аспект існавання эміграцыі. Першую Біблію нам дала беларуская эміграцыя, першыя кнігі нашых беларускіх пісьменнікаў таксама выйшлі на эміграцыі, а не тут...

Скажу пра тое, што сёння зроблена і будзе рабіцца па адкрыццю беларускай эміграцыі на радзіме. Хутка выйдзе кніжачка «Беларуская эміграцыя», дзе папулярна расказана пра нашых суайчыннікаў за мяжою. Падрыхтавана кніга паэзіі паэтаў-эмігрантаў, у ёй пятнаццаць аўтараў, прозвішчы якіх дасюль нават не называліся. Здадзена ў друк кніга прозы і паэзіі Масея Сяднёва, якая мае выйсці ў гэтым годзе. Падрыхтавана вялікая кніга ўспамінаў эмігрантаў пра вядомых людзей Беларусі: Гаруна, Купалу, Жылку і г. д. Частку ўспамінаў у гэтай кнізе зоймуць успаміны Н. Арсеньевай, Л. Кіншэйна, А. Саковіч. Алесем Бяляцкім падрыхтаваны зборнік Я. Юхнаўца. Выходзіць факсімільнае выданне зборніка Н. Арсеньевай «Пад сінім небам». У «ЛіМе» павінны быць надрукаваны вершы Шчаглова...

Хочацца верыць, што з стварэннем Скарынаўскага цэнтра працэс вывучэння эміграцыі паглыбіцца.

**Адам МАЛЬДЗІС. Мінск.** Я хачу прыгадаць, што яшчэ на пачатку 80-ых гадоў, калі мы рыхтавалі ў Інстытуце літаратуры бібліяграфічны слоўнік беларускіх пісьменнікаў, то, нягледзячы на пэўнае супрацьдзеянне, уключылі туды ў алфавітным парадку ўсіх прадстаўнікоў беларускай літаратурнай эміграцыі. Разам з БелСЭ мы надрукавалі рэкламу слоўніка на англійскай мове з дапамогаю доктара Кіпеля і іншых беларусазнаўцаў і спадзяемся, гэта рэклама шырока пойдзе па ўсім свеце. У творчым калектыве, які цяпер фарміруе Скарынаўскі цэнтр, ужо ёсць багатая бібліяграфія, дзесьці каля 12 тысяч адзінак інфармацыі па эміграцкаму друку. У свой час гэта было зроблена ў Лондане па выданнях, якія там захоўваюцца.

Хочацца падкрэсліць, што дзякуючы бескарыслівай дапамозе прадстаўнікоў нашай эміграцыі, цяпер ужо ў Скарынаўскім цэнтры ёсць многія камплекты перыядычных выданняў. Найперш ад Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку мы атрымалі поўны камплект запісаў, з Лондана — поўны камплект часопіса «Божым шляхам», ад Яна Пятроўскага з ЗША яго пераклады з грэчаскай мовы, пераважна Платона. Я спадзяюся, што гэта калекцыя будзе папаўняцца.

**Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ. Варшава.** Айчына павінна выконваць у адносінах да замежжа такую ролю, як выконвае магніт,— прыцягваць замежжа да сябе. На жаль, пакуль што аб такім уздзеянні беларускай айчыны ў адносінах да нас, не можа быць гутаркі. Не так даўно з Брэста ў Беласток прыязджала асветніцкая дэлегацыя. І калі мясцовы куратар пачаў гаварыць аб тым, што ў нас у Польшчы ёсць беларускія школы, то старшыня дэлегацыі сказаў: «А зачем, кому это надо? Ведь известно, что во время репатриации после войны все белорусы из Польши выехали в Советский Союз, а все поляки из Союза выехали в Польшу».

Вось такім чынам аказана дапамога ў нашых стараннях і намаганнях па развіцці беларускае асветы.

І другі прыклад: кафедра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце існуе 36 гадоў. Маючы сціплыя матэрыяльныя сродкі, але ўсё ж арганізоўваючы розныя мерапрыемствы, мы за гэтыя гады запрасілі на свой кошт каля 50 навуковых супрацоўнікаў з савецкай Беларусі. Як адказ: ніводнага навуковага супрацоўніка з кафедры беларускай філалогіі не прыязджала сюды на кошт Беларусі. Паверце, што Беларусь так доўга не станецца магнітам для ўсіх нас, як доўга не станецца яна Беларуссю.

Канцэнтрацыя ўсіх высілкаў на беларусізацыю не толькі патрэбна — неабходна! Балюча, прыязджаючы сюды, усё яшчэ сустракацца з насмешкамі і кпінамі ў цягніках, у магазінах, на вуліцы, калі гаворыш па-беларуску. Такі стан рэчаў трэба мяняць. І ролю апазіцыйных партый павінна адыгрываць незалежная прэса. Як некалі ў 20-ых гадах, калі беларуская прэса вельмі зорка сачыла за працэсам беларусізацыі, кляймiла і называла паімённа дырэктараў фабрык, калгасаў, устаноў, якія супраціўляліся працэсу беларусізацыі. І, наадварот, хваліла тых, хто яго падтрымліваў. І гэта была вялікая сіла.

Я не хачу сказаць, што Беларусь для нас мачыха. Змянілася і мяняецца вельмі многае. Добрае слова хочацца сказаць пра Саюз пісьменнікаў, які запрашае нас на розныя мерапрыемствы (на юбілей Скарыны, славянскае свята, на гэты Міжнародны кангрэс беларусістаў), спрыяе выданню нашых твораў.

Будуецца Беларускі музей у Гайнаўцы — дапамагаюць найперш Фонд культуры і «Радзіма».

Пачатак зроблены і пачатак вельмі высакародны. Але гэта толькі пачатак. Чакаем, паўтару, таго моманту, калі Беларусь станецца Беларуссю. А якія ж нашыя пастулаты? Перад усім такія: адкрыць у Беластоку Генеральнае беларускае консульства, шырэй адчыніць дзверы вышэйшых беларускіх навучальных устаноў для выпускнікоў беларускіх ліцэяў у Гайнаўцы і ў Бельску Падляшскім. Адкрыць праходы ў дзяржаўнай мяжы паміж Гродзеншчынай, Брэстчынай і Беласточчынай для турыстычнага і асабовага руху; прадаўжаць тое, што ўжо ёсць, у галіне дапамогі справе музея і літаратурнага беларускага руху ў Польшчы.

**Леў МІРАЧЫЦКІ. Мінск.** Трэба нагадаць, што пытанні эміграцыі ў міжваенныя гады даволі рэгулярна асвятляліся ў заходнебеларускім друку, асабліва на старонках тыднёвіка «Беларуская крыніца». Там можна знайсці матэрыялы пра беларускую эміграцыю, якая ў 20-х гадах групавалася ў чэшскай Празе вакол прадстаўніцтва БНР, а затым — Беларускай Рады і такіх згуртаванняў як Беларускае культурнае таварыства імя Францішка Скарыны і Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацыяў.

Пра духоўнае жыццё беларускай эміграцыі ў Англіі у час сустрэчы ў Інстытуце гісторыі АН БССР шмат цікавага расказаў наш госць прафесар Джым Дзінглі. Прыемна было даведацца аб дзейнасці Англа-беларускага таварыства і папулярнасці, якую набыў Беларускі музей — бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане на чале з айцом Аляксандрам Надсанам.

Мне хочацца закрануць пытанне беларускай эміграцыі ў Францыі, якое тут яшчэ не разглядалася, відаць, таму, што амаль не даследавана. А між іншым, вывучэнне дакументальных матэрыялаў магло б дапамагчы нам узнавіць праўдзівыя старонкі з гісторыі беларускай эміграцыі ў гэтай краіне, якая з часоў падзелу суседнімі імперыямі Рэчы Паспалітай паслужыла прытулкам для многіх выхадцаў з беларуска-літоўскіх земель.

Вядома ж, гэтаму драматычнаму працэсу ў тагачасным грамадстве, як слушна адзначыў гісторык Яўген Калубовіч, спрычыніліся нацыянальна-вызваленчыя паўстанні (1794, 1831 і 1863—64 гг.), а таксама напалеонаўскі паход у Расію і часова адноўленае Вялікае княства Літоўскае (1812), якія ўслед спарадзілі некалькі хваляў масавай беларускай эміграцыі на Захад. Зразумела, што гэтая эміграцыя была палітычнай.

Амаль не даследавана беларуская эміграцыя ў Францыі міжваенных гадоў, якая ў аснове сваёй адрознівалася ад папярэдніх часоў. Гэта была ўжо «аграмадная стыхія гаспадарча-творчай сілы, што разбрылася па ўсёй французскай зямлі», пісаў часопіс «Беларускі летапіс» у верасні 1938 года.

Арганізацыйны рух беларуская эміграцыя ў Францыі набывае з 1930 года, калі стараннем маладых інжынераў, якія закончылі вучобу ў Чэхаславакіі, быў заснаваны «Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі». За восем месяцаў дзейнасці было ўтворана пяць філіялаў на правінцыі, у якіх налічвалася больш трох соцень сяброў. «Беларускі летапіс» (1938, № 4—5) пра гэту падзею пісаў так: «Сувязі пашыраліся з кожным днём. Генеральная Рада была ўжо ў поўным кантакце з галоўнейшымі прамысловымі асяродкамі Францыі, як Поўнач, Эльзас-Лётарынгія з паўднёвымі шахцёрамі, прамысловым раёнам Мосэй і Мо. У Парыжы была вельмі добра наладжана культурна-асветніцкая праца (сталыя вячэрнія курсы); гатаваліся ўжо прыступіць да выдання свайго друкаванага слова».

Пазней удалося наладзіць выпуск свайго часопіса пад назвай «Рэха». У Парыжы былі арганізаваны нядзельныя курсы і бібліятэка-чытальня, якая адначасова высылала кнігі ў адрас філіяў на правінцыі. Адзначалася таксама, што ў няўдачах, якія сустракаліся на шляху арганізацыйнага руху беларускай працоўнай эміграцыі ў Францыі нямала вінавата была і беларуская грамадскасць у Краі, якая не ўдзяляла належнай увагі сваім суродзічам на чужыне.

Далейшы лёс працоўнай эміграцыі ў Францыі невядомы. Таму я, як сакратар «Круглага стала», звяртаюся да ўсіх беларусістаў звярнуць увагу на гэту акалічнасць і, магчыма, нам сумеснымі намаганнямі ўдасца адшукаць матэрыялы, якія дапамогуць стварыць праўдзівы летапіс жыццёвага шляху нашых суайчыннікаў за межамі роднай старонкі. Дарэчы, ёсць звесткі, што выхадцы з Беларусі ў міжваенныя і ў пасляваенныя гады апынуліся і ў іншых заходніх краінах, у прыватнасці, у Іспаніі, Бельгіі, Швейцарыі.

Па прыкладу ўкраіністаў і навукова-культурных цэнтраў іншых славянскіх народаў Аддзел гісторыі зарубежных сувязей Беларусі Інстытута гісторыі АН БССР сумесна з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Францішка Скарыны пачаў збор дакументаў і матэрыялаў па айчынных і замежных крыніцах аб усіх этапах развіцця беларускай эміграцыі, сучасных сацыяльна-эканамічных, духоўных працэсах у беларускай дыяспары. Мяркуецца выданне зборнікаў. Вядзецца таксама падрыхтоўка зборніка навукова-папулярных артыкулаў «За межамі Бацькаўшчыны», у якім будзе асвятляцца жыццё беларускай эміграцыі на розных кантынентах. Таму я запрашаю ўсіх, хто зацікаўлены ў падрыхтоўцы гэтых патрэбных выданняў, да плённага супрацоўніцтва.

# РОЗДУМ ПАСЛЯ КАНГРЭСА,

## ЯКІ ПАКЛАЎ ПАЧАТАК АДРАДЖЭННЯ ДУХОЎНАСЦІ, РОДНАЙ МОВЫ, ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ, ПАШЫРЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

Прайшоў яшчэ невялікі час пасля завяршэння Міжнароднага кангрэса беларусістаў, але ўжо і з гэтай адлегласці бачна, што стаў ён значнай падзеяй грамадска-культурнага і навуковага жыцця рэспублікі, важнай з'явай нацыянальнага адраджэння.

Можна, вядома, пашкадаваць, што не значна раней, а толькі цяпер сабраліся ўпершыню дзеля згуртавання сваіх сіл знаўцы і даследчыкі беларускай мовы і літаратуры, перакладчыкі і іншыя прыхільнікі беларускай культуры, бо ідэя гэтая выношвалася не адзін год як на Бацькаўшчыне, так і ў асяроддзі замежных беларусістаў. Але можна і парадавацца, што кангрэс нарэшце адбыўся, сабраў беларусістаў больш як 10 краін свету, выявіў вялікую цікавасць да сябе грамадскасці рэспублікі. Радуе і тое, што за межамі бацькаўшчыны не так ужо і мала тых, хто звязаў свой лёс з беларусістыкай, спрыяе навучанню і даследаванню мовы і літаратуры, гісторыі беларускага народа, пашырае веды пра яго культуру, перакладае творы беларускіх пісьменнікаў. І гэта пры тым, што ў рэспубліцы да апошняга часу мала што рабілася па іх падтрымцы, заахвочванню (за выключэннем, вядома, намаганняў асобных навукоўцаў-энтузіястаў).

Апошнім часам нацыянальныя згуртаванні беларусістаў створаны ў ЗША, Англіі, Польшчы, Балгарыі, іншых славянскіх краінах. Заснавана і рэспубліканская асацыяцыя беларусістаў.

Кангрэс, на маю думку, выканаў сваю галоўную мэту па аб'яднанні высакародных намаганняў гэтых сіл, заснаваўшы Міжнародную асацыяцыю беларусістаў. Дэлегаты зацвердзілі статут, абралі кіруючыя органы. І рабілася гэта з зацікаўленасцю, заклапочанасцю ўсіх удзельнікаў, шляхам грунтоўнага абмеркавання палажэнняў статута і кандыдатур членаў міжнароднага камітэта. І хаця сутыкаліся тут розныя меркаванні, прапановы, падыходы, але ўсё вырашалася на аснове ўзгаднення пазіцый, пошуку ўзаемапрымальных рашэнняў, з улікам інтарэсаў беларусаведаў розных рэгіёнаў свету. І мне думаецца, што вельмі станоўчым было рашэнне аб аўтаномнасці нацыянальных асацыяцый.

Асэнсоўваючы агульную атмасферу кангрэса, трэба сказаць, што вызначалася яна перш за ўсё тым, што гаворка ішла вакол балючых праблем — нацыянальнага адраджэння і чарнобыльскай трагедыі. Удзельнікі кангрэса жылі тымі клопатамі, што і народ. Шляхі беларускага нацыянальнага адраджэння, цяжкасці гэтага працэсу, яго перспектывы акрэсліваліся ў выступленнях першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Станіслава Шушкевіча, народнага пісьменніка, прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Васіля Быкава, дакладах старшыні камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, прафесара Ніла Гілевіча, доктара гістарычных навук Міхася Ткачова, доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана і іншых.

Гэтая тэма была адным з асноўных матываў і за круглым сталом «Беларуская дыяспара», сабраўшага шмат зацікаўленых даследчыкаў, журналістаў, прадстаўнікоў выдавецтваў. На маю думку, таму, што ўпершыню гэтая праблема абмяркоўвалася разам з замежнымі навукоўцамі, у тым ліку і з асяроддзя эміграцыі. Агульнымі намаганнямі выяўляліся шляхі і сферы супольнай працы па вывучэнню эміграцыі, актывізацыі сувязей з суродзічамі за мяжой. І цешыла тое, што не было сцяны адчужанасці, якую доўгія гады ўзводзіла каманднa-адміністрацыйная сістэма паміж народам на Бацькаўшчыне і той яго часткай, якая воляю лёсу апынулася ля «чужых берагоў». Выказваліся канкрэтныя прапановы, якія вывялі разуменне неабходнасці супольна вырашыць асобныя праблемы, у прыватнасці, па далучэнню грамадскасці рэспублікі да літаратурнай спадчыны, культурных набыткаў эміграцыі, развіццю дзелавых кантактаў. Калі рэдактар газеты «Беларус» (Нью-Йорк) Янка Запруднік выказаў прапанову аб падрыхтоўцы даведніка па беларускай эміграцыі, маючы на ўвазе перспектывы пашырэння эканамічных, культурных, навуковых і іншых кантактаў з суайчыннікамі, дык намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. Броўкі Іосіф Хаўратовіч падтрымаў гэтую ідэю і адзначыў, што такую працу пачынае выдавецтва і разлічвае на дапамогу замежных навукоўцаў. Ведаю, што вяло яно перамовы на гэты конт са старшынёй Англа-беларускага таварыства прафесарам Лонданскага універсітэта Джымам Дзінглі.

Дарэчы, добра, што ў ходзе кангрэса ўсталяваліся шматлікія кантакты з замежнымі вучонымі і з'явіўся шанц на больш дзейснае супрацоўніцтва. Хаця можна пагадзіцца з прафесарам Джымам Дзінглі, які ў размове заначыў, што чакаў большай канкрэтнасці ў дамовах і практычнага выхаду на супольную працу. І можна зразумець яго, чалавека творчага і дзелавітага. Мы, на жаль, жывём яшчэ ў другім рытме, да канца не ўсвядоміўшы згубнасці нашай марудлівасці.

Не магла не адазвацца ў даследаваннях, прамовах удзельнікаў кангрэса чарнобыльская трагедыя беларускага народа, як і ўкраінскага, рускага.

Вялікай трагедыяй абярнулася маўчанне афіцыйных органаў рэспублікі, несвоечасовы іх зварот да ўрадаў і народаў свету аб міжнароднай дапамозе ў бядзе, хоць размова павінна ісці пра выжыванне беларускага народа. І вось, калі па ініцыятыве і пры актыўных намаганнях урада і грамадскасці Беларусі, падтрыманых 122 дзяржавамі (з 159 членаў ААН), прынята Рэзалюцыя аб міжнародным супрацоўніцтве па змякчэнню і пераадоленню вынікаў аварыі на ЧАЭС і восенню збіраюцца прадстаўнікі краін-донараў для стварэння спецыяльнага фонду ААН па вырашэнню чарнобыльскіх праблем, раптам абрынулася новая хваля дэзінфармацыі.

Каму гэта спатрэбілася — атамнаму лобі ў МАГАТЭ, прыхільнікам антычалавечай 35-бэрнай канцэпцыі ў Саюзе? Ці, можа, сапраўды мы, усе жыхары Беларусі, якая аб'явіла сваю тэрыторыю зонай нацыянальнага бедства, сталі ўдзельнікамі жудаснага эксперыменту па вывучэнню ўздзеяння радыяцыі на чалавека і прыроду, каб пасля гэты вопыт выкарыстаць? І як перасцярога нам усім прагучалі на заключным пасяджэнні кангрэса высновы незалежнага даследчыка Артура Ляўковіча (Мінск) аб шкоднасці сістэматычных малых доз абпраменьвання, пагрозе генетычнаму фонду нацыі. Вельмі хочацца спадзявацца, што замежныя беларусісты, прыхільнікі Бацькаўшчыны панясуць па свеце слова праўды аб выніках чарнобыльскай катастрофы. І нельга не пагадзіцца з думкай, якую выказаў на кангрэсе прэзідэнт міжнароднай асацыяцыі Адам Мальдзіс, што чарнобыльская трагедыя народа — гэта таксама беларусістыка.

Магчыма іншыя ўдзельнікі, як і я, адчулі нязвыклую атмасферу кангрэса, якая спалучала дзелавітасць і ўрачыстасць, узнёсласць ад нетрадыцыйных вітальных слоў дзяржаўных дзеячаў рэспублікі, паважаных пісьменнікаў і замежных гасцей, выступленняў нацыянальных фальклорных калектываў, святкавання Дня беларускага пісьменства ля помніка Максіму Багдановічу. І расла надзея, што агульнымі намаганнямі можна шмат зрабіць дзеля адраджэння духоўнасці, роднай мовы, гістарычнай памяці, пашырэння нацыянальнай свядомасці.

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў пачала сваё існаванне. І хочацца пажадаць добрага плёну ў працы на карысць нашай Бацькаўшчыны ўсім членам, паўнамоцным прадстаўнікам Беларусі ў свеце.

**Галіна СЯРГЕЕВА,**
**кандыдат гістарычных навук, удзельніца кангрэса.**

### ЛІСТ З ЗАМЕЖНЫМ ШТЭМПЕЛЕМ

**Перада мной — дзевяты нумар часопіса «Беларусь» за 1990 год. Цікавы часопіс! Мне рэдка трапляюць у рукі беларускія часопісы і газеты. І мала пішуць у нас пра Беларусь.**

**Вельмі цікавы артыкул пра беларуска-літоўскія адносіны. Я быў у Літве двойчы за апошнія гады і даволі добра ведаю, як і што яны думаюць. Мне ўсё ж было крыху дзіўна тое, што яны не прызнаюць свой савецкі час, але прызнаюць савецкія граніцы.**

**Цікава таксама, што друкуецца «Апакаліпсіс». Вельмі добра разумею, чаму. У гэты вельмі хаатычны час апакаліптычныя пачуцці нараджаюцца, напэўна, у кожнага савецкага чалавека. Канец стагоддзя, можа, таксама ўплывае на гэтыя пачуцці. У канцы мінулага стагоддзя былі такія ж тэндэнцыі.**

**Чытаю беларускія тэксты даволі свабодна, хаця, шчыра кажучы, беларуская арфаграфія мне ў нейкай меры замінае. Яна напэўна добрая для беларусаў, таму што яна — фанетычная, але яна ўскладняе чытанне для іншых славян і для такіх славістаў, як я. І гэта выклікае шкадаванне, таму што сапраўдная беларуская мова — і прыгожая, і гучная.**

**І беларуская літаратура цікавая.**

**Калі гавару пра сапраўдную беларускую мову, то не маю на ўвазе той сумесі беларускай і рускай моў, якая звычайна чуецца на вашых вуліцах.**

**Яшчэ раз дзякуй за часопіс.**

**З павагай**

**Свен ГУСТАЎСАН,**
**прафесар славянскіх моў, пры універсітэце ва Упсале, Швецыя.**

# «ЗЛАТОУСТ, ПАЧЕ ВСЕХ ВОССИЯВШИЙ НАМ НА РУСИ...»

Папера — нетрывалы матэрыял. Яна баіцца і сонечных промняў, і вільгаці, і мышыных зубоў, але асабліва — агню. У часы войнаў, паўстанняў, навадненняў і пажараў гінулі не толькі людзі, дамы, храмы, але і кнігі. Колькі іх згарэла? Колькі знішчана барацьбітамі з рэлігіяй і абыякавымі ўладальнікамі? Колькі імёнаў творцаў і мысліцеляў патанула ў забыцці?

У XII стагоддзі старажытнаруская дзяржава перажывала перыяд феадальнага драблення. Адным з найбольш моцных княстваў было Турава-Пінскае, што і па развіццю рамёстваў і па ўзроўню адукацыі сапернічала нават з Кіевам. Сведчаць за гэта знойдзеныя ў час археалагічных раскопак пісалы (металічныя або касцяныя завостраныя палачкі для пісьма), кніжныя зашчэпкі і цэлая калекцыя бытавых прадметаў з надпісамі. Больш таго, у шасцідзесятых гадах мінулага стагоддзя ў Тураве было знойдзена Евангелле, якое датуецца XI стагоддзем. Яно, атрымаўшы ў далейшым назву Тураўскага Евангелля, уяўляе сабой дзесяць аркушаў пергаменту, аформленых з мастацкім густам.

У стольным горадзе княства Тураве з'явіўся на свет хлопчык Кірыла, які стане вядомы стагоддзям як Кірыла Тураўскі. Ён атрымаў выдатную па тых часах адукацыю, выявіўшы з дзяцінства здольнасці да навук, «...паче все прилежаще божии книги учению, и добре извыче божественные писания».

Большасць даследчыкаў творчасці Кірылы Тураўскага лічыць, што яго настаўнікамі былі хутчэй за ўсё візантыйцы: уплыў светапоглядаў візантыйцаў і іх літаратуры ў яго творах адчуваецца вялікі.

Юнаком Кірыла пастрыгся ў манахі (тут жа, у Тураве). У «Житии Кирилла...», афіцыйнай царкоўнай біяграфіі, найбольш стары з вядомых зараз варыянтаў якога адносіцца да XV стагоддзя, падкрэсліваецца цвёрдасць, нават апантанасць яго ў веры. Хоць, думаецца, у манастыры Кірыла апынуўся не толькі з-за жадання служыць Богу: на той час толькі такім чынам, праз манастыр, праз царкоўную дзейнасць, мог ён завяршыць адукацыю, развіць свой талент і паслужыць справе асветніцтва роднага народа. Больш таго, прабыў там нядоўга і неўзабаве выказаў жаданне стаць «стоўпнікам» — замуравацца ў адной з манастырскіх веж. Зрабіў гэта не з рэлігійнага фанатызму, а каб павышаць свае веды і займацца выключна літаратурнай дзейнасцю. На гэту думку наводзіць той факт, што Кірыла перанёс у вежу ўсю сваю бібліятэку. «Стоўпніцтва» давала яму магчымасць для духоўных разваг і пісанняў. Менавіта ў вежы з'явіліся першыя яго творы. Сярод іх — «Сказание о черноризчестем чину от ветхого закона и нового» і «Поучение к печерскому игумену Василию».

Яго аскетызм, прапаведніцкая і літаратурная дзейнасць выклікалі вялікую павагу. І калі памёр стары ўладыка Тураўскага епіскапства, то па волі князя і гараджан і з яго згоды Кірыла быў прызначаны на гэту пасаду: «...и славен бысть по всей стране той, и умолением князя и людей града того возведен был на стол епископский».

Кірыла Тураўскі (як з гэтага часу пачалі яго называць) праславіўся як выдатны майстар гэтак званага «ўрачыстага царкоўнага красамоўства», як прапаведнік, які горача клапаціўся пра духоўную дасканаласць суайчыннікаў (адпаведна этычным і эстэтычным ідэалам свайго часу). Арыгінальны, выключнай вобразна-выяўленчай сілы літаратурны дар Кірылы Тураўскага найбольш выявіўся ў «Словах» — казаннях, у якіх ён звычайна даваў тлумачэнне хрысціянскіх свят, пытанняў веры, біблейскіх тэкстаў. Але звязаныя з біблейскай пропаведдзю хрысціянскіх дагматаў «Словы» вызначаліся бязмежнай фантазіяй аўтара, харастивом і велічнасцю вобразаў, пададзеных у жывой драматычнай форме і надзеленых багатай паэтычнай сімволікай. Так, у «Слове в новую неделю на пасце» Кірыла прапаноўвае вясновае абнаўленне прыроды з уваскрэсеннем Хрыста. «Ныне, — гаворыцца ў гэтым творы, — солнце красуяся к высоте въсходить и радуяся землю отогреваеть, — взиде бо нам от гроба праведное солнце Христос и вся верующая ему съпасаеть. Днесь весна красуется, оживляющи земное естьство, и бурьнии ветры тихо повевающе плоды гобъзують (множацъ. — **М. Б.**), и земля семена питающи, зеленую траву рожаеть. Весна убо красная есть вера Христова».

Усе творы Тураўскага насычаны алегорыямі, сільвічнымі паралелямі, метафарамі і часта нагадваюць вершы ў прозе. Яшчэ больш падкрэслівае іх паэтычнасць, своеасаблівую напеўнасць надзвычай мілагучная царкоўнаславянская мова, якой яны напісаны.



Чалавек у творах Кірылы Тураўскага — найвышэйшая каштоўнасць: Бог прыходзіць на зямлю дзеля чалавека і прыносіць сябе ў ахвяру дзеля яго выратавання.

Аналіз творчасці нашага земляка сведчыць, што, адчуваючы сябе жыхаром старажытнай Русі, ён, тым не менш, быў вялікім патрыётам роднага горада. У «Слове о съняатии тела Христа с креста, и о мироносицах» ён гаворыць: «...буди покръв граду нашему от всякого зла, и заступая его от всех видимых и невидимых враг...»

Літаратурная спадчына, якая засталася пасля Кірылы Тураўскага, надзвычай вялікая. Вядомы восем святочных «Слов» («Слово на вербницу», «Слово на вьликдень» і інш.), шэсць павучанняў і прытчаў, два каноны, каля трыццаці малітваў-споведзяў. Распрацоўваючы ў асноўным царкоўна-рэлігійныя тэмы, у некаторых творах асветнік закранаў і надзённыя (для яго часу) маральна-этычныя праблемы, важныя пытанні грамадска-палітычнага жыцця старажытнай Русі. Так ён выступіў з вялікім асуджэннем дзеянняў растоўскага епіскапа Феадорца, які спрабаваў з дапамогай уладзіміра-суздальскага князя Андрэя Багалюбскага расколоць Рускую праваслаўную царкву, утварыўшы аўтакефалію (самастойную царкву). Кірыла піша рэзкую, падобную па стылю на сучасны памфлет, «Притчу про душу и тело». Лічачы, што гэтага мала, ён адпраўляе ў дадатак некалькі пасланняў князю.

Творы Кірылы Тураўскага ўвайшлі ў залаты фонд старажытнарускай літаратуры. Яны перапісваліся ад рукі ажно да XIX стагоддзя, у XIV—XV стагоддзях частка з іх была ўключана ў «Златоуст» і «Торжественник» — своеасаблівыя зборнікі-анталогіі лепшых узораў казанняў класікаў, грэка-візантыйскіх майстроў красамоўства, твораў Іаана Златавуста і іншых хрысціянскіх пісьменнікаў.

Атрымалі вядомасць творы нашага земляка і за мяжой. Адзін з лепшых знаўцаў славянскай літаратуры М. Максімаў адзначаў у мінулым стагоддзі, што ў заходнееўрапейскіх народаў XI—XII стагоддзяў не было нічога, што пераўзыходзіла б па сваіх вартасцях «Повесть временных лет», «Словы» Кірылы Тураўскага і «Слово о полку Игореве». Шмат хто з сучасных вучоных таксама ставяць Кірылу Тураўскага ў адзін шэраг з безыменным стваральнікам «Слова о полку Игореве», а пісьменнік Б. І. Зотаў у артыкуле «Кто он — автор «Слова о полку Игореве», змешчаным у першым нумары часопіса «Вопросы истории» за 1989 год, упэўнены, што аўтар гэтага геніяльнага твора — Кірыла. Для праверкі сваёй думкі ён прапаноўвае правесці даследаванне з дапамогай ЭВМ.

Які б адказ у будучым ні дала машына, у любым выпадку гэта гіпотэза з'яўляецца яшчэ адным пацвярджэннем таго, што мы маем права лічыць Кірылу Тураўскага першым пісьменнікам еўрапейскага (а для таго часу — і сусветнага) ўзроўню, які жыў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Нездарма нашы далёкія продкі называлі яго «Златоуст», паче всех воссиявший нам на Руси».

**Мікола БАГАДЗЯЖ,**
**гісторык.**

Прывабная дзяўчынка ў летняй паname чытала пад каляднай елкай невялікі вершык: «Говорят, под Новый год всё всегда сбывается...». А маці побач нягучна варушыла вуснамі, быццам паўтарала заклінанне: збывaецца!.. Здагадацца зусім няцяжка, аб чым марылі яны, ненадоўга змяніўшы бальнічныя піжамы на касцюмы сняжынак і зайчыкаў: каб не летнюю панаму, а які бант начапіць на валасы, яшчэ не адрослыя, каб побач з елкай, у каляровай мішуры не стаяла напагатове капельніца, каб насуперак бязлітаснай статыстыцы недзіцячага іх дыягназу засталіся жывымі ўсе дзеці.

Калядная елка, пра якую ўспомніла зараз, стаяла ў аддзяленні дзіцячай гематалогіі першай клінічнай бальніцы Мінска — тым самым, да якога паўтара года назад прыцягнуў увагу ўсёй краіны рэпартаж у тэлепраграме «Взгляд». Хто бачыў і помніць, аб чым расказалі ў той перадачы Аляксандру ПалітКоўскаму бацькі і ўрачы, той, канечне, разумее, як ні жорстка, як ні балюча з гэтым згаджацца, што елка для некага з маленькіх пацыентаў можа стаць апошняй у жыцці: медыцына, на жаль, не ўсемагутная...

Разам з маленькімі пацыентамі пад елкай вадзілі карагоды госці з аўстрыйскай дабрачыннай арганізацыі «Хільфсверк» і нямецкія медыкі з універсітэцкай клінікі горада Франкфурта-на-Майне — можна сказаць, свае людзі ў гематалагічным цэнтры. Цяпер у цэнтра шмат сяброў-памочнікаў і ў рэспубліцы, і ва ўсім свеце, без якіх, напэўна, не ўдалося б яму ўвайсці ў тую пару аптымістычнага рэнесансу, які перажывае цяпер.

Але перш чым расказаць пра гэта, прыгадаем, з чым сустракала дзіцячая гематалагічная служба рэспублікі, ды і ўсёй краіны, выбуховую хвалю Чарнобыля: вельмі слабая лячэбна-дыягнастычная база, кадравы дэфіцыт, цеснята і ўбогасць бальнічных памяшканняў... Рукі не даходзілі ці адыграла сваю ролю статыстыка рэдкіх дыягназаў — толькі ці лягчэй было маці ад таго, што яе дзіцяці, ці яшчэ двум-тром са ста тысяч, кімсьці зверху было прадпісана захварэць вострым лейкозам. Няхай ён будзе адзін з мільёнаў, маці пойдзе на ўсё, каб выратаваць яму жыццё і ніколі не змірыцца з бяссіллем нашай медыцыны, якая абяцае ўсяго 10—15 працэнтаў надзеі.

Амерыканскі гематолаг Роберт Гейл, адзін з вядучых спецыялістаў у свеце па перасадцы коснага мозгу, стаў шырока вядомы ў нас з-за сваёй гучнай заявы ў 1986 годзе: праз пяць — сем гадоў, сцвярджаў ён, пачнецца рэзкі рост захворвання крыві. Пакуль ёсць час, трэба развіваць і абсталёўваць па сусветных стандартах гематалагічную службу, асвойваць перасадку коснага мозгу, у чым ён асабіста гатовы ва ўсім дапамагчы.

Магчыма, зарана Гейл выступіў і яго прагнозы былі тады занадта аптымістычнымі, а магчыма, ад вялікай нашай беднасці, якая не дазволіла адразу прыступіць да дарагой акцыі, але параду заакіянскага калегі спярша асудзілі, успомнілі толькі гады праз тры.

Наогул, Беларускі НДІ гематалогіі службу перасадкі крыві пачаў фарміраваць, біўся над ідэяй стварэння новага магутнага навукова-клінічнага комплексу,— але і па сёння вельмі туга вырашаюцца бясконцыя праблемы з валютай, абсталяваннем, будаўніцтвам.

Маленькае, богам забытае, са слоў персаналу, звычайнае аддзяленне першай бальніцы Мінска не стала чакаць, пакуль ад галаўной у рэспубліцы ўстановы дойдзе чарга і да яго. Да таго ж урачы ведалі, што перасадка коснага мозгу, на якую рабіла стаўку дарослая гематалогія, у педыятрыі сусветная медыцына лічыць аперацыяй адчаю і прапаноўвае ўзамен іншы, больш прымальны спосаб лячэння. Гэты спосаб лічыцца агрэсіўнай хіміятэрапіяй, перанесці якую маленькаму арганізму складана. Але сусветная практыка ўжо ведае эфект: скарачаючы тэрмін лячэння да 2—2,5 гадоў, метад прыносіць да 80 працэнтаў поспеху!

Так званыя пратаколы БФМ былі распрацаваны нямецкімі вучонымі, прызнанымі лідэрамі ў свеце па дзіцячай гематалогіі. Да іх у 1989 годзе паехала на вучобу кіраўнік аддзялення першай мінскай бальніцы Вольга Вітальеўна Алейнікава. Яна была перакanaна, што вопыт, па які едзе,— адзіны шлях выратавання большасці яе пацыентаў. Але з сабой везла ў Германію трох цяжкахворых дзяцей — разумела, што яны не дачакаюцца, пакуль вернецца доктар. Дзеці загінулі, ледзь толькі паспелі паступіць у клініку франкфурцкага універсітэта. Але кароткае іх жыццё запаліла агонь спачування і дапамогі ў сэрцах нямецкіх медыкаў і шырокай грамадскасці.

У Германіі быў створаны фонд, які атрымаў доўгую, але па-нямецку дакладную назву: «Дапамога беларускім дзецям, якія захварэлі ракам пасля Чарнобыля». Зборам сродкаў для аддзялення Алейнікавай занялася ў Аўстрыі і самая масавая дабрачынная арганізацыя «Хільфсверк». Уся Еўропа глядзела па венскім канале тэлемарафон, у якім Алейнікава заклікала людзей: «Дапамажыце нам, каб не было патрэбы везці ў Еўропу хворых дзяцей, рызыкуючы спазніцца!..»

Яна прывезла дадому медыцынскія прэпараты, пратаколы, абсталяванне — усё неабходнае, каб пачаць лячыць у аддзяленні па-новаму. Першы груз з іншаземнымі наклейкамі праклаў з Еўропы маршрут для рэгулярнага паступлення гуманітарнай дапамогі.

Вось тут, магчыма, варта прыпыніць хроніку падзей і асэнсаваць некаторыя моманты.

Пасля Чарнобыля мы не адразу насмеліліся пакланіцца ўсяму свету нізка ў пояс і сказаць: «Дапамажыце!» А сказалі, яшчэ не разабраўшыся як след, чаго канкрэтна жадаем. Калі пайшлі эшалоны гуманітарнага грузу, не заўсёды па-гаспадарску распараджаліся ім і часам зусім не па-людску вялі сябе — забываліся пра «дзякуй» і не дзялілі па справядлівасці. І прэзідэнцкі ўказ часам не меў сілы загаду.

У аддзяленне Алейнікавай, паўтараю, дапамогі паступае шмат, але адрасная і мэтавая, яна актыўна працуе на доўгатэрміновую праграму. Пад яе і прасілі, дзеля яе ездзілі за мяжу, запрашалі калег да сябе.

Праграма гэта нараджалася не ў міністэрскіх кабінетах і з самага пачатку трымалася не так на адміністрацыйна-ўпраўленчым апекаванні, як на прафесійна-грамадскім энтузіязме. Я зусім не жадаю, каб нехта ўлавіў у гэтых словах папрок у адрас медыцынскага кіраўніцтва рэспублікі, якое імкнецца зламаць былыя адносіны грамадства да аховы нацыі наогул і да медыцыны ў прыватнасці. Страхавая медыцына, на парозе якой стаім, і дапускае такую вось самастойнасць і ініцыятыву радавых урачоў, кіраўнікоў аддзяленняў, бальніц і паліклінік. А дзейсны клопат аб здароўі ўсіх і кожнага — нормы жыцця грамадства. У гэтым кантэксце медыцынскую дапамогу з усяго свету я асабіста расцэньваю не як падачку «пагарэльцу», а як натуральную рэакцыю людзей, якія даўно жывуць з разуменнем: у цывілізаваным свеце кожны мае права быць здаровым і тут усе за ўсіх у адказе.

У распрацоўцы маштабнай праграмы адраджэння дзіцячай гематалагічнай службы рэспублікі вялікі ўдзел прынялі ўрачы з Франкфурта-на-Майне. Намеснік загадчыка дзіцячага гематалагічнага аддзялення універсітэцкай клінікі Валянцін Герайн прыехаў у Беларусь адразу пасля аварыі на ЧАЭС. Родам ён з Казахстана, скончыў Карагандзінскі медінстытут, і, мяркую, бяда наша яму стала блізкай таму, што абудзіла даўняе рэха трывогі за здароўе землякоў, якія жывуць паблізу сяміпалацінскіх стэпавых палігонаў. Доктар Герайн меў дачыненне да ўкаранення пратаколаў БФМ у педыятрычную практыку Германіі і разумеў, што яго вопыт патрэбен у чарнобыльскім рэгіёне.

Праграма ўключае тры этапы. Першы, пад назвай «Хуткая дапамога», у асноўным ужо завершаны. Мінскія гематолагі першыя ў краіне, усяго за паўгода, укаранілі ў практыку пратаколы БФМ. Прычым этап «Хуткай дапамогі» фактычна выключаў узнікненне непрадбачных перашкод. Сям'ёра ўрачоў прайшлі стажыроўку ў лепшых клініках Захаду. У аддзяленні была створана і абсталявана па высокаму класу палата інтэнсіўнай тэрапіі — свая рэанімацыя. Адпрацавана сістэма адбору складаных, нетыповых хворых для лячэння за мяжой. І вельмі важна — еўрапейскія метады лячэння былі адаптаваны да мясцовых умоў, што дазволіла замяніць шэраг імпартных прэпаратаў айчыннымі. Таму новы метад лячэння мог распаўсюджвацца па рэспубліцы і ўсім Саюзе.

Этап «Хуткай дапамогі» ўсяліў тую рэальную надзею, якая рэзка змяніла настрой персаналу і бацькоў — цяжкі дыягназ ужо не азначаў фатальнай безвыходнасці. А калядная елка, з якой я пачала артыкул, была сведкай псіхалагічнага пералому, пасля чаго адкрылася другое дыханне, з'явілася вера, што любыя задачы, нават больш складаныя, пад сілу.

Цяпер на чарзе рэалізацыя другога этапу — будаўніцтва і аснашчэнне новага Цэнтра. Яго будынак пакуль у задумах архітэктара, але можна ўжо ўявіць, што там будзе. Стацыянар на 150 ложкаў, свая паліклініка, пансіянат для бацькоў... Як ва ўсім свеце, нарэшце пад адным дахам будуць дзейнічаць дзве роднасныя службы для дзяцей — анкалогія і гематалогія. Але ўсё гэта ў будучым, а сёння радавое аддзяленне на 60 ложкаў спазнае тое, што нядаўна перанеслі клінікі Еўропы. Калі ў Савецкім Саюзе даведаліся, што тут могуць выратоўваць безнадзейных хворых, пошта панесл[illegible] допісы з просьбай прыняць дзяцей на лячэнн[illegible]. Пісьмаў такіх па-ранейшаму шмат, але адрас новы: г. Мінск, Алейнікавай.

Тут такое прадбачылі. І загадзя знайшлі магчымасць дапамагчы. Сёлета ў красавіку праходзіў першы (але не апошні) міжнародны сімпозіум дзіцячых гематолагаў, які быў прысвечаны праблеме вострых лейкозаў. Каля 30 вядучых вучоных Захаду расказалі аб дасягнутым і аб найноўшых перспектыўных распрацоўках па тэме. Аб сваім першым вопыце паведамілі і мінчане, зрабіўшы акцэнт на «дробязях», якія ў айчыннай практыцы здольны вырасці ў вялікія праблемы. На сімпозіум запрасілі калег з усёй краіны — небывалая адбылася сустрэча, гэта факт — усе, з кім пазнаёмілася тут, гаварылі аб адным: упершыню ў жыцці дзіцячыя гематолагі сабраліся разам на прафесійную вучобу.

— Чарнобыль штурхнуў на нас вялізны айсберг праблем,— сказаў на тым сімпозіуме Валянцін Герайн,— і мы яшчэ не ведаем, якія памеры яго «падводнай» часткі.

Сёння, дзякуй Богу, змрочныя прагнозы Гейла пакуль не пацвердзіліся — ва ўсяляк[illegible] выпадку афіцыйная статыстыка не рэгістр[illegible] ў нас перавышэнне сярэднееўрапейскага ўзро[illegible]ню анкагематалагічных захворванняў.

Хаця, па заключэнню галоўнага гематолага краіны прафесара А. Г. Румянцава, у нас ужо сёння назіраецца тэндэнцыя да амаладжэння дыягназу і да больш агрэсіўных пухлінных форм.

У сувязі з гэтым стварэнне якасна новай дзіцячай анкагематалогіі ў рэспубліцы цяжка пераацаніць — тут інакш не скажаш: гэта быў грамадзянскі подзвіг урачоў аддзялення. Іх, дарэчы, зусім нямнога. І ўсе яны маладыя — Людміла Волкава, Аляксандр Дакучаеў, Ігар Дунаеў і іншыя. А Вольга Вітальеўна Алейнікава ўзначаліла аддзяленне ўсяго чатыры гады назад. Магчыма, таму і ўдалося ім зрушыць гару, што дзейнічалі яны не так, як прывучала старэйшае пакаленне, адміністрацыйна-камандная сістэма. Укараненне ў Мінску еўрапейскага вопыту нехта назваў партызаншчынай: гэтаму не папярэднічалі, як прынята, ні клінічныя выпрабаванні, ні рашэнні калегіі Міні-

# НАДЗЕЯ БЕЗ

стэрства аховы здароўя. Марнаваць на гэта час Алейнікава палічыла недаравальнай раскошай, ну а пераможцаў, як вядома, не судзяць.

У аддзяленні перакананы: калі пасіўна чакаць, ніколі не дагнаць іх службе патрэбнага ўзроўню. За сродкамі на будаўніцтва новага Цэнтра яны вырашылі «існі ў людзі». Нядаўна пры аддзяленні створан спецыяльны дзіцячы Фонд, які ўзначаліла энергічны і ўпарты чалавек Роза Андрэеўна Белазёрава, яшчэ нядаўна намеснік галоўнага ўрача бальніцы. Гэта не было позай: паважаная жанчына да зямлі пакланілася аўстрыйскім гасцям. На адкрыцці сімпозіума віцэ-канцлер Аўстрыі пан Рыдлер перадаў на стварэнне Цэнтра паўтара мільёна шылінгаў, сабраных «Хільфсверкам». І яшчэ паўмільёна савецкіх рублёў было на рахунку Фонду праз месяц яго дзеяння. Асацыяцыя «Інтэрінформ»— галоўны спонсар Фонду, прадаставіла яму свае права юрыдычнай асобы і інвалютны рахунак.

І яшчэ аб адной арганізацыі трэба расказаць, інакш партрэт аддзялення не будзе поўным. Паўгода назад тут была створана бацькоўская асацыяцыя «Дзеці ў бядзе». Яе арганізатары — рабочыя ВА «Гарызонт» Сяргей Еўлаш, медсястра Таццяна Алёшына, журналіст Ганна Кірылава, партыйны работнік Уладзімір Арцямкоў — цяпер ужо не замыкаюцца кожны на сваёй бядзе. Гэта безвыходнасць раз'ядноўвае людзей, а надзея, наадварот, кліча да агульнага дзеяння. Ідэя такога фарміравання бацькоў не новая. У іншых краінах падобнае прыжылося даўно. Вольга Алейнікава, набыўшы на стажыроўцы вопыт, пайшла на тое, на што адважыцца не кожны медыцынскі адміністратар.

У дзіцячых аддзяленнях нашых бальніц, добра ўсім вядома, бацькі ўрачам — заўсёды перашкода. Нервуюцца, цягаюць з вуліцы смецце, не ў час кормяць дзяцей, як папала, ды яшчэ — ну трэба ж!— вучаць доктара, чым і як лячыць. А ў аддзяленні ў Вольгі Алейнікавай усё інакш. Малышы тут ляжаць па паўгода і болей. І пастаянна побач з імі мамы. Канечне, гэта дадатковыя нязручнасці: на ноч даставаць з шафаў раскладушкі, раніцай ісці ў куханьку, дзе спецыяльна для мам усталявалі пліту і шафу для посуду.

Але ж урачы і бацькі цяпер — супольнікі, яны разам змагаюцца за выратаванне маленькіх пацыентаў. Схему лячэння ўрач піша ў двух экземплярах — для сябе і для маці. Приступаючы да доўгага і цяжкага курса, адразу падрабязна раскажа бацькам, праз якое выпрабаванне трэба прайсці.

Асацыяцыя «Дзеці ў бядзе» наважылася дабівацца рашэння праблем, якія да іх не падымаў ніхто: як даглядаць дзіця ў бальніцы доўгі час, каб не прыпыняць працоўны стаж і каб не пацярпеў сямейны бюджэт. Як дабіцца чыстага, паўнацэннага і разнастайнага харчавання, якое пры гэтым дыягназе важна не менш чым само лячэнне. Як бацькам і медперсаналу абысціся без канфліктаў — тут дарослым патрэбны моцныя нервы, а яны, як вядома, ёсць не ў кожнага.

Новая методыка лячэння, хуткае будаўніцтва добра абсталяванага Цэнтра, стварэнне спецыяльнага дзіцячага Фонду, нарэшце, асацыяцыя бацькоў — усё гэта за нейкі год-паўтара здолеў стварыць невялікі калектыў аднаго аддзялення, зрабіўшы, па сутнасці, рэвалюцыю ў дзіцячай гематалогіі рэспублікі. Згадзіцеся, у іх ёсць чаму павучыцца. Ім ёсць за што сказаць вялікі дзякуй і дапамагаць яшчэ і яшчэ. Але давайце ўспомнім і пра іншае: дзіцячая анкалогія, эндакрыналогія, кардыялогія і хірургія — шматлікія вузкаспецыялізаваныя службы ў педыятрыі літаральна жывуць у галечы. І з кожным днём усё мацней адстаюць ад прагрэсу ў сусветнай навуцы і практыцы. Дык дакуль жа мы будзем адпраўляць сваіх дзяцей за мяжу на лячэнне?

**Вольга СВЕРКУНОВА,**
**уласны карэспандэнт**
**«Медицинской газеты» па Беларусі.**





# ЦУДАЎ,

АБО ПРА ТОЕ,
ЯК У РЭСПУБЛІЦЫ АДБЫЛАСЯ,
ПА СУТНАСЦІ, РЭВАЛЮЦЫЯ
Ў ДЗІЦЯЧАЙ ГЕМАТАЛОГІІ



# ЯКАЯ ДАРОГА ВЯДЗЕ ДА ХРАМА?

Дарога да Храма ў кожнага свая. Свецкія імёны — Васіль, Павел, Андрэй — засталіся за манастырскай брамай. Яны ўжо не вымаўляюцца тут. Браты па веры, прыняўшы пострыг, звяртаюцца адзін да аднаго: айцец Філарэт, айцец Парфіній, айцец Стэфан... У Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр іх прывяло жаданне прысвяціць сваё жыццё служэнню Богу і людзям, паказаць іншым вышэйшыя царкоўныя ідэалы.

Прычыны адыходу ад свецкага жыцця, пераўтварэнні асабістага ўнутранага свету наўрад ці пад сілу спасцігнуць тым, хто існуе па-за сценамі святога прыстанішча. Айцец Барыс тлумачыць, што свецкія справы перашкаджалі яму пайсці на духоўны подзвіг, рассейвалі ўвагу, і толькі ў манастыры яго рэлігійныя перакананні задаволены поўнасцю: ён ведае, у імя чаго маліцца, пасціць, даваць зарокі, і гэта дадае сілы, натхнення, жадання несці крыж за чалавецтва, за таго, у каго не хапае ні сілы, ні волі, хто не здольны выратавацца сам...

Айцу Філарэту аднойчы з'явілася Багародзіца, якая наказала ўсю маёмасць раздаць бедным. Ён так і зрабіў: раздзяліў паміж людзьмі жывёлу, інвентар, іншы набытак, а сам пайшоў у манастыр.

— Цяпер не кожны ў манахі пойдзе,— гаворыць ён.— Людзі ў свеце жыць не ўмеюць, не тое, што зарокі і дысцыпліну ў манастыры трымаць.

Айцец Парфіній перакананы: падрыхтаваць чалавека да манаскага жыцця нельга. Толькі ўнутраная патрэба ў веры асвятляе яму гэты шлях.

Узрост насельнікаў Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра розны: ёсць дваццаціпяцігадовыя, ёсць тыя, каму за 80... Самы старэйшы манах прыйшоў сюды сорак гадоў назад.

Лад жыцця ў братоў па веры строгі і дакладна арганізаваны. Патрабаванні і правілы, заведзеныя тут, хаця і зразумелыя, але цяжка прымальныя ў звычайным жыцці. Манахам нельга есці мяса,— і яны харчуюцца раслінным ежай, рыбай, яйкамі, малаком. Яны не глядзяць тэлевізар,— гэта адрывае










ад работы, мала спяць, шмат моляцца, шмат працуюць.

Згодна з распарадкам дня ў сем гадзін раніцы — малітва, усе збіраюцца ў Храме. Пасля службы кожны займаецца работай, якая яму вызначана. Па абедзе — зноў праца, падрыхтоўка да службы, якая пачынаецца ў 18 гадзін і можа працягвацца ў залежнасці ад дня свята да чатырох гадзін.

Самая галоўная рыса манастырскага жыцця — праца. Яна абавязковая для ўсіх, сваё паслушэнства нясе кожны. Любая работа выконваецца надзвычай добрасумленна: ніякай паспешлівасці, ва ўсім дыхтоўнасць. І вынікі адпаведныя: выдатна дагледжаная гаспадарка, чысціня і парадак у манастырскім комплексе.

Нельга сказаць, што манахі поўнасцю адарваны ад знешняга свету. Іх наведваюць сваякі, якім дазваляецца заначаваць — нават, калі хто пажадае, у келлі. Тут дарэчы было б згадаць падлетка — пляменніка ігумена Барыса Міколку, які часта праводзіць канікулы ў Жыровічах, спіць на раскладушцы ў дзядзькавай келлі і якому, па яго ных жа словах, жыццё ў манастыры зусім не перашкаджае яго свецкім захапленням. Ён ходзіць з фотаапаратам па манастырскаму дворыку, фатаграфуе яго насельнікаў, яго архітэктуру...

Сёння Свята-Успенскі манастыр жыве на сродкі ад продажу крыжыкаў, абразкоў, іконак, на тое, што атрымліваюць ад службы, на ахвяраванні людзей. А шмат гадоў назад...

Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр заснаваны ў 1470 годзе з нагоды з'яўлення іконы Жыровіцкай Боскай маці, калі верыць легендзе, знойдзенай пастухамі ў лесе. На месцы знаходкі і выраслі манастырскія сцены. І ікона дагэтуль знаходзіцца ў манастыры. Толькі аднойчы пакідала яна святыя сцены. У час першай сусветнай вайны рэліквію і іншыя манастырскія каштоўнасці вывезлі ў Маскву. Ікону выставілі на Краснай плошчы, і ў яе гонар адбыўся малебен. Нейкі час пасля ікона захоўвалася ў храме Васілія Блажэннага, у Жыровічы вярнулася ў 1920 годзе. Але вярнулася толькі ікона. Астатні скарб згубіўся: архіў, бібліятэка, у якой налічвалася 30 тысяч тамоў... Тры гады назад у адной з ленінградскіх бібліятэк вучоныя знайшлі некалькі кніг з паметкаю Жыровіцкага манастыра. Як яны там апынуліся, ніхто не ведае.

Амаль за 500 гадоў свайго існавання Жыровіцкі манастыр ніколі не закрываўся. А вось маёмасць яго змяншалася. Яшчэ 35 гадоў назад манастырскай гаспадарцы належалі 40 гектараў зямлі, жывёла. Потым застаўся адзін конь, невялікі лапік зямлі...

Цяпер многае мяняецца. Іншы грамадскі погляд на царкву закрануў і інтарэсы Жыровіцкага манастыра. Яму вяртаецца зямля. У будынку Слонімскага саўгаса-тэхнікума, які, дарэчы, размяшчаўся на манастырскіх плошчах, цяпер адкрыта духоўная семінарыя.

Дарога да Храма ў кожнага свая...

Дарога да Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II ператварылася ў жывы калідор з людзей і кветак. Гэтая шматколерная цырымонія сустрэчы Патрыярха завяршылася Боскай Літургіяй у Свята-Успенскім саборы, у часе якой Алексій II здзейсніў Хіратонію (рукапалажэнне) архімандрыта Канстанціна ў епіскапа Навагрудскага.

З нагоды вялікага свята 16 чэрвеня Жыровіцкі манастыр расчыніў свае дзверы перад тысячамі паломнікаў з усіх куткоў Гродзеншчыны, Брэстчыны і Міншчыны, сціпла паказваючы цікаўным аскетычны побыт сваіх насельнікаў.

Доўгі час «ідэалагічныя пастары» імкнуліся выхоўваць народ так, каб ён нават не згадваў пра дарогу, якая вяла да Храма. Доўгі час абыходзілі гэтыя «забароненыя» тэмы і мы, журналісты.

Сёння першыя промні разумення асвятляюць гэту дарогу тым, хто яе шукае...

Вольга ШПАКОЎСКАЯ.
Фота Сяргея БРУШКО
і Алеся КУШНЕРА.
Афармленне Уладзіміра КРУГЛОВА.



# ГІПОТЭЗЫ ПАТРАБУЮЦЬ ДОКАЗАЎ,

## АЛЕ ТОЕ, ШТО ДАСЛЕДЧЫКІ РАННЯЙ ГІСТОРЫІ ЕЎРОПЫ ЗВЯРТАЮЦЦА ДА БЕЛАРУСІ, СВЕДЧЫЦЬ: У ДАЛЁКІЯ ГАДЫ ЯНА НЕ БЫЛА ГЛУХОЮ ПРАВІНЦЫЯЙ

**Вітаўт ЧАРОПКА**

Вялізная тэрыторыя (маю на ўвазе не адміністрацыйныя межы сучаснай Беларусі, а этнаграфічныя) у цэнтры Еўропы, а, калі верыць гісторыкам расейскім, польскім і нашым афіцыйным, нічога істотнага тут не адбывалася, ну а калі што і здаралася, дык насіла лакальны характар і ніяк гэтыя падзеі не маглі ўплываць на ход сусветнай гісторыі. Дзе тут логіка?

Пачну з часоў да «Аповесці мінулых гадоў», вядомых яшчэ задоўга да Рагвалода. Так Вацлаў Ластоўскі продкаў беларусаў шукаў на берагах Дуная, дзе ў першым стагоддзі нашай эры жыў народ гетаў або дакаў, як называлі іх рымляне. Рымская імперыя нават плаціла гетам даніну. І толькі ў 100 годзе імператар Траян разбіў гетаў. Ці не гэтыя падзеі «веце Трoени»? Геты пакінулі свае землі і знайшлі новую радзіму на старажытнай Беларусі. Жылі яны па цячэнню Дняпра ад суток Іпуці з Дняпром, уніз да суток Уці з Сожам. У доказ свайго сцвярджэння Ластоўскі спасылаецца на звесткі географаў Марына (110 г.), Пталамея (166 г.) і рымскага дарожніка «Пэнтыгерскіх табліц — 210 г.» І таму, што геты былі нашымі далёкімі продкамі, літоўцы называлі беларусаў гудамі, а рускія «гэтунамі, гецікамі». Мне гэтая гіпотэза падабаецца. Адразу на колькі стагоддзяў «пастарэла» гісторыя Беларусі. Ды і які пачатак — ганарлівая Рымская імперыя цярпіць паражэнні ад нашых продкаў.

Прываблівае і другая гіпотэза, якую прапанаваў Рудольф Баландзін: на берагах Росі, левага прытока Нёмана (які раней таксама называўся Рось), жылі росы, вядомыя ў гісторыі пад найменнем — русы, руці, руяны, рутэны, розы, ругі (рогі).

У палітычным жыцці Еўропы русы ігралі не апошнюю ролю. У 307 годзе яны былі саюзнікамі Рыма, у V стагоддзі ў саюзе з гунамі разбілі ў Прычарнамор'і готаў, а ў 476 годзе кароль русаў Адаакр узначаліў саюз русаў, скіраў, торкілінтаў і скінуў апошняга рымскага імператара Рамула Аўгустула. Русы ваявалі з вестготамі ў Італіі, готамі ў Ілірпі, але ў 489 годзе пацярпелі паражэнне ад гоцкага караля Тэадорыха. У IX стагоддзі русы заснавалі ў Кіеве Рускі каганат. Прамыя адпаведнікі імёнаў рускіх князёў Аскольда і Дзіра мы знаходзім у назвах беларускіх вёсак Ішакальдзь, Скольдзічы, Яскольды, Дзірмуны і Дзірваны, рэчкі Сакольда, у беларускім анамастыконе — Скальда. Нагадаем, што русы, якіх нібыта прызнавалі за скандынаваў, кляліся не Одынам, а Перуном, культ якога якраз і быў пашыраны на Беларусі. Супадзенні невыпадковыя.

Ёсць таксама гіпотэза, паводле якой крывічы былі своеасаблівую жрэцкаю кастаю, якая кіравала палітычным жыццём балтаў і ўсходніх славян. І вядомы па хроніцы Дузбурга прускі першасвятар Крэва-Крывэйціс — той самы Крэва-Крывіч. Уяўляю, як можна фантазіраваць, калі гіпотэза гэта пацвердзіцца, бо тады Беларусь можна смела лічыць адным з галоўных палітычных цэнтраў тагачаснай Еўропы. Адсюль і новыя гіпотэзы. Напрыклад, разгледзець супрацьстаянне паганства з хрысціянствам, барацьбу паганцаў, славян і балтаў з готамі-арыянамі, Візантыяй.

Гіпотэзы патрабуюць доказаў, але тое, што даследчыкі ранняй гісторыі Еўропы звяртаюцца да Беларусі, сведчыць: у далёкія гады яна не была глухою прввінцыяй, а ўяўляла сабою унікальны рэгіён, дзе сутыкаліся і славянская, і балцкая, і германская, і іранская, і фіна-угорская культуры (выказвалася думка, што племя літвінаў было угра-фінскім, дадам, што на Пермскай зямлі цячэ рэчка Лытва — прыток ракі Вільвы).

VI стагоддзе — час, калі можна з упэўненасцю казаць пра з'яўленне продкаў беларусаў на гістарычнай арэне Еўропы. Магутны націск славян ледзь не знішчыў Візантыйскую імперыю. У «Жыцці Дзмітрыя Салунскага» распавядаецца пра ваяўнічых драгавітаў, што штурмавалі другі па значэнні ў Візантыі горад Салун (Салоніќі). Відаць, дрыгавіты ішлі ў авангардзе славян. Не прызнавалі яны ні ўлады Візантыі, ні ўлады Аварскага каганата.

Да 867 года ў Фесалоніі існавала незалежнае княства драгавітаў. З зямлі, дзе яны жылі, выйшлі візантыйскія імператары Юсцін, Юсцініян (славянскае імя Управда), славуты палкаводзец Велізарый (Велізар). У паходах на Візантыю ўдзельнічала племя смалян (ці не галіна крывічоў?), а таксама аўтахтоны старажытнай Беларусі балты, што зафіксавана моўнымі дадзенымі балгарскіх дыялектаў.

У VI стагоддзі пачынаецца і масавае славянскае засяленне Беларусі, якое суправаджалася асіміляцыяй мясцовага балцкага насельніцтва. Самым буйным усходнеславянскім племем былі крывічы (хаця летапісцы не залічаюць іх ні да «словеноў», ні да вяцічаў і радзімічаў, ні да «иным языцем»), якія занялі вярхоўе Дзвіны, Дняпра і Волгі і трымалі ў сваіх руках частку важных гандлёвых шляхоў, што звязвалі Паўночную Еўропу з Паўднёвай Еўропаю і Азіяй. На землях крывічоў завязваюцца важныя вузлы рускай дзяржаўнасці: тут знойдзены старажытнейшыя земляробчыя прылады тых тыпаў, якія пазней пануюць у старажытнай Русі, узнікаюць адміністрацыйна-дружынныя і гандлёва-рамесныя цэнтры: Полацак, Віцебск, Орша, Смаленск, Гнезнава, Пскоў, Ізборск, Крыўвіцебск (Тарапец), Ладага і інш., тут складаецца і сістэма язычніцкай рэлігіі. Сталіцай крывічоў стаў Полацак. Як пра адзін з важнейшых гарадоў Усходняй Еўропы згадваюць Полацак скандынаўскія сагі. У «Полотьские власти» знаходзілася племя «северян».

Крывічы, як і дрыгавічы, мелі сваю раннефеадальную дзяржаву «княженье». Так што адлік беларускае дзяржаўнасці мы вядзём з часоў утварэння нямецкай, шведскай, дацкай, чэшскай дзяржаў. Тады яшчэ не пабудавалі сваёй дзяржаўнасці фламандцы, галандцы, швейцарцы, аўстрыйцы, партугальцы, іспанцы, румыны, угорцы, палякі, нарвежцы.

Валоданне крывічамі важнымі воднымі шляхамі дазваляла ім кантраляваць гандаль Паўночнай Еўропы з Візантыяй і арабскім светам, адкуль паступала арабскае срэбра, якім карысталіся ў абарачэнні на Балтыцы, што забяспечвала жыццядзейнасць балтыйскай эканамічнай сістэмы.

Крыўская дзяржава ўключаецца ў еўрапейскую палітыку. Так, пасля таго, як дацкія вікінгі блакіравалі шведскі порт Бірку, жадаючы захапіць у свае рукі балтыйскі гандаль, свеі паспрабавалі абкласці данінай словен, волжска-фінскія плямёны і крывічоў, але гэта ім не ўдалося. Абвастрэнне адносін словен, крывічоў са свеямі ў значнай ступені падарвала эканоміку Швецыі і Готланда, куды доўгі час не паступала арабскае срэбра. Свеі вымушаны былі здзяйсняць набегі на Францыю, Англію, Іспанію, Італію.

Крыўская дзяржава ў выніку заваёўніцкіх паходаў Аскольда і Дзіра распалася, і на яе месцы ўзніклі два княствы: Полацкае і Смаленскае. Бліскучую і суровую гісторыю пакінула пасля сябе Полацкае княства. Як ні спрабавала Кіеўская Русь скарыць палачан, але яны адстаялі сваю незалежнасць. Напал гэтай барацьбы дасягнуў свайго апагея пасля таго, як пала Хазарыя, страціла свае пазіцыі Волжская Булгарыя і ўзрасла роля Дзвіна-Дняпроўскага гандлёвага шляху, а гарады, што стаялі на ім, ператварыліся ў буйныя цэнтры візантыйска-балцкага і араба-балцкага гандлю.

Прызнаючы Полацкае княства як моцную еўрапейскую дзяржаву, Візантыя заключыла з ім дынастычны саюз, што неверагодна ўзвысіла яго аўтарытэт у Еўропе. А найбольшых поспехаў на міжнароднай арэне Кіеў дабіваўся калі заключаў саюз з Полацкам. Так, пасля таго, як Уладзімір аднавіў Полацкае княства, русы перамаглі ў вайне з Польшчаю і печанегамі. Дзеля саюзу з Полацкам пайшоў на ўступкі і Яраслаў Мудры, перадаўшы князю Брачыславу Усвяты і Віцебск. І калі Кіеў быў «заедин» з Полацкам,— Русь дасягнула свайго найвышэйшага росквіту. Праўдападобна, што Брачыслаў адзін час княжыў і ў Кіеве. З дапамогай Полацкага княства Русь адбіла нашэсце торкаў, якія пасля спустошылі Македонію і дайшлі да Царграда.

Часовыя ж перамогі Кіева над Полацкам былі піравымі перамогамі. Падманам кіеўскі князь Ізяслаў захапіў у палон Усяслава і — прагадаў, бо полацкі князь узначаліў паўстанне кіян і сем месяцаў уладарыў у Кіеве. Давялося Ізяславу прасіць дапамогі ў Польшчы, каб вярнуць кіеўскі пасад. Узяцце Полацка абярнулася для Ізяслава смерцю яго сына пры нявысветленых абставінах. Перамога над Усяславам у 1071 годзе каля Галічаска прывяла да распаду трыумвірата Яраславічаў. Паход Уладзіміра Манамаха ў 1077 годзе на Полаччыну і няўдалы штурм Полацка распыліў вайсковыя сілы Паўднёвай Русі, і праз год яго бацьку тмутараканскія князі выгналі з Чарнігава. Ды і полаўцам не пагражала руская раць, іх тут жа выкарысталі візантыйскія палітыкі, каб спыніць нашэсце печанегаў і сельджукаў. Доўгая вайна з Полацкам у 1127—1131 гадах канчаткова падарвала моц Кіева, і кіеўскія князі не толькі не змаглі ўтрымаць за сабою Полацкую зямлю, але і захаваць адзінства на Русі.

Важнае значэнне ў жыцці Усходняй Еўропы адыгрывала Турава-Пінскае княства, якое ўзнікла як «княженье» дрыгавічоў. «Гістарычнае значэнне дрыгавічоў у тым, што яны пачалі наступ на літоўцаў, рухаючыся з басейна Прыпяці ў басейн Дзвіны і Нёмана»,— адзначаў чэшскі славіст А. Нідэрле.

Пройдуць стагоддзі, і на каланізаванай дрыгавічамі і крывічамі старажытнай Літве ўзнікне новая беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. І напіша першы каталіцкі біскуп на Літве, Хрысціян, які прыедзе да Міндоўга: «Літва, або Літванія — гэта славянская краіна».

Аднак вернемся да Турава-Пінскага княства. У сацыяльна-эканамічных адносінах гэта было адно з развітых княстваў і разглядалася кіеўскай уладай як плацдарм для наступу на землі Ятвягіі, Літвы і Польшчы. Туравам валодалі прадстаўнікі старэйшых дынастычных ліній кіеўскіх князёў. Так, тураўскія князі Святаполк Уладзіміравіч, Усяслаў Яраславіч, Святаполк Ізяславіч сядалі на кіеўскі пасад. На тураўскія і пінскія дружыны абапіраўся ў вайне з Яраславам Мудрым Святаполк. Абапіраўся на тураўцаў і Святаполк II, які меў у Кіеве тураўскую дружыну, а яго сын Мсціслаў трымаў пінскую дружыну.

Доўгі час Тураў залежаў ад Кіева. Нарэшце ў 1158 г. князь Юрый Яраславіч заваяваў незалежнасць Турава-Пінскага княства. Тураў вытрымаў беспрэцэдэнтную ў гісторыі Русі 10-тыднёвую аблогу дружын з сямі княстваў і раці берандзеяў.

Аднак не толькі войнамі праславіліся «грозныя» палачане, «боеви дерзи» смаляне, тураўцы і піняне, але пакінулі яны нам у спадчыну высокую культуру. Нагадаем пра самабытную полацкую школу дойлідства з яе смелым адыходам ад візантыйскай традыцыі. Згадаем дойліда Іаана, які ўзвёў Спаса-Ефрасіннеўскую царкву. Прыгадаем Лазара Богшу — стваральніка шэдэўра сусветнага дэкаратыўнага мастацтва — крыжа Ефрасінні. Згадаем і творы Кірылы Тураўскага, якія ўвайшлі ў скарбонку сусветнай літаратуры і палымянага Аўрамія Смаленскага. Успомнім Ефрасінню, першага вядомага ўсходнеславянскага паэта Баяна, які жыў у Менску ва Узнясенскім манастыры, што пабудаваў Усяслаў Чарадзей. Было што паказаць госцю, было чым здзівіць, было і чаму павучыцца ў нас.



А наперадзе чакалі суровыя выпрабаванні.

На Паўночных межах Полаччыны з'явіўся вораг — Лівонскі ордэн — перадавы атрад паўночнаеўрапейскага рыцарства і купецкай Ганзы. Полацкі «кароль Вальдэмар», як называлі яго крыжакі (прызнаючы тым самым полацкае княства роўным па статусу каралеўству), недаацаніў крыжацкай пагрозы. А калі Ордэн умацаваўся, калі ў вусці Дзвіны паўстала Рыга, загарадзіўшы палачанам выхад у Балтыйскае мора,— было позна. Полацкае княства страціла свае ўладанні ў Лівоніі і Латгаліі. Занятая міжусобнымі звадкамі і бойкамі Русь не дапамагла палачанам, не дапамог і роднасны Смаленск, які траціў свае сілы ў барацьбе за гегемонію на ўсходнеславянскіх землях.

Аднак Полацкае княства было не «безнадзейна аслаблена ў палітычных і вайсковых адносінах», як сцвярджае англійскі гісторык Джон Фенел, пад уплывам твораў Пашуты і Аляксеева. Не стала яно і здабычай літвінаў. А наадварот, Полацк у сваіх палітычных інтарэсах выкарыстоўваў і накіроўваў набегі літвінаў на Ордэн і Русь. З дапамогай палачан князь Святаслаў заваяваў Смаленск. Пра нерастрачаную моц Полацка сведчыць і паведамленне берасцянай граматы (датуецца сярэдзінай XIII ст.), знойдзенай у Ноўгарадзе. Як вынікае з яе, толькі ўзгадка, што ў Полацку збіраецца войска, выклікала ў Ноўгарадзе трывогу, і ноўгарадскі пасаднік прасіў (у каго невядома) прысласць у горад жыта.

Два стагоддзі беларусы разам з прыбалтыйскімі народамі, рускімі, палякамі, украінцамі змагаліся супраць вайсковай дзяржавы — Тэўтонскага ордэна, які падтрымлівала папская курыя, багаты Ганзейскі саюз, Германія і заходнееўрапейскія дзяржавы. Галоўная заслуга ў разгроме ордэна належыць Беларусі. Не, не спыніў наступ крыжакоў Аляксандр Неўскі, разбіўшы іх на Чудскім возеры (паводле нямецкай хронікі загінула 20 рыцараў і 6 трапіла ў палон). Бітва гэтая была толькі эпізодам у доўгай вайне з Ордэнам. Іпацьеўскі летапіс нават і не занатаваў яе на сваіх старонках, адзначыўшы, што ў гэты год «не бысть ничтоже». Чатыры разы ў 1262, 1322, 1341 гадах беларускія дружыны дапамагалі рускім адбіць крыжацкія нашэсці.

У сваю чаргу Альгерд прасіў візантыйскага патрыярха Аляксея, каб той паўплываў на маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча дапамагчы беларусам і літоўцам у вайне з крыжакамі, бо «мы ваюем за маскавітаў». А што ж Літва? Паводле класікаў, Беларусь шукала ў Літвы абароны ад мангольскай і крыжацкай пагрозы. А як на самай справе? Як магла Літва абараніць Беларусь ад крыжакоў, калі Жамойція сама часта падтрымлівала Ордэн, ды і Аўкштайція не магла самастойна абараніцца ад ворага. Варта пачытаць ордэнскія хронікі. Тысячы нявольнікаў выводзілі крыжакі з Літвы ў палон. Каб неяк выратавацца, жамойты ўжо збіраліся эмігрыраваць са сваёй радзімы, аўкштайты прасілі дазволу ў лівонскага магістра перасяліцца ў Лівонію. І толькі з дапамогаю беларускіх дружын літоўцы адбіваліся ад Ордэна.

Напрыклад, у 1315 годзе Гедымін, дачакаўшыся дружыны з Верхняга Панямоння, Наваградка і Полацка, адважыўся выступіць супраць крыжакоў або ў 1348 годзе, калі дружыны з Полацка, Смаленска, Віцебска, Бярэсця і Уладзіміра спынілі саракатысячнае войска крыжакоў, ударнай сілай князя Кейстута быў пяцітысячны беларускі корпус. А калі Ягайла заключыў сепаратны мір паміж ВКЛ і Ордэнам, пазбаўленыя падтрымкі Усходняй Беларусі, Жамойція і Аўкштайція, дзе княжыў Кейстут, сталі лёгкаю здабычаю крыжакоў. Цікавае паведамленне Длуглаша аб тым, што Вітаўт не рашаўся выступаць супраць крыжакоў з-за «нявернасці літоўцаў». А вось прызнанне крыжакоў пра тое, што Гародня «не дазваляла ім авалодаць усёю Літвою і Руссю».

Вайна Тэўтонскага ордэна і Вялікага княства Літоўскага была важным фактарам еўрапейскай палітыкі. Польшча, Чэхія, Угорыя, Аўстрыя, Францыя, Англія, Данія падтрымлівалі заклікі папскай курыі да крыжовых паходаў на Літву і Беларусь. Хто толькі не вёў свае атрады сюды. Чэшскі кароль Ян Люксембургскі, угорскі кароль Людовік, будучы англійскі кароль Эдуард IV, будучы германскі Карл IV, герцагі Бургундскі дэ Бурбон, Альберт фон Заксен, Альбрэхт Аўстрыйскі, графы Гюнтэр Шварцбургскі, Генрых Гаместынскі, Конрад Ліхтэнштэйнскі, Бэтфорд Нартумбермундскі і інш. Асобы, якія ў тагачаснай палітыцы выступалі першымі грандамі.

Штогод рымская курыя трацілa каля 1 млн. фунтаў стэрлінгаў на паходы супраць Літвы і Беларусі. Тут і германскія імператары забывалі пра сваю варожасць да папскай курыі і падтрымлівалі Ордэн. Беларуская дзяржава не толькі адстойвала сваю незалежнасць, але і дапамагала суседзям. Так, паход Давыда Гарадзенскага ў 1323 на Брандэнбург прадухіліў захоп немцамі заходняга Памор'я. З дапамогаю беларусаў князь Любарт вызваліў ад палякаў Валынь, а Рыга змагалася за сваю незалежнасць ад Ордэнскай улады.

Асобная гаворка пра ролю Беларусі ў Кулікоўскай бітве.

Ягайла падтрымаў Мамая ў паходзе на Русь, хоць на Кулікоўскае поле прыйшлі з Дзмітрыем Іванавічам і беларускія палкі Андрэя Полацкага, Дзмітрыя і Васіля Друцкіх. У гэтай вайне Русь выступіла саюзнікам Сіняй Арды, дзе ўладарыў Тахтамыш, і яго апекуна — уладара Сярэдняй Азіі — Цімура, варожых Мамаю.

Умацаванне Залатой Арды або Масквы не ўваходзіла ў палітычныя разлікі ўрада ВКЛ. Падтрымаўшы Мамая, Ягайла тым самым падштурхнуў яго на вайну з Руссю. Пасля Кулікоўскай бітвы абодва праціўнікі былі аслаблены. Ягайла мог без цяжкасцяў расправіцца з войскам Дзмітрыя. Ды толькі Масква служыла супрацьвагай Залатой Ардзе, таму, відаць, Ягайла і не ўступіў у бітву.

Пры Вітаўце Вялікае княства Літоўскае дасягнула вяршыні сваёй магутнасці. У саюзе з Польшчай быў нанесены смяротны ўдар па Ордэну. У Вільні Вітаўт узводзіць уладароў Залатой Арды на ханства, падтрымлівае род Гірэяў, правіцеляў Крымскага ханства. Візантыйскі патрыярх, рымскі папа, германскі імператар разлічваюць на яго ў барацьбе супраць туркаў. Чэхі абвяшчаюць Вітаўта сваім каралём.

Можна прыгадаць і перамогі беларусаў над крымскімі татарамі пад Клецкам і маскавітамі каля Оршы ў бітвах, у якіх вырашаўся лёс не толькі Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы, але і Паўднёвай і Цэнтральнай Еўропы. Як вядома, польскі кароль і вялікі князь літоўскі Казімір Ягелонавіч стварыў антытурэцкую кааліцыю, у якую ўваходзіла Чэхія, Угорыя, Польшча і Вялікае княства Літоўскае. Гэта стрымлівала Турцыю ад агрэсіі ў Еўропу.

Але ж уявім, калі б пад Клецкам перамаглі крымскія татары або пад Оршай маскавіты — саюзнікі Турцыі (Крым і Масква выпрацавалі план падзелу Літвы і Польшчы) — гэта азначала б распад антытурэцкай кааліцыі, а там... Можна ўявіць паход туркаў у раздробленую Італію або Германію. Нагадаем і Хоцінскую бітву, калі беларускія, літоўскія і ўкраінскія воіны прыйшлі на дапамогу палякам і разбілі 300000 армію Асмана, які марыў скарыць Еўропу.

Ёсць што прыгадаць з нашай гісторыі, ёсць чым ганарыцца. Але ж як так здарылася, што мы растрацілі сваю сілу? Чаму Беларусь апынулася на задворках еўрапейскай гісторыі? Так, беларусам давялося стагоддзямі змагацца за права быць гаспадарамі на сваёй зямлі з мацнейшымі за нас ворагамі. Пасля крывавага патопу ў сярэдзіне XVII ст. беларусы страцілі кожнага другога. Эканоміка была падарвана, гарады абязлюдзелі. Розныя царкоўныя канфесіі сеялі паміж беларусамі варожасць. Наша магнатэрыя забывала родную мову і культуру і з патрыётаўператварылася ў задзір, інтрыганаў і сябелюбцаў. Выконваючы свае саюзніцкія абавязкі, беларусы ўдзельнічалі ў непатрэбных ім польскіх авантурах (гэтых «задзірлівых недарэчнасцях» паводле выразу Энгельса) — войнах са Швецыяй у інтарэсах дынастыі Вазаў, маскоўскіх паходах, падаўленні казацкіх бунтаў.

Але была яшчэ адна прычына. Беларусы пераcталі верыць у сябе. Ці не першы засумняваўся Ягайла. Як бы ні тлумачылі матывы яго згоды стаць польскім каралём, але, каб верыў ён у сілу свайго народа, мабыць, не прынёс бы ў ахвяру польскай Кароне самастойнасць Вялікага княства. Вітаўт доўга не рашаўся каранавацца і ператварыць сваю дзяржаву ў каралеўства — палохаўся вайны з Польшчаю і не верыў у перамогу, а калі наважыўся — было позна. Спроба ж Свідрыгайлы ажыццявіць Вітаўтавы намеры закончылася паражэннем. І бязвер'е апанавала большасцю беларускіх феадалаў — яны ўжо не верылі, што можна ўтварыць на Беларусі каралеўства. За зброю і не браліся.

Свайго ўладара беларусы страцілі, а, значыць, і двор — сэрца дзяржавы. Не хапіла рашучасці ні Радзівілу Осцікавічу, ні Сымону Аляхькевічу ўзысці на вялікакняжацкі пасад, разарваць нявыгадную унію з Польшчай. А Казімір ваяваў за кароны сваім сынам і забыўся пра клопат Вялікага княства. Нічым не дапамог ён беларускім саюзнікам: Ноўгараду, Пскову, Залатой Ардзе, і тыя палі перад Масквой, і на ўсходніх беларускіх межах з'явіўся моцны і прагны да заваёў вораг. Першыя няўдачы ў войнах з Масковіяй не паднялі нашай веры ў сябе — пачалі прасіць дапамогі ў палякаў, якія самі разбагаціся, калі чулася цоканне капытоў татарскай конніцы.

Адсутнасць веры ў сябе — гэта і адсутнасць вялікай ідэі. У рускіх яна была. Перш: «Масква — трэці Рым», а пасля ідэя нацыянальнай выключнасці з яе рускай душою, рускім характарам, рускім полем, рускім сонцам, рускім лесам, рускаю зімою, рускім футрам і г. д. У палякаў узнікала ідэя: то стаць цэнтрам славянства, то выканаць сваю місію каталіцкага авангарда, то прыбраць да рук Вялікае княства. А наша ідэя? "Уся Русь павінна належаць Літве",— выразіў яе Альгерд і змагаўся за гэта. А пасля... Трэба было ўтрымаць хоць бы тое, што засталося ў спадчыну ад продкаў. Патрыятызм? Нагадаем, як у 1503 годзе, калі татары плюндравалі паўднёвую Беларусь, наша рада — гэты цвет народа — раілася... не, не пра тое, як адбіць ворага, а як уміласціваць Аляксандра, які гневаўся на іх з-за намоў Глінскага. Вось такі патрыятызм.

Але ж сілы ў нас былі і на тое, каб граміць ворага, і на тое, каб аднаўляць спаленыя вёсі і мястэчкі, і на тое, каб каланізаваць апусцелыя землі Украіны, і на тое, каб кнігі друкаваць і закон пісаць моваю «ўласной», і на тое, каб спрачацца на філасофскіх і тэалагічных дыспутах або на соймах і сойміках... Толькі вось веры... Ну, гэта магнаты, шляхта, але ж яны былі лідэрамі ў палітыцы, культуры. А народ жыў сцвярджаннем «людзьмі звацца». Ф. Дастаеўскі пісаў: «Усякая здаровая... сіла верыць у сябе і ў сваю праўду, і гэта ёсць першая адзнака здароўя народнага. Гэта народная вера ў сябе і ў свае сілы — зусім не застой, а, наадварот, залог жыццёвай энергіі і жыцця і зусім не выракаецца прагрэсу. Без гэтай веры ў сябе не ўстаяў бы, напрыклад, на працягу стагоддзяў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі». Дык, можа, гэта і ёсць наша ідэя?

Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# Якой ты была, Беларусь мая?

## ці яшчэ раз пра дзяржаўныя межы

Этнографическая карта Бѣлорусскаго племени, Составл. въ 1903 г.
Масштабъ — 40 верстъ въ дюймѣ.

Объясненіе знаковъ.
Граница бѣлорусской области.
Граница губерній.
Граница уѣздовъ.

Чым больш сталее чалавек, тым часцей надыходзяць хвіліны роздуму аб сабе, аб сваіх вытоках, аб мінулым свайго народа і дзяржавы, аб іх сувязях з навакольным светам. І чым глыбей сягаеш думкаю, тым менш шансаў атрымаць колькі-небудзь дакладныя адказы. Асабліва, калі не захаваліся хоць якія матэрыяльна аформленыя факты.

Мінулае народа звязваецца зазвычай з тэрыторыяй, на якую ён у свой час рассяліўся. З маленства ў нашу свядомасць убівалася, што БССР утворана з тэрыторый, на якіх пераважна жылі беларусы.

Але ці так гэта на самай справе. Давайце, чытач, звернемся да сівой даўніны. А канкрэтней — **да першай карты беларускага племя.** Не, я не агаварыўся: тут і далей пад «племем» падразумяваецца любая нацыянальная супольнасць людзей, у тым ліку «велікарусаў», «маларусаў», палякаў, латышоў, літоўцаў і г. д.

Першыя грунтоўныя і значныя даследаванні па вызначэнню меж карэннага пражывання беларусаў зрабіў акадэмік Я. Ф. Карскі. Іх вынікі былі абагульнены ў артыкуле «Да пытання аб этнаграфічнай карце беларускага племя» і апублікаваны ў «Известиях отделения русского языка и словесности императорской академии наук» у 1902 годзе. А праз год была выдадзена і карта тэрыторыі. Дык вось, беларусаў Яўхім Фёдаравіч называе «беларускім племем», а тэрыторыю, якую яны займаюць,— Беларускай вобласцю.

У артыкуле, у прыватнасці, гаворыцца: «Асновай для вызначэння граніцы Беларускай вобласці ў нас выключна служыць мова; пагэтаму, напрыклад, тыя ж літоўцы Віленскай губерні, якія зараз гавораць толькі па-беларуску, у нас аднесены да беларусаў, а тыя насельнікі калужскага і арлоўскага Палесся, якія размаўляюць па-паўднёва-велікаруску, аднесены да паўднёварусаў, хоць продкамі іх, безумоўна, былі беларусы» (стар. 219). Самым паўночным пунктам, «да якога дасягаюць беларусы на захадзе, з'яўляецца, прыкладна, станцыя Корсаўка С.-Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі (56,8° паўночнай шырыні)».

На паўночным захадзе «граніца беларускай гаворкі ідзе спачатку па Курляндскай губерні, а затым па Ковенскай накіроўваецца на поўдзень».

На поўдні «граніца ідзе... па межах паветаў Новазыбкаўскага і Сасніцкага». Затым, як сцвярджае акадэмік Карскі, яна праходзіць па Арлоўскай і Калужскай губернях: каля Бранска і ў Жыздрынскім павеце. «У Смаленскай губерні граніца беларускага племя знаходзіцца паміж паветамі Дарагабужскім і Бельскім...»

У артыкуле ёсць і напамінак аб тым, што «ў апошні час беларусы ў якасці каланістаў-перасяленцаў трапілі ў многія месцы Сібіры і Сярэдняй Азіі».

На гэтым даследаванні беларускага этнасу не спыніюцца. Наадварот, Я. Ф. Карскі працягвае іх. Ён выяўляе заканамернасці беларускай гаворкі, словаўтварэння ў і змены ў іх, што дае яму магчымасць больш абгрунтавана вызначыць прыналежнасць да беларускага племя жыхароў ускраін Беларускай вобласці і ўдакладніць этнаграфічную карту 1903 года, а таксама ўнесці змены ў межы тэрыторыі, канкрэтызаваць населеныя пункты з пераважнай колькасцю беларусаў.

«Выключаю прыкметаю размежавання беларусаў ад іншых плямён і народаў,— піша вучоны,— служыла выключна матчына мова». Яна — «галоўны прызнак беларускай народнасці на працягу яе шматвекавога жыцця».

**Другая абноўленая карта беларускага племя** была выдадзена ў 1917 годзе. У ёй, а таксама ў тэкставай тлумачальнай частцы да яе, з'явілася нямала новага. З гэтых дакументаў, напрыклад, можна даведацца, што ў 1903 годзе ў Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Калужскай, Ковенскай, Курляндскай, Магілёўскай, Арлоўскай, Пскоўскай, Смаленскай, Сувалскай, Цверскай і Чарнігаўскай губернях жыло 8318 тысяч беларусаў. У 1917 годзе іх павінна быць прыкладна 10 мільёнаў.

Нялёгкі лёс фарміраваў супольнасці, уклад жыцця, характар беларусаў. На новых месцах яны трымаліся адзін аднаго, сяліліся «кучна», як адзначае Я. Ф. Карскі, у «мясцовасцях лясістых і забалочаных». Іншымі словамі, на Палессі, на якое не прэтэндавалі іншыя народы. Таму велікарусы называлі іх «палехамі». Спасылак на гэта шмат у шырокіх даследаваннях XIX стагоддзя. Так, у «Списке населенных мест Черниговской губернии (1886 г.)» чытаем: «У Маларасіі жыхары Задзяснянскай часткі вядомы пад агульнай назвай літвінаў. Гэтым імем маларасіяне клічуць усіх беларусаў, якія адрозніваюцца не толькі гаворкай, але і вопраткай (белы колер і лапці)». І тут жа называюцца паветы, дзе быў «чистый тип белоруса в полной силе»: Мглінскі, Суражскі, Новазыбкаўскі, Старадубскі і частка Гараднянскага. Як бачым, усё гэта прызнавалася ісцінай яшчэ




На здымках: першая карта беларускага племя; другая карта беларускага племя.

ў той час, калі Карскаму было толькі шэсць гадоў.

Канечне, войны паміж Расіяй і Польшчаю, першая сусветная вайна, вымушаная міграцыя параскідалі беларусаў, як кажуць, па усім свеце. Нямала з іх загінула на чужыне. Аднак гэта ўжо асобная тэма.

А зараз давайце вернемся ў савецкі перыяд.

Трэба адзначыць, што вучоныя-этнографы па-рознаму трактавалі граніцы Беларусі. Многія з іх падкрэслівалі вынікі даследаванняў сваіх папярэднікаў па вывучэнню беларускага племя. Так, напрыклад, Я. С. Канчар у сваёй рабоце «Класавая, нацыянальная і рэлігійная барацьба ў Беларусі», выдадзенай у Маскве ў 1918 годзе, адзначае: «Беларускае племя займае губерні: **Віленскую** (Віленскі, Вілейскі, Дзісненскі, Лідскі, Ашмянскі, Свянцянскі, Троіцкі паветы); **Віцебскую** (Віцебскі, Веліжскі, Гарадокскі, Дзвінскі, Дрысенскі, Лепельскі, Люцынскі, Невельскі, Полацкі, Ражыцкі, Себежскі паветы); **Гродзенскую** (Гродзенскі, Брэсцкі, Беластоцкі, Ваўкавыскі, Кобрынскі, Пружанскі, Слонімскі, Сакольскі паветы); **Калужскую** (Жыздрынскі, Масальскі паветы); **Курляндскую** (Ілукскі); **Мінскую** (Мінскі, Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Мазырскі, Навагрудскі, Пінскі, Рэчыцкі, Слуцкі); **Магілёўскую** (Магілёўскі, Гомельскі, Горацкі, Клімавіцкі, Мсціслаўскі, Аршанскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Чавускі, Чэрыкаўскі); **Арлоўскую** (Бранскі, Севскі, Трубчаўскі); **Пскоўскую** (Велікалуцкі, Тарапецкі); **Смаленскую** (Смаленскі, Бельскі, Вяземскі, Гжацкі, Дарагабужскі, Духаўшчынскі, Ельнянскі, Краснінскі, Парэцкі, Раслаўльскі, Сычаўскі, Юхнаўскі); **Сувальскую** (Аўгустоўскі, Сейненскі); **Цверскую** (Асташкаўскі, Ржэўскі); **Чарнігаўскую** (Мглінскі, Новазыбкаўскі, Старадубскі, Суражскі) паветы.

Тут жа паведамляецца, што «ўся плошча, якую займаюць беларусы, ахоплівае 7310 квадратных міль, або 353 878 квадратных вёрст». І далей: «Гэтая прастора большая за Францыю, у тры разы большая за царства Польскае...» Як бачна, памеры тэрыторыі, указаныя тут, крыху большыя за тыя, што адзначаны на «Этнаграфічнай карце беларускага племя» Я. Ф. Карскім. Сюды цяпер увайшлі і раёны, якія не паспеў пазначыць наш славуты вучоны-зямляк.

Цікавасць выклікаюць і такія факты. На кожныя сто жыхароў у тойчас у сярэднім прыходзілася: беларусаў — 67, велікарусаў — 12, яўрэяў — 8, палякаў — 5, літоўцаў і латышоў —4. У Смаленскай губерні 75 беларусаў і толькі 2,2— велікарусаў. У Віленскай — беларусаў — 56, а літоўцаў —17,6.

Першы з'езд КП(б) Беларусі, які адбыўся ў канцы 1918 года ў Смаленску, таксама вызначыў этнаграфічныя граніцы Беларусі. Чытаем яго рашэнне: «Асноўным ядром Беларускай рэспублікі лічацца губерні: Мінская, Смаленская, Магілёўская, Віцебская і Гродзенская з часткамі сумежных з імі губерняў, населеных пераважна беларусамі; такімі прызнаць: частку Ковенскай губерні, Нова-Аляксандраўскага павета, Віленскі павет, частку Свянцянскага і Ашмянскага паветаў Віленскай губерні, Суражскі, Мглінскі, Старадубскі і Новазыбкаўскі паветы Чарнігаўскай губерні. З складу Смаленскай губерні могуць быць выключаны паветы Гжацкі, Сычаўскі, Вязенскі і Юхнаўскі, а з Віцебскай губерні — часткі паветаў Дзвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага».

Калі ж параўнаць гэты пералік з тым, які дае ў сваёй рабоце Я. С. Канчар, то бачна, што ў яго не ўвайшлі толькі тэрыторыі, якія да таго часу «трапілі» пад Польшчу, Літву і Латвію. Гэтым жа рашэннем з'езда да Смаленскай вобласці (тады раёна) аднесены раёны (тады падраёны): Смаленскі, Бельскі, Духаўшчынскі, Парэцкі (Дзямідаўскі), Дарагабужскі, Ельнінскі, Краснінскі і Раслаўльскі.

Дакументы І з'езда КП(б)Б былі апублікаваны ў 1973 годзе ў зборніку «Камуністычная партыя Беларусі ў рэзалюцыях і рашэннях з'ездаў і пленумаў». Праз дзесяць гадоў выйшла другое выданне гэтага зборніка, але раздзела аб тагачасных граніцах Беларусі ў ім ужо не аказалася. Іншымі словамі, гісторыя была падпраўлена. Яе, дарэчы, падпраўлялі не раз. Нехта з «верных ленінцаў», мусіць, не мог дапусціць, каб найбольш важная частка еўрапейскага цэнтра, якая падступала да самай Масквы, уваходзіла ў склад Беларусі.

Вось такая сумная гісторыя. Яе працяг — яшчэ больш маркотны: у рэспубліцы закрываліся беларускія школы, знікалі родная мова, культура... Натуральна, узнікае пытанне: няўжо сярод тагачасных беларусаў не знайшлося патрыётаў, якія б адстаялі ці паспрабавалі адстаяць сваю нацыянальную годнасць? Яны былі! Сведчаннем таму — абвяшчэнне Беларускай народнай рэспублікі (БНР) у ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 года. Арганізатары яе В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч і іншыя грамадскія дзеячы сталі вядомымі беларускімі вучонымі, аднак іх не абмінула сталінская рэпрэсіўная машына. Беларусь, думаю, была б сапраўды народнаю, калі б ліхія будзёнаўцы, а затым і чэкісты не падсеклі пад корань вялікае імкненне народа жыць вольна, быць гаспадаром сваёй зямлі.

Далейшы лёс наканаваў Беларусі і беды, і нягоды. Яе, як каравай на вяселлі, пачалі дзяліць: частку Расіі, частку — Літве і Латвіі, а Беластоцкую вобласць аддалі Польшчы. Разам з народам, з яго традыцыямі, мовай, песнямі.

Хачу, каб зразумелі мяне правільна: я не заклікаю вярнуць назад беларусаў са Смаленшчыны, Браншчыны, Арлоўшчыны і іншых рэгіёнаў, якіх сілком «зрабілі» рускімі. Я не заклікаю да перагляду граніц з Польшчаю і Літвою, як і не заклікаю да самаізаляцыі Беларусі і іншых рэспублік СССР, якія аб'явілі аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці. Я — за новы цывілізаваны сплаў супольнасці, але ўжо суверэнных дзяржаў-рэспублік, якія самі будуць адказваць за дабрабыт і шчасце сваіх народаў і народаў-суседзяў.

Слоў няма: беларусы — працавіты і цярплівы народ. Бачу яго шчаслівым, а родную Беларусь — вольнаю і новаю. І, як калісьці Янка Лучына, веру, што

**Сонца навукі скрозь хмары цёмныя**
**Прагляне ясна над нашай ніваю,**
**І будуць жыць дзеткі патомныя**
**Добрай доляй, доляй шчасліваю.**

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**

# Хто вы, д-р Русель?

## СПРОБА НЕЗВЫЧАЙНАГА БЛІЦІНТЭРВ'Ю ПА АСАБІСТЫХ ПЫТАННЯХ З НЕЗВЫЧАЙНЫМ ЧАЛАВЕКАМ — МІКАЛАЕМ КАНСТАНЦІНАВІЧАМ СУДЗІЛОЎСКІМ-РУСЕЛЕМ



**— Перад тым, як распачаць гэтае інтэрв'ю праз стагоддзе, я разгарнуў томік БСЭ: «Судзілоўскі Мікалай Канстанцінавіч (псеўд. Русель). 15.12.1850, Магілёў —30.4.1930, дзеяч міжнар. рэвалюц. руху, вучоны-прыродазнавец. З дваран... З канца 1874 за мяжой... Аўтар прац па медыцыне, хіміі, філасофіі, сацыялогіі і геаграфіі...» А цяпер — першае пытанне: «Хто ж вы, у рэшце рэшт, доктар Русель?»**

— Практычны рэвалюцыянер...

**— У 1868-м годзе вы бліскуча закончылі Магілёўскую гімназію і, напэўна, ужо тады вызначылі свае жыццёвыя планы?**

— Я паставіў на мэце свайго жыцця «пакінуць свет хоць крыху лепшым, чым мы засталі яго!»

**— Мэта, так бы мовіць, высокая нават па сённяшніх параметрах. Што «падштурхнула» вас на гэты крок?**

— Вера ў чалавека, у будучыя заваёвы яго розуму... Навуковыя ўстановы царскай Расіі я заўсёды лічыў інкубатарамі чыноўніцтва, дзе галовы маладых людзей забівалі розным «метафізічным, лінгвістычным і тэалагічным смеццем, месца для якога было ў музеях і манастырах».

**— ... І пад уплывам свайго «дарагога настаўніка Мікалая Чарнышэўскага» ў пошуках адказу на пытанне «Што рабіць?» звярнулі позірк на Новы свет, на маладую на той час Амерыку, дзе паводле вашых жа выказванняў «уладарыў адзін культ — культ Чалавека?..»**

— У 60-я гады, і ў гады гімназічныя, я зачытваўся па начах творамі Фенімора Купера, Брэт Гарта. Іх ідэі сацыялізацыі і дэмакратызацыі натхнялі нас, удзельнікаў так званых студэнцкіх «амерыканскіх гурткоў».

**— Да Новага свету, да Амерыкі, было яшчэ далёка (у прамым і пераносным сэнсе). Вы падалі прашэнні на імя рэктара Пецярбургскага універсітэта аб пераводзе на медыцынскі факультэт універсітэта ў Кіеве, і адразу ж сталі піянерам знакамітага ў гісторыі руху «хождение в народ», пачалі вывучаць побыт і норавы вяскоўцаў, у прыватнасці, беларусаў, каб весці рэвалюцыйную прапаганду ў асяроддзі сялян.**

— Менавіта з гэтай мэтаю «дваранін Афанасьеў (мой рэвалюцыйны псеўданім) наведаў Чарнігаў, губерні Паволжа, Адэсу, дзе пазнаёміўся з будучым кіраўніком «Народной воли» Андрэем Жалябавым...

**— ... А тым часам па паліцэйскіх управах Расіі ўжо вандраваў «Спіс 53 асабліва небяспечных дзяржаўных злачынцаў». У тым спісе за нумарам 10 значылася: «Судзілоўскі Мікалай Канстанцінавіч. Былы студэнт, сын адстаўнога чыноўніка губернскага горада Магілёва. Гадоў 25, росту крыху ніжэй сярэдняга, валасы русыя, твар чысты,нос даволі вялікі, барада невялікая, рэдкая; апранаецца неахайна...» — Што і казаць — сітуацыя...**

— Заставацца ў Расіі стала небяспечна, і мае паплечнікі-народнікі арганізавалі пераправу праз румынскую граніцу.

**— 25 студзеня ў Лондане на мітынгу, прысвечаным 12-й гадавіне паўстання 1863 года ў Польшчы, Літве і Беларусі, вы сустракаліся з Карлам Марксам...**

— Сустракаўся, гаварыў з ім асабіста і нават меў гонар на адным з лонданскіх эмігранцкіх мітынгаў мець яго ў ліку сваіх слухачоў, калі выступаў з палітычнай прамовай.

**— Напэўна, сам лёс наканаваў вам і сустрэчу з балгарскім рэвалюцыянерам Хрыста Боцевым.**

— Хрыста Боцева духоўна стварыла, як і ўсіх нас, руская літаратура 60-х і 70-х гадоў...

**— Разам з Боцевым вы, Мікалай Канстанцінавіч, распрацоўвалі дзёрзкі план паўстання на Балканах супраць панавання турэцкіх феадалаў. У канцы сакавіка 1876 года вы пацвердзілі, што гатовы пайсці за Дунай поплеч з боцеўцамі, а ўжо ў сярэдзіне мая (літаральна за тыдзень да пачатку паўстання) змянілі сваё папярэдняе рашэнне. Чаму?**

— Я мала верыў у поспех экспедыцыі боцеўцаў (бог надзяліў мяне некаторай доляй здаровага сэнсу, таго, што амерыканцы называюць horse sense), да таго ж у мяне на руках была сям'я... Пасля некаторых ваганняў я адмовіўся.

**— У канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў з вашым імем звязваюць новы этап у развіцці сацыялістычнай думкі ў Румыніі. Да таго ж вы ў 1877 годзе абаранілі доктарскую дысертацыю па тэме «Антысептычныя метады лячэння ў хірургіі», і ў дакуменце аб атрыманні навуковай ступені з'явілася новая прозвішча — Русель...**

— Сваё прозвішча я змяніў у Румыніі, бо набліжалася ўступленне рускіх войск у гэту краіну, дзе мне, як палітэмігранту, пагражаў арышт...

**— Калі ў сакавіку 1881 года паліцыя трох дзяржаў (Расіі, Румыніі, Турцыі), лічыце, трапіла на ваш след, вы пасля неверагодных прыгод раптам «усплылі» ў... Парыжы. З Францыі дарога паклікала вас у Аўстрыю, Італію, Іспанію... Потым — зноў Балканы. А ўлетку 1887-га яшчэ адзін зігзаг лёсу: вы ўзялі накірунак у Сан-Францыска — сталіцу штата Каліфорнія.**

— Разам са мной, пагадзіўшыся стаць спадарожніцаю палітэмігранта, падалася за акіян былая цюрыхская студэнтка, а потым доктар Бернскага універсітэта Леакадзія Вікенцьеўна Шабека.

**— І зноў — тытанічная праца: у прыватнай лячэбнай установе, у рэдакцыях амерыканскіх газет і часопісаў у якасці публіцыста, дома, над рэдагаваннем свайго навуковага трактата аб праваслаўнай царкве ў Расіі (каля 900 старонак!) ... Як можна было ўсюды паспець?**

— Канечне ж, стаміўся... Прыйшло жаданне адысці ад палітыкі, ад рэвалюцыйнай дзейнасці... І я пасяліўся на Гаваях сярод канакаў, яшчэ не сапсаваных цывілізацыяй.

**— Пабыць сам-насам у райскім куточку, адысці ад барацьбы — як не стасуецца ўсё гэта з характарам чалавека, душою якога валодаў мяцежны дух...**

— Сам-насам з прыродай я змог пабыць вельмі мала. За дзве сотні метраў ад доміка, дзе мы кватаравалі,— Ціхі акіян. Там, асабліва па начах, нас было толькі двое, акіян і я, і нішто не перашкаджала нашай інтымнай гаворцы...

**— Ціхаакіянская ідылія, спакой і — чарговая сенсацыя: у канцы 1900 года ваш біёграф Леў Дэйч занатоўвае паведамленне: «У састаў сенатараў з боку канакаў абраны толькі адзін белы, а іменна рускі доктар М. Русель».**

— Нам не спатрэбілася шмат намаганняў, каб атрымаць у часе галасавання большасць галасоў...

**— Падзея, што і казаць, беспрэцэдэнтная: на чале Гавайскага парламента становіцца «нігіліст і матэрыяліст, беларускі народнік», на якога паліцыя шматлікіх краін мела «Асабовую справу»! А праз год у часе парламенцкага крызісу яшчэ адзін нечаканы «шахматны ход» доктара Руселя: прашэнне аб... адстаўцы. Як успрынялі вы «падзенне» з трона?**

— Ёсць людзі, падобныя да гогалеўскіх Бобчынскага і Добчынскага, якім карціць хоць бачком ці паўзком пралезці ў гісторыю. Я да такіх не належу.

**— Даведаўшыся, што вы, Мікалай Канстанцінавіч, склалі свае паўнамоцтвы прэзідэнта Гавайскіх астравоў, ваша сястра Яўгенія дасылае з Магілёўскай губерні ліст з такім пытаннем: «Адкажы, пад якой ты планетай нарадзіўся, што цябе падсцерагаюць такія няўдачы! Рэдка каму даводзілася так хораша пачынаць усялякую справу і гэтак няўдала яе завяршаць!»**

— А як адказаць? Гэта і для мяне загадка...

**— Утаймаваўшы сваю ганарлівасць, вы працягвалі сваю «кругасветную адысею» — падаліся спачатку на Філіпіны, потым — у Японію і Кітай... Няўжо ніколі за паўстагоддзя вандровак па белым свеце вас не паклікаў родны кут, Беларусь?**

— Я не раставаўся з Беларуссю ні на хвіліну...

**Пытанні задаваў**
**Іосіф КАЛЮТА.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** адказы на пытанні падаюцца паводле выказванняў, узятых з кніг доктара М. Руселя «Думкі ўголас» (1910г.), «На новы 1925 год», «Дзве Амерыкі» (1925), «Руская калонія» на Гаваях» (1902 г.), а таксама манаграфіі М. І. Еські «Мікалай Судзілоўскі-Русель» (1976 г.). Больш падрабязна пра незвычайны лёс незвычайнага чалавека мы маем намер расказаць у чарговых нумарах «Беларусі».


**БЕЛАРУСЬ**

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

Выдаецца са студзеня 1930 года.

№ 9 (633)
ВЕРАСЕНЬ
1991 г.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР І ПРАЦОЎНЫ КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку. Мінск.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.07.91.
Падпісана да друку 15.08.91.
Фармат $70 \times 108\,^{1}/_{8}$.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 10 890 экз.
Зак. 392.
Цана 40 кап.

Адрас рэдакцыі:
220005. Мінск,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
«Беларускі Дом друку».

## СЛУЖБА



## ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

### СЦЕЖКА ДА РАДЗІМЫ

Дзякуй вашай выдатнай рубрыцы. З яе дапамогай мы знайшлі адно аднаго.

А цяпер звяртаемся да суайчыннікаў, якія жывуць па-за межамі Беларусі і для якіх часопіс «Беларусь» — сцежка да радзімы продкаў. Звяртаемся да тых, хто рупліва ахоўвае ў сэрцах і ў сваім асяродку родную мову, культуру. Мы вельмі хочам перапісвацца з вамі, тымі беларусамі, што воляю лёсу апынуліся за мяжой. І пажадана, канечне, па-беларуску. Адгукніцеся, сябры!

Наш адрас: СССР. 614077, г. Пермь-77, ул. Крупской, 87, кв. 52, **СИНЯВСКИМ Оксане и Сергею.**

### АДРАСЫ— ПА ЎСЁЙ ПЛАНЕЦЕ

Міжнародны клуб па перапісцы прапануе вам руку дапамогі і сяброўства. Мы наладзілі сяброўскія сувязі са 130 краінамі свету. Мэта клуба: знаёміць паміж сабой людзей з розных краін у імя міру і дружбы на ўсёй Зямлі. Пры рабоце з карэспандэнцыяй мы ўлічваем узрост, захапленні, веданне замежных моў, жаданне перапісвацца з паплечнікамі з той ці іншай краіны.

Адна ўмова: звяртаючыся ў «Дружбу», дашліце разам з пісьмом два-тры чыстыя канверты.

Наш адрас: 220131, г. Мінск, вул. Гамарніка, 35, МКП «Дружба».

### ТАКОГА ЯШЧЭ НЕ БЫЛО!

Ці можна было яшчэ зусім нядаўна ўявіць сабе, што ў нашай краіне стануць магчымымі шырокія асабістыя кантакты савецкіх людзей з замежнымі грамадзянамі? Што рабілі б вы яшчэ ўчора, калі б у вас з'явілася жаданне запрасіць да сябе ў госці замежнага калегу па працы ці такога ж апантанага калекцыянера, як і вы? Ці, тым больш, захацелася б вам самому з'ездзіць у госці за мяжу?

Есць фірма, якая хоча вам дапамагчы. Гэта — сумеснае савецка-польскае прадпрыемства «ГОРО». Знаходзіцца яно ў горадзе Оршы і шчыра заклапочана развіццём нетрадыцыйнага міжнароднага турызму. І калі вы сапраўды маеце жаданне і магчымасць прыняць у сваім доме сям'ю з двух-чатырох чалавек з любой краіны свету, хочаце ўдасканаліць веданне замежных моў, пішыце, звaніце ў гэтую фірму: 211030. БССР, г. Орша, вул. Мінская, 6, СП «ГОРО». Тэлефоны: 27127,23998, тэлекс: 252138 GORO US.

Дарэчы, сям'і, якая прымае замежных турыстаў, фірма аплаціць выдаткі па прыёму.

### ТВОЙ РОДНЫ КУТ

У адным з апошніх нумароў «Беларусі» «Узаемадапамога» вяла гаворку пра новыя ідэі. Такая ідэя ў мяне ёсць. Я б назвала яе «Вяртанне на Радзіму». Мы павінны дапамагчы тым людзям, што «заблудзіліся» ў Саюзе па розных абставінах і мараць вярнуцца дадому, але куды? Галоўная ўмова — каб яны ведалі, як слова «лопата» будзе па-беларуску, тым больш, што апошнім часам у нас і зямлю даюць.

Мне 40 год. Маю Радзіму, сына, бацьку, радню, кватэру, адукацыю, зямлю, прывабную знешнасць, рост 170 см і яшчэ шмат чаго.

Хто напіша?

З прывітаннем

**Таццяна** (336).

## ДА ЎВАГІ ТЫХ, ХТО ШУКАЕ ЗГУБЛЕНЫХ У ВАЙНУ РОДЗІЧАЎ

**Працягваем распачатую ў № 2 «Беларусі» публікацыю спісаў савецкіх людзей, якія ў гады другой сусветнай вайны былі воляю лёсу закінуты на нямецкую зямлю і знайшлі ў гэтай зямлі свой апошні прытулак. Гэтыя спісы былі сабраны нямецкімі таварышамі. Можа, нехта знойдзе тут прозвішча, якое яго зацікавіць. За далейшымі даведкамі звяртайцеся ў рэдакцыю.**

| | |
|---|---|
| **ТАЦЮК Лена** | 02.06.1914—27.08.1943 |
| **ТОРКІНА Валянціна** | 15.05.1923—21.07.1945 |
| **РАБАК Келіна** | 15.05.1901—02.04.1946 |
| **ЗАДАРОЖНАЯ Вера** | 23.08.1882—08.02.1944 |
| **ЗАДАРОЖНЫ Міхал** | 16.11.1924—17.07.1945 |
| **САКАНЕРЦКІ Іван** | 1923—07.08.1945 |
| **САЛДАТАЎ Гаўрыла** | 25.03.1899—12.05.1945 |
| **СТАФАНІЦЫНА Марыя** | 01.01.1913—11.04.1943 |
| **ЦЯСЛЮК Дзмітрый** | 18.09.1902—07.01.1945 |
| **ЧАБАНЕНКА Антон** | 01.03.1904—13.05.1945 |
| **ЧАГУЛА Пётр** | 10.09.1922—19.07.1945 |
| **ЧАРНАХА Васіль** | 1910—02.05.1945 |
| **ЧАРНЫШОЎ Іван** | 1864—15.04.1944 |
| **ЧАРНОЎ Антон** | 15.07.1908—22.12.1944 |
| **ЧВЫЛ Кацярына** | 01.04.1913—17.12.1942 |
| **ТУРАЧЭНКА Надзя** | 1919—26.11.1944 |
| **УРОЦКІ Стафан** | —17.05.1945 |
| **ВІСКУН Аляксандр** | 1909—13.10.1944 |
| **ВЯРЭЧЫН Барыс** | 03.07.1912—25.04.1945 |
| **ВАВЕР Аляксандр** | 03.03.1926—30.03.1944 |
| **ЦАБАРАВА Ефрасіння** | 30.09.1927—15.05.1945 |

**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**

ЛИНИЯ ОТРЕЗА

Ф. СП-1

Министерство связи СССР «Союзпечать»

**АБОНЕМЕНТ** журнал **74820** (индекс издания)

Беларусь

Количество комплектов 1

на 1992 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куда (почтовый индекс) (адрес)

Кому (фамилия, инициалы)

**ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА**

ПВ | место | литер | журнал **74820** (индекс издания)

Беларусь

| Стоимость | подписки | — руб. — коп. | Количество комплектов | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | переадресовки | — руб. — коп. | | |

на 1992 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куда (почтовый индекс) (адрес)

Кому (фамилия, инициалы)

# ПРАЎДА, МЕРКАВАННЕ, ЛЕГЕНДА...

У сярэдзіне мінулага стагоддзя ў Маскве сярод дробных гандляроў, у майстэрнях, а часам і ў вялікіх крамах купцоў, можна было сустрэць невысокага, з выразнымі шэрымі вачамі і высокім ілбом, чалавека. Імя яго было Іван Храмы. Пра ягоную гульню ў шашкі хадзілі легенды. Гуляючы з простымі людзьмі на пэўную грашовую стаўку, што тады было вельмі пашырана, ён за выйгрышную партыю браў мізэрную аплату, а вось багатых купцоў літаральна абдзіраў. Пра яго пакінулі свае ўспаміны ў канцы мінулага стагоддзя некаторыя аматары. А 80-гадовы Д. Лебедзеў узнавіў адну партыю. І. Храмога, бо тады ніхто іх не занатоўваў. Дарэчы, калі яго не стала, то высветлілася, што сапраўднае імя гэтага непераможнага шашыста было Іван Пятровіч Селязнёў. А «Храмы» — мянушка, якая замацавалася за ім, даволі прыкметна кульгавым.

Паглядзіце гэтую адзіную партыю І. Храмога, дзе ён гуляў чорнымі.

1. c3 — b4 f6 — g5 2. g3 — f4 g7 — f6 3. b4 — a5 b6 — c5 4. b2 — c3 c5 — b4 5. a3 : c5 d6 : b4 6. f2 — g3 b4 — a3 7. g3 — h4 e7 — d6 8. h2 — g3 f8 — g7 9. e1 — f2 d6 — c5 10. c3 — d4 c7 — d6 11. d4 : b6 a7 : c5 12. a1 — b2 d8 — c7 13. b2 — c3 c5 — b4! 14. c3 — d4. Другога адказу у белых няма.

Тут чорныя праводзяць бліскучую камбінацыю з імгненнай развязкай: 14...a3 — b2!! 15. a5 : a1 (калі 15. c1 : e7, то 15...f6 : d8 16. h4 : f6 g7 : e1) 15...d6 — e5 16. f4 : d6 c7 : e1.



Выйгрыш чорных.



Выйгрыш.

Пры жыцці І. Храмога ў рукапісах «хадзіла» скрышальная,колападобная камбінацыя, якую ў народзе называлі «Чортава кола». На думку вядомага гісторыка шахмат і шашак, рэдактара многіх шахматна-шашачных аддзелаў Д. І. Саргіна (1859—1921 гг.) такую цяжкую камбінацыю мог скласці толькі І. Храмы.

Паглядзіце гэту эфектную пазіцыю.

Вось яе развязванне: 1. a3 — b4 c5 : a3 2. c1 — b2 a3 : c1 3. c3 — b4 a5 : c3 4. e1 — d2 c3 : e1 5. e3 — d4 c1 : g5 6. d4 — c5 d6 : b4 7. g3 — h4 e1 : g3 8. h4 : h4.

Што ж тычыцца яшчэ адной легенды пра Івана Храмога...

Валодаючы часткай саргінаўскай бібліятэкі, заснавальнік шашачнага руху на Беларусі А. П. Круталевіч, у далейшым прафесар матэматыкі Белдзяржуніверсітэта, расказваў: «Калі, яшчэ да рэвалюцыі, вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, падружыўся з Д. Саргіным. Ад яго даведаўся і пра І. Храмога, і пра тое, што пецярбургскі князь М. Чагадаеў, папулярны тады складальнік шашачных задач, спецыяльна прыехаў у Маскву, каб сустрэцца з ім. За тры дні амаль безупынай гульні князь прайграў 300 рублёў срэбрам і мусіў вярнуцца пабітым у Пецярбург. Але гэту легенду — заўважыў Д. Саргін — трэба яшчэ праверыць.

Дваццацігадовая яго праца над кнігай «Древность игр в шашки и шахматы» (Масква, 1915 г., 400 стар., 350 экз. выданне аўтара), відаць, пакідала мала часу для праверкі магчымага факта.

Заўважу, што сваю бібліятэку, у тым ліку і кнігу Д. Саргіна з часткай архіва, А. Круталевіч, з якім я часта сустракаўся з 1926 года, перадаў мне.

# КРАСВОРД

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1. Рускі палкаводзец. 4. Маятнік у гадзінніку. 9. Хімічны элемент. 10. Горная краіна ў Сібіры. 11. Абласны цэнтр Украіны. 15. Двухкорпуснае судна. 17. Планета. 18. Музычны інструмент. 19. Птушка атрада весланогіх. 20. Традыцыйная беларуская страва. 24. Сорт яблыні. 25. Інертны газ, які выкарыстоўваецца ў электравакуумнай тэхніцы. 26. Група астраваў. 29. Музычны лад. 32. Беларуская савецкая паэтэса. 33. Мінерал, з якога вырабляюць сінюю фарбу. 34. Тып складанага арнаменту. 35. Раздзел фізікі.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Від выяўленчага мастацтва. 2. Каштоўны камень. 3. Спартыўны бег. 5. Нізкі дзіцячы ці жаночы голас. 6. Амерыканскі страус. 7. Зброя для паляванння на мядзведзя. 8. Сталіца Цэйлона. 12. Праверка і выпраўленне друкарскага набору. 13. Возера ў Астраханскай вобласці. 14. Саюзная рэспубліка. 16. Скульптар, стваральнік помніка У. І. Леніну ў Мінску. 21. Спрэчка, дыскусія. 22. Французскі мараплавец, імем якога названы праліў паміж астравамі Сахалін і Хакайда. 23. Змяя з сямейства ўдаваў. 27. Беларускі кінарэжысёр, аўтар фільмаў для дзяцей. 28. Сталь з узорыстай паверхняй. 30. Беларускі савецкі паэт і грамадскі дзеяч. 31. Спартыўны снарад.

Склала **Галіна ІГНАЦЮК.**



## АДКАЗ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 8.

**Па гарызанталі:** 5. Дыван. 6. Палац. 9. Бакара. 10. Ананас. 13. Варэнне. 14. Канцэрт. 15. Мілка. 17. Цісненне. 18. Дэкальтэ. 19. Нашчадак. 22. Абавязак. 25. Атлас. 28. Салітэр. 30. Будынак. 31. Асвета. 32. Абутак. 33. Флёкс. 34. Дзеці.

**Па вертыкалі:** 1. Выхаванне. 2. Каханне. 3. Падарак. 4. Макаранка. 7. Бацькі. 8. Чайнік. 11. Маці. 12. Брат. 15. Мерка. 16. Адрас. 20. Апак. 21. Антрэсоль. 23. Вядомасць. 24. Ачаг. 26. Тэрмас. 27. Абабак. 29. Разетка. 30. Бігудзі.

*РАЗАМ З «БЕЛАРУССЮ» ВАШУ РЭКЛАМУ ПРАЧЫТАЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ І КРАІНЕ, АЛЕ І ЗА МЯЖОЙ — У АНГЛІІ, КАНАДЗЕ, ЗША, ПОЛЬШЧЫ, ШВЕЦЫІ. ЗМЯШЧАЙЦЕ РЭКЛАМУ — І ПРА ВАШУ ПРАДУКЦЫЮ ДАВЕДАЮЦЦА ЗАЦІКАЎЛЕНЫЯ АСОБЫ. «БЕЛАРУСЬ» — ДА ВАШЫХ ПАСЛУГ!*




**НЕ ПЛАНУЙЦЕ СВАЁ ЖЫЦЦЁ БЕЗ НАС!**

ПІШЫЦЕ:
220005, г. Мінск,
вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФАНУЙЦЕ:
33-20-54.

БЕЛАРУСЬ

ФОТАВІКТАРЫНА




# «ВЫ — ПРА ЗОРАК, ЗОРКІ — ДЛЯ ВАС»

**НАШЫ ПЫТАННІ**

- **Назавіце імя гэтага чалавека**
- **Што прынёс яму год 1980-ты!**
- **Якая падзея адбылася ў жыцці гэтага чалавека сёлета!**

**Па ўмовах віктарыны той, хто правільна адкажа на ўсе пытанні, атрымае фотапартрэт «зоркі» з аўтографам.**

Фота Генадзя АНАТОЛЬЕВА.

**КАСТРЫЧНІК**

| П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | | | | | | | | |

Фазы Месяца: ☾—1 — 4 — ветах, ● — 5 — 11 — маладзік, ☽ —12 — 18 — сход, О — 19 — 26 — поўня, ☾— 27 — 2 лістапада — ветах.